**Івонка Сурвіла. ДАРОГА. Стоўпцы — Капэнгаген — Парыж — Мадрыд — Атава — Менск.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) 2-е выд,. дап. — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2018. — 174 с.: іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Рэдактар і ўкладальнік *Сяргей Навумчык*
Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Галіна Рабянкова*

Дзейная старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонка Сурвіла раскazвае гісторыю свайго жыцьця і адказвае на сто пытаньняў з нагоды 100-годзьдзя абвяшчэньня БНР.

У кнізе выкарыстаныя фатаздымкі Івонкі Сурвілы, Паўліны Сурвілы, Янкі Сурвілы, Лявона Шыманца, Сяргея Навумчыка, Уладзіслава Яндзюка, а таксама фота з архіваў сем’яў Шыманцоў і Сурвілаў.

Выданьне зроблена з дапамогай Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага, Ню Ёрк.



ISBN 978-0-929849-87-4

# Зьмест

# Яе азымут

Прадмова да гэтых успамінаў прагучала ў этэры 20 траўня 1954 году, у самы першы дзень вяшчаньня Радыё Свабода («Вызваленьне»):
«У тапаграфіі кут, мераны ўправа ад магнэтнай поўначы, завецца азымутам. Азымут паказвае нам напрамак простага маршу да мэты. Зьмераны на карце кут досыць добра запамятаць, — пасьля, гледзячы на стрэлку компаса, можна ўдзень і ўночы ісьці проста да мэты».
Акурат пра гэтыя, яшчэ ненапісаныя ўспаміны гаварылася ў той гістарычнай перадачы:
«Мы, беларускія эмігранты, маем свой зьмераны і добра запамятаны азымут ад месца нашага прабываньня да нашай мэты — Беларусі. І гэты азымут мы завём азымутам сэрца». Гэтыя ўспаміны мелі на ўвазе іх аўтары, першыя супрацоўнікі «Свабоды», калі тлумачылі: «Залежна ад нашага месца, лічбы азымуту мяняюцца: і так, азымут з Аўстраліі іншы, чым з Англіі, а яшчэ іншы з Канады, але мэта застаецца адна і тая самая — дарагі, родны, паняволены наш край».
Прызнаньне з гэтых успамінаў прагучала на кароткіх хвалях за паўстагодзьдзя да іх напісаньня:
«Вольны, дэмакратычны сьвет прыняў нас наагул добра і даў усе правы вольных і паўнавартасных людзей. Але не асабістага дабрабыту мы тут

шукаем, набіваючы ногі па ўсіх дарогах і бездарожжах чужога сьвету. Мы — як нашыя птушкі ў выраі: гнёздаў ня ўём — павароту чакаем».

Надзея і спадзяваньне гэтых успамінаў заставаліся нязьменныя з моманту першага вяшчаньня:

«Дык дай нам, Божа, каб наша слова дайшло да вас цераз усе запоры і барыкады, каб яно, дайшоўшы, знайшло ў вашых сэрцах пажаданы водгук!»

І непарушная заставалася вера:

«Хоць ноч і зіма лютуюць над нашым краем, мы верым у вясну і сьветлы дзень». Сёмы старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла, якая ніколі не жыла ў незалежнай Беларусі, нарадзілася пад польскім панаваньнем, перажыла савецкую акупацыю, пакінула радзіму падчас гітлераўскай, але яе дарога заўсёды была вольная, і дарога вяла да Беларусі і была яе Беларусьсю, і цяпер яна запрашае ўсіх з сабой у памятныя мясьціны свайго доўгага падарожжа.

Азымут не памяняўся.

*Аляксандар Лукашук, Радыё Свабода*

# Доўгая дарога на волю

*Арышт таты. — Выезд з Баранавічаў. — Усходняя Прусія. — Савецкія самалёты бамбуюць. — Выратавальны карабель*

### Арышт таты

Мне было восем гадоў, калі бацькі, перад другім надыходам бальшавікоў, вырашылі, што ня здолеюць перанесьці новага зьняволеньня, і выбраліся з малымі дзецьмі ў няведамы сьвет.

Нарадзілася я ў Стоўпцах. Першыя гады жыцьця прайшлі ў Засульлі, потым бацькі пераехалі ў Баранавічы.

Першае дасьведчаньне савецкай акупацыі між 1939 і 1941 годам было для іх страшным і незразумелым. Бацьку (ён тады працаваў галоўным інжынэрам на электрастанцыі ў Баранавічах) арыштавалі і засудзілі на пяць гадоў ссылкі ў Сібір. Памятаю, як прыйшлі яго арыштоўваць. Хацелі ў мяне з шыі сарваць залаты крыжык, і я крычала, каб яго ня даць. Мне было толькі тры гады, але памятаю мамі ны сьлёзы.

### Выезд з Баранавічаў

Празь дзевяць месяцаў, калі пачалася вайна, тата нечакана вярнуўся. Вязьні турмы пачулі крыкі на вуліцы, што бальшавікі ўцяклі, і лаваю выбілі дзьверы. Пазьней даведаліся, што праз гадзіну прыехалі іх расстрэльваць.

Другі раз патрапіць у зьняволеньне бацька не зьбіраўся. У 1944 годзе сям’я выехала таварным цягнікам з Баранавічаў у Кёнігсбэрг. Бацьку і маме было тады па трыццаць тры гады, брацiку Лёніку — сем годзікаў, а сястрычцы Прадславе — дзевяць месяцаў.

Ехалі двое сутак — да Беластоку з сотнямі іншых жыхароў гораду ў таварным цягніку, а далей, прадаўшы ровар, які былі захапілі з сабой, — у пасажырскім.

## Усходняя Прусія

Праз Усходнюю Прусію прыйшлося перабірацца дзесяць месяцаў. Жахлівы гэта быў час. Не зьбіралася яго апісваць у гэтых успамінах. Былі гэта апошнія дзесяць месяцаў вайны, а пра вайну беларусы наслухаліся болей як трэба на працягу апошняга паўвеку. Але перажыла я гэты час у дзяцінстве, а сьветапогляд чалавека ў вялікай ступені фармуецца якраз у першыя гады жыцьця. І таму ўспаміны мае былі б, магчыма, незразумелымі бяз гэтай часткі майго жыцьця, між ліпенем 1944 году і траўнем 1945-га.

Апынуўшыся ва Ўсходняй Прусіі, васьмігадоваму дзіцяці цяжка было ўявіць, што дадому ня вернемся. Магчыма, і бацькі не ўяўлялі сабе, якім доўгім будзе выгнаньне. Шмат пазьней, калі ім прыйшлося выбіраць краіну, дзе асяліцца настала, дык выбралі Францыю, бо адтуль, як тады казаў тата, «і пяшком можна будзе вярнуцца дадому». Дасюль шкадую, што тата не дачакаўся кароткага пэрыяду Адраджэньня на пачатку дзевяностых гадоў, калі брат і я зноў пабачылі Беларусь.

## Савецкія самалёты бамбуюць

Пасьля шасьцімесячнага побыту ва Ўсходняй Прусіі ў сярэдзіне зімы мы зноў пачулі гарматы фронту. Увесь пасёлак Даніельс, дзе тата працаваў, сьпешна выбраўся ў дарогу. Была гэта халодная зімовая ноч. Маме і дзецям знайшлося месца на возе разам зь іншымі жанчынамі, а тата ішоў за возам пехатою. З сабою мелі адну малую валізачку з дрэва, куды бацькі ўкінулі крыху сала з парсючка, якога самі былі выгадавалі на зіму.

Так мы «даехалі» да пустой хаткі над Балтыйскім морам, дваццаць пяць кілямэтраў на поўнач ад Піляў, дзе і затрымаліся.

Наш побыт там падаўся мне доўгім і непрыемным. Жыло нас зь дзясятак у адным пакойчыку, разам зь вельмі няветлівымі немцамі. Мора было шумнае і страшнае. Заўсёды дзьмуў вецер. Часта былі чуткі пра караблі ўцекачоў, якія траплялі на міны ды танулі. Аднаго разу сказалі тату ісьці на пляж закопваць трупы людзей, якіх мора прынесла на бераг. Некалькі дзён хадзілі людзі іх закопваць. Расказваў тата, што былі гэта маладыя жанчыны, сотні маладых жанчын.

Неўзабаве савецкія самалёты пачалі бамбаваць вёску. Гэтым разам месца на возе нам не было. Вырашылі бегчы ўздоўж пляжу ў бок Піляў.

Беглі цэлы дзень. Савецкія самалёты шмат разоў прыляталі — стралялі ў нас. Кідаліся мы на пясок. Мама пад сабой хавала сястрычку, тата стараўся пад сябе схаваць мяне і Лёніка. Кулі падалі папросту між нашымі пальцамі. Дзякаваць Богу, ніводная ня трапіла. За намі

пачаў гарэць пляж. Тата сказаў, што, напэўна, гараць людзі ў акопах.

Позна вечарам мы дабеглі да нейкай рачулкі. Трэба было скіроўвацца ў лес, які стаяў уздоўж пляжу. За намі ўсё гарэла. Але мы, дзеці, далей папросту не маглі стаяць на нагах. Мама зайшла з Прадслаўкай у нейкую хату, поўную салдатаў, каб папрасіць дазволу пераначаваць на вэрандзе. Дазвол атрымала, але калі выйшла па нас, мы стоячы ўжо спалі, а Лёніка нідзе не было відаць. Пачалі клікаць. Мама — у плач. А кругом нас ноч, нічагусенькі не відаць, толькі за намі пажар. Тут сталася нешта незразумелае. Раптам убачылі чалавека, здаецца, ва ўніформе, які нам сказаў на нейкай славянскай мове, што дзіцё бачыў на дарозе. Тата пабег у той бок, і хутка ўбачыў Лёніка, які спаў стоячы, абняўшы дрэва.

Назаўтра дайшлі да Піляў. У порце нейкая баржа перавозіла людзей на другі бок вады, на паўвыспу ўздоўж мора, між Піляў і Данцыгам. Але было столькі людзей, што ня мелі ніякай надзеі туды трапіць. Удалося гэта толькі на другі дзень.

### Выратавальны карабель

Ізноў два тыдні ішлі на Захад, разам з сотнямі тысяч людзей. Так мы дайшлі да Віслы. Тут, не атрымаўшы пропуску на баржу (пропускаў чужынцам не давалі), зразумелі, што скончылася нашае выпрабаваньне. Мы паваліліся на мокрай зямлі й заснулі. Нават не было ўжо волі і жыць. Тым часам у даўжэзнай чарзе людзі чакалі, пакуль іх уратуюць. Ледзь пачало віднець, падышоў да нас нейкі жаўнер і спытаўся, колькі нас. Тата адказаў, што пяцёра, і зноў за-

снуў. Праз дзясятак хвілін жаўнер вярнуўся і загадаў: «Хадзеце!» Узяў тату за руку, сказаў накрыць чымсьці галаву, каб не было відаць, што мужчына, і павёў нас на самы пачатак чаргі, на баржу. Заплылі мы шчасьліва на паўвыспу Гэль, насупраць Гдыні. Там ужо былі толькі руіны.

Кожны дзень бачылі, як савецкія самалёты бамбавалі ў сонечныя дні караблі ў порце. Не было сэнсу варушыцца.

Нарэшце дачакаліся пахмурнага дня. Вырашылі ісьці ў порт. Там ужо былі тысячы людзей, якія чакалі магчымасьці зьехаць. Маме паказалі дарогу да карабля, які зьбіраў жанчын зь дзецьмі. Мама не пайшла бяз таты. Раптоўна прыйшло ёй у галаву ўлезьці з Прадслаўкай на кладку, якая вяла да лодак. За ёю палезьлі і мы зь Лёнікам, а за намі тата, у кажушку і з той маленькай валізачкай на плечуку, нібы парабак нямецкай дамы. Тут трэба сказаць, што маму можна было прыняць за даму. Тоненькая, у чорным плюшавым паліто і капялюшыку, хаця і ў дзюравых ботах, ішла ўзьняўшы галаву, як бы ёй і належала павага жаўнераў. Зьбянтэжаныя, вартаўнікі аддавалі чэсьць жанчыне. І так мы дайшлі — апошнія — на апошнюю лодку, якая адвозіла людзей на вялікі карабель, поўны параненых салдатаў.

Там знайшлі месца ў калідоры. Стараліся, каб ніхто нас ня бачыў і ня чуў. Дзесь а поўначы мэдсёстры між сабою казалі, што выбух, які нядаўна чулі, гэта быў той карабель зь дзецьмі і жанчынамі, на які высылалі маму. Хоць плыў ён за нашым, трапіў на міну і ўзарваўся. Загінулі тры тысячы жанчын і дзяцей.

# Данія — наш першы прытулак

*Нас хочуць выслаць з Даніі. — Лекары адмаўляюцца лячыць дзяцей. — Сьмерць Прадславы. — Добрая мэдсястра Тантэ Гэдвіг. — Чаму крычаў Лёнік. — Я адвучылася гуляць у лялькі. — «Лявоніха» перад чужынцамі. — Сям’я Расмусэн. — Год у Капэнгагене. — Тата перакладае Андэрсэна. — Шчасьце вяртаньня*

### Нас хочуць выслаць з Даніі

Першай нармальнай краінай, куды мы дабраліся праз замінаванае Балтыйскае мора за некалькі дзён перад канцом вайны, у красавіку 1945 году, была Данія. Памятаю да сёньня тую раніцу, калі першы раз убачыла з карабля незруйнаваны прыгожы горад зь зялёнымі дахамі. Гэта быў Капэнгаген. Сьвяціла сонца, мора было цёмна-сіняе. Выглядала ўсё неяк нерэальна, як у казцы.

Калі ўвайшлі ў порт, нас пасадзілі на цягнік і разам зь немцамі зьбіраліся везьці назад у Нямеччыну. Хто мы — ніхто нас не пытаўся. Для Даніі ўсе мы былі няпрошанымі гасьцямі, якіх трэба было як найхутчэй пазбавіцца.

### Лекары адмаўляюцца лячыць дзяцей

Пасьля пары тыдняў ваганьня адвезьлі нас усё ж не ў Нямеччыну, а ў лягер уцекачоў зь Нямеччыны, былую ваенную базу Гэвэльтэ.

Пасьля цяжкіх умоваў жыцьця апошніх месяцаў многія людзі пачалі хварэць, і шпіталь хутка напоўніўся дзецьмі. Дацкія лекары адмовіліся лячыць «ворагаў», і дзеці пачалі паміраць, папросту дзясяткамі кожны дзень. Прадслава, Лёнік і я таксама захварэлі.

### Сьмерць Прадславы

Я ляжала ў шпіталі ў тым самым ложку, што сястрычка Прадслава. 26 траўня яна памерла.

### Добрая мэдсястра Тантэ Гэдвіг

Толькі калі бацькі даведаліся, што ўцекачоў зь іншых краінаў пачалі вывозіць у другі лягер, удалося проста скрасьці ноччу цяжкахворага Лёніка (я ўжо была з бацькамі) і пакінуць Гэвэльтэ.

У другім нашым дацкім лягеры, які зваўся Брэмэрсвольд, было каля паўтары сотні ўцекачоў, пераважна з балтыйскіх краінаў, Украіны і Польшчы. Шмат было параненых, хворых. Усіх даглядала цудоўная мэдсястра, Гэдвіг Фрыгор, якую мы называлі Тантэ Гэдвіг — цётка Гэдвіг. Тады яшчэ быў моцна хворы мой васьмігадовы брацік Лёнік. Мама насіла яго на руках, бо ня мог хадзіць. Тантэ Гэдвіг спатрэбілася некалькі тыдняў, каб яго вылечыць.

### Чаму крычаў Лёнік

Памятаю, як аднаго дня раптам пачулі Лёнікаў крык. Крычаў ён на ўвесь голас... Мы думалі, што яго ўкусіла пчала. Але калі да яго прыбеглі, аказалася, што ён першы раз змог падняцца ды стаць на ногі, і крычаў з радасьці.

### Я адвучылася гуляць у лялькі

З таго часу Тантэ Гэдвіг да сваёй сьмерці ў 1960 годзе была нашай блізкай прыяцелькай. Памятаю, як з Брэмэрсвольду завезла мяне на ровары ў краму ў суседні гарадок, каб купіць мне сукенку. Дасюль мы толькі мелі адзежу, у якой выехалі з Баранавічаў... Таксама ад Тантэ Гэдвіг мы атрымалі нашыя (мабыць, першыя ў жыцьці) калядныя падарункі. Лёнік — самалёцік, а я — прыгожую лялечку. Памятаю, колькі часу я правяла, з захапленьнем гледзячы на тую ляльку... Гуляць, праўда, за вайну адвучылася, ня ўмела.

У наступныя гады Тантэ Гэдвіг пазнаёміла мяне з усёй сваёй сям'ёй. Да сёньняшняга дня пляменьнікі і пляменьніцы Тантэ Гэдвіг, якім ужо ўсім пад семдзесят гадоў, лічаць мяне часткай сваёй сям'і, а я іх люблю як братоў і сёстраў.

### «Лявоніха» перад чужынцамі

Але вярнуся ў Брэмэрсвольд, дзе мне давялося першы раз прадстаўляць Беларусь перад чужынцамі. Шматнацыянальная грамада вырашыла наладзіць канцэрт народных танцаў і сьпеваў. Пратанцавала я там — сола! — «Лявоніху», і так добра гэта ў мяне выйшла, што згадзілася прадэклямаваць яшчэ і верш «Слуцкія ткачыхі». Вось толькі перад поўнай заляй зьніклі ў мяне з памяці «Ткачыхі» — і спатрэбілася дапамога таты, каб давесьці да канца гэтае выступленьне...

### Сям'я Расмусэн

З Брэмэрсвольду нас перавезьлі ў курортны гарадок Скодсбарг на поўнач ад Капэнгагену і пасялілі ў перадваенным гатэлі ў адным пакой-

чыку з украінскай сям'ёй. Там я пазнаёмілася з маёй другой дацкай сям'ёй — Хрыстынай, Эляй і Аннай Расмусэн. Яны мяне ня толькі навучылі гаварыць па-дацку, але і паказалі, якая шчасьлівая можа быць штодзёншчына, калі людзі любяць адно аднаго, калі яны талерантныя, добразычлівыя і ветлівыя.

За шэсьць месяцаў, якія я правяла ў сям'і Расмусэнаў у маленькім гарадку Аўгустэнборгу, на поўдні Ютляндыі, я ня чула ніводнай сваркі, ніводнага няветлівага слова. Багатымі яны не былі, але былі даволі шчодрыя, каб дзяліць тое, што мелі, з чужым дзіцём. Калі я іх зноў адведала ў 1954 годзе, я спыталася тады ўжо старэнькую фру Расмусэн, як я магу ёй адудзячыцца за ўсё, што яна для мяне зрабіла. Яна мне адказала: «Калісь зрабі і ты тое самае».

Праз гадоў трыццаць пяць прыпомніліся мне гэтыя словы, калі давялося стварыць Канадзкі фонд дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі. А калі канадцам здавалася, што беларускім дзеткам можа быць цяжка вяртацца ў Беларусь пасьля адпачынку ў Канадзе, я ім расказвала пра мой дацкі досьвед. Пасьля цудоўных побытаў у Аўгустэнборгу я з радасьцю вярталася ў лягер, бо там чакалі мяне бацькі і Лёнік, якія былі для мяне найдаражэйшымі людзьмі ў сьвеце. У тым веку нават не прыходзіла мне ў галаву параўноўваць умовы жыцьця ва ўцякацкім лягеры з умовамі ў Аўгустэнборгу.

### Год у Капэнгагене

Апошні год у Даніі мы жылі ў Капэнгагене, у вялізным лягеры Клевэрмаркет. Тата працаваў па сваёй прафэсіі, я хадзіла ў дацкую школу — была адзіным дзіцём у лягеры, якое дастаткова

добра ведала дацкую мову, каб хадзіць у мясцовую школу. Тады ўжо здала пасьпяхова іспыт у сярэднюю школу. Моцна любіла маю настаўніцу, фрэкен Босэ, зь якою доўгія гады пасьля перапісвалася.

Здаецца, у тым часе тата наладзіў кантакт зь Міколам Абрамчыкам, дзякуючы стараньням якога беларуская грамада ў 1948 годзе змагла пераехаць у Францыю. Тата быў старшынём беларускае грамады ў Даніі.

### Тата перакладае Андэрсэна

Апрача грамадзкае і палітычнае працы, тата перакладаў на беларускую мову казкі Андэрсэна, працаваў над дацка-беларускім слоўнікам і вельмі цікавіўся самой краінай — быў захоплены яе дабрабытам у такі цяжкі паваенны час. Часта пра гэта разважаў — з думкай, як прыстасаваць да Беларусі дацкі досьвед. Як маленькая краіна, безь ніякіх прыродных багацьцяў (тады яшчэ не знайшлі нафты ў Катэгаце), сталася такой заможнай дзяржавай? Думаю, што пытаньне гэтае актуальнае і сёньня.

### Шчасьце вяртаньня

Тры гады, праведзеныя ў Даніі, я і дасюль прыпамінаю з удзячнасьцю. У гэтай першай краіне, якую я пазнала пасьля ваеннай завірухі, я чулася добра і была шчасьлівая. Жыцьцё ў Францыі, дзе я правяла наступныя адзінаццаць гадоў, было нашмат цяжэйшым, хоць таксама шмат заўдзячаю гэтай краіне. Там я скончыла навуку, здабыла веды, якія пасьля моцна спатрэбіліся ў жыцьці. Выйшаўшы замуж, я выехала ў Гішпанію. А дзесяць гадоў пазьней

пераехалі з мужам Янкам і дзьвюма дачушкамі ў Канаду.

З кожнай з гэтых краінаў я зжылася. Калі цяпер адведваю Капэнгаген, Парыж ці Мадрыд, маю ўражаньне, што вяртаюся ў сваю вёску.

Але адначасна заўсёды сумавала па Беларусі. Я заўсёды адчувала недахоп нечага істотнага, неабходнага. Толькі калі вярнулася ў Беларусь у 1992 годзе, пазнала тое бясконцае, стопрацэнтовае, амаль фізычнае, шчасьце, якое толькі раз перажыла перад тым — гэта калі нарадзіла ў Мадрыдзе маю першую дачушку Ганю.

# Мой род

*Засульле і Ішкалдзь. — Наказ бабулі Эвэліны. — Талент бабулі Вольгі. — Татава Вільня. — «Птушкі шчасьця». — «Страчанае пакаленьне» XX стагодзьдзя. — Брат Лявон*

**Засульле і Ішкалдзь**

Усе мае квэбэцкія сябры ведаюць, калі й адкуль з Францыі прыехалі ў Канаду іхныя продкі. Адна сяброўка ведае нават, зь якой парафіі ў Парыжы прыехаў ейны продак у 1689 годзе... Усе архівы тут захаваліся, ніхто іх не вывозіў у іншыя краіны. Сьвятыняў ніхто не руйнаваў. Стагодзьдзямі ніхто не ваяваў на гэтай зямлі.

Я ведаю пра маіх дзядоў толькі тое, што памяталі мае бацькі. У Засульлі, адкуль паходзіць сям'я Шыманцоў, у савецкі час узарвалі царкву. З касьцёлу ў Ішкалдзі, адкуль паходзіць мая мама, архіў вывезьлі.

Засульле я добра памятаю, хаця было мне толькі пяць гадзікаў, калі бацькі перабраліся з Засульля ў Баранавічы. З братам адведалі мы дзедаву хату ў 1992 годзе.

**Наказ бабулі Эвэліны**

У Ішкалдзі я ніколі не была. Але мама часта расказвала пра цудоўны стары касьцёл, які быў у цэнтры жыцьця гэтага прыгожага мястэчка, калі яна была малая. Мой дзед па маме, Язэп

Пашкевіч, у сорак гадоў ажаніўся другі раз — з шаснаццацігадовай дзяўчынай з-пад Міра, Эвэлінай Вільчыцкай. Жылі яны шчасьліва. Мелі пяцёра дзетак, дзьве дзяўчынкі і тры хлопчыкі. Наймалодшы, Альбэрт, быў яшчэ немаўляткам, калі бацька памёр ад «гішпанкі». Маладой удаве Эвэліне жыцьцё сталася вельмі цяжкім. Неўзабаве захварэла і яна — праўдападобна, на сухоты. Апошняе, што сказала перад сьмерцю найстарэйшай дачцэ Эвэліне, маёй маме, — гэта каб ішла вучыцца.

Мама любіла расказваць пра гераічныя гады, калі выконвала гэты запавет. Дзякуючы дапамозе братоў, цяжкай працы і сваёй упартасьці яна скончыла гандлёвую школу ў Баранавічах і дапамагла здабыць сярэднюю адукацыю брату Альбэрту, які пазьней вывучыўся на архітэктара. Маміну сястру, цётку Ганку, я яшчэ пасьпела пабачыць у 1992 годзе. Моцна яна тады плакала, трымаючы ў руках намаляваны татам партрэт сястры, маёй мамы, якой ужо не пабачыла.

### Талент бабулі Вольгі

Пра татаву сям'ю ведаю крыху болей. Адзін прадзед быў у XIX стагодзьдзі сялянскім адвакатам і бараніў у судах людзей, пакрыўджаных памешчыкамі. Ён пазьней стаўся засульскім войтам. Моцна любіў коней. Здаецца, ягоны сын, татаў дзед Васіль, быў сакратаром у нейкага генэрала, пазнаёміўся і ажаніўся зь нямецкай настаўніцай генэральскіх дзяцей.

Казалі, што маёй прабабцы было вельмі цяжка прызвычаіцца да вясковага жыцьця ў Засульлі. Дзед мой, Аляксандар Шыманец, працаваў на будоўлі чыгуначных паравозаў у

Рызе, дзе і нарадзіўся ў 1911 годзе мой тата. Бабуля, прыгажуня Вольга, была адной з чатырох дачок майстра-сталяра Пахома, які рабіў брычкі ў Негарэлым. Наймалодшая сястра, Гэлька, выйшла замуж за амэрыканца і выехала ў трыццатых гадах у Злучаныя Штаты.

Дзед і бабуля Пахомы ў 1938 годзе «зьніклі». Пра Курапаты тата ня ведаў (памёр ён у 1977 годзе), але моцна падазраваў, што дзядоў расстралялі. Калі ў 1939 годзе здолеў нарэшце дабрацца ў Негарэлае, каб іх адведаць (перад вайной гэта было немагчыма, бо між Засульлем і Негарэлым праходзіла польска-савецкая мяжа), знайшоў толькі забітую дошкамі пустую хату Пахомаў.

Мой дзед Аляксандар і бабуля Вольга былі здольнымі й працавітымі людзьмі, хаця зямлі мелі няшмат. Пасьля вяртаньня ў Засульле ў 1919 годзе пачалі адбудоўваць занядбаную гаспадарку. У 1930 годзе дзед пабудаваў новую хату зь дзьвюма спальнямі. Перад вокнамі быў агарод, поўны кветак, а між агародам і вуліцай — сад.

Бабуля была добрай краўчыхай. Мела заўсёды некалькі вучаніц. Шыла яна вельмі прыгожа. Прыгадваецца мне сукенка з чорнага шоўку, з надта ж складанымі дэталямі, якія мяне моцна ўразілі. Між іншым, у Даніі і мая мама таксама пачала шыць. Дый і ў мяне гэта калісьці нядрэнна атрымлівалася, калі ня мела грошай купляць новае адзеньне. Але бабулін талент найбольш яскрава праявіўся ў маёй дачкі — матэматыка Ганны.

## Татава Вільня

Дзяцей сваіх дзед Аляксандар і бабуля Вольга паслалі вучыцца: тату — у Віленскую тэхнічную школу, якую ён скончыў на «выдатна», а дачок — на курсы садоўніцтва. Пра навуку ў Вільні тата падрабязна расказвае ў сваіх успамінах, надыктаваных у пачатку сямідзясятых гадоў. Да канца жыцьця памятаў ён кожны віленскі завулак, кожны архітэктурны помнік, назоў кожнай вуліцы.

Вучыўся тата на інжынэра-электрыка, а марыў пра мастацтва. Лёсы нашыя ў гэтым сэнсе вельмі падобныя. Ён таксама чакаў пэнсіі, з надзеяй, што нарэшце зможа зноў узяцца за пэндзлі. На жаль, дадзена яму на гэта было толькі шэсьць гадоў. Памёр у 66 гадоў, намаляваўшы толькі крыху больш за сотню палотнаў.

## «Птушкі шчасьця»

Тата з мамай пазнаёміліся ў Стоўпцах, на прадстаўленьні «Птушкі шчасьця». У сваіх успамінах тата прыгадвае, як моцна яго ўразіла мама, калі першы раз яе пабачыў. Пажаніліся яны ў Стоўпцах у чэрвені 1935 году. Шмат прыйшлося ім тады перажыць, таму што, як у песьні Шалкевіча, мама была каталічка, а тата — праваслаўны.

Гэта, аднак, не было апошнім выпрабаваньнем у іхным жыцьці. Цяжка сабе ўявіць, што яны перажылі падчас страшнай дарогі на Захад з маленькімі дзецьмі.

## «Страчанае пакаленьне» XX стагодзьдзя

На эміграцыі тата заўсёды працаваў паводле сваёй прафэсіі, але ён ніколі не спрабаваў дамагчыся кар’еры, якая адпавядала б ягоным

ведам і здольнасьцям. Беларускае жыцьцё для яго было нашмат важнейшым, і прысьвячаў ён яму ўвесь свой час. Ён пабудаваў уласнымі рукамі сямейны дом каля Парыжу, пра што я распавяду падрабязна. У апошнія гады свайго жыцьця меў шмат радасьці й задавальненьня з мастацтва.

Як і бальшыня нашай сьвядомай інтэлігенцыі, належаў ён да таго «страчанага пакаленьня» XX стагодзьдзя, якое дзеля чужой волі мусіла пакінуць бацькаўшчыну, пазбаўляючы яе такіх патрэбных ёй сыноў і дачок.

**Брат Лявон**

Татавы тэхнічныя здольнасьці пераняў мой малодшы брат Лявон. Як і для таты, электрыка (да якой пазьней дадалася электроніка), будоўля, усе віды энэргетыкі ня маюць для Лявона сакрэтаў. Брат займаў адказныя пасады, кіраваў аддзелам у вялікай францускай фірме. Апошнія гады перад пэнсіяй працаваў у Беларусі, узначальваў эўрапейскае энэргетычнае прадстаўніцтва ў Менску. Спадзяюся, пра гэта сам раскажа некалі ў сваіх успамінах.





Прадзед Пахом, дзед Аляксандар з бабуляй Вольгай, дачкой Зінай і сынам Уладзімерам (маім бацькам). Рыга, 1913

Мае бацькі Эвэліна і Ўладзімер. 1935






З бацькамі ў Стоўпцах. Зіма 1936—1937

Баранавічы, 1944



У Брэмэрсвольдзе з бацькамі й братам Лёнікам. Данія, 1945



Наша сям’я ў Даніі. 1948








У Даніі

Мэдсястра з Брэмэрсвольду Тантэ Гэдвіг

Эля і Анна Расмусэн. Данія

## Зь беларускага жыцьця ў Парыжы

*Францускі кантракт. — Нас сустракае Рыдлеўскі. — Гатэль на высьпе Ля Гранд Жат. — Я павінна быць найлепшай вучаніцай. — Капліца пад Сэн-Сюльпіс. — Вучуся граць на піяніна. — Я выбіраю замежныя мовы. — Будынак у сквэры Манталён. — Прамовы Міколы Абрамчыка. — Баль у вэтэранаў. — Першае спатканьне зь Янкам Сурвілам. — Тата робіць маркі БНР. — Газэта «За волю»*

### Францускі кантракт

Наша сям'я прыехала ў Францыю 12 красавіка 1948 году, па праграме эміграцыі ўцекачоў — з краінаў, дзе яны апынуліся падчас ці пасьля Другой усясьветнай вайны, у краіны сталага пасяленьня. Пражыўшы тры гады ў Даніі, куды нас закінуў лёс у траўні 1945 году, мы былі змушаныя пакінуць гэтую цудоўную краіну, таму што яна ня мела магчымасьці прыняць сотні тысяч людзей, якія тым ці іншым спосабам туды дабраліся, уцякаючы ад вайны ды бальшавіцкай пагрозы.

Францыі тады якраз патрабаваліся работнікі, і, каб не аддаляцца ад Беларусі, бацькі вырашылі эміграваць туды, разам з бальшынёй беларускіх уцекачоў у Даніі.

Усе мы прыехалі ў Францыю з кантрактамі працы на фэрмах. Паколькі ў Францыі не

хапала рабочых у галіне сельскай гаспадаркі, імігранты мусілі згадзіцца адбыць кантракт на вёсцы перш як шукаць іншай працы. Такі кантракт падпісаў і тата, і мы былі гатовыя, прыехаўшы ў Францыю, пасяліцца недалёка ад Макон-сюр-Сон, у цудоўнай французскай правінцыі Бургонь, куды нас выправілі.

Але выйшла непаразуменьне. Фэрмэр прасіў сям'ю рабочых, а не гараджанаў, ды да таго з малымі дзецьмі. Пабачыўшы нас, перапалохаўся. Гэта дало тату надзею, што мо як зможа адразу перабрацца ў Парыж, дзе ўжо была вялікая беларуская грамада. Прапанаваў фэрмэру паехаць у адміністрацыю. Там паказаў свае дыплёмы і запэўніў, што ня будзе дамагацца працы ў фэрмэра, калі той не жадае яго прыняць. Вось так мы і атрымалі дазвол перабрацца ў Парыж.

### Нас сустракае Рыдлеўскі

У Парыжы нас спаткаў Лявон Рыдлеўскі. Завёз нас на вуліцу дэ Гравіе, 65, дзе тады жыў Прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык з жонкай Нінай. Мы ведалі Міколу Абрамчыка яшчэ з Даніі, куды ён некалькі разоў да нас прыяжджаў. Але заапекаваўся намі інжынэр Рыдлеўскі. Памятаю ягоную ветлівую ўсьмешку. Дагэтуль маю ў альбоме некалькі здымкаў з таго першага дня ў Парыжы: ня ведаючы, як малых пазабаўляць, завёў нас у «фотаматон» (аўтаматычны фатаграфічны кіёск), і зрабілі мы там сэрыю партрэтаў.

Як я даведалася крыху пазьней, беларусы ў Парыжы тады жылі ў чатырох месцах.

Частка жыла на слаўнай высьпе Ля Гранд Жат, якую паўстагодзьдзя раней малявалі ім-

прэсіяністы. Безумоўна, не выглядала яна пасьля вайны так прыгожа, як на пачатку стагодзьдзя, але ўсё ж месца было цудоўнае. Другая частка беларусаў жыла на поўначы Парыжу, недалёка ад Маршэ-о-Пюс. Называлі мы гэтае месца Клінянкур, паводле назвы апошняй станцыі на лініі мэтро, якой туды ехалі. Жылі беларусы таксама на вуліцы Бацарыс, у 19-й акрузе француская сталіцы, і на вуліцы Гамбэта, у 11-й акрузе.

### Гатэль на высьпе Ля Гранд Жат

Спадар Рыдлеўскі завёз нас на выспу Ля Гранд Жат, дзе мы пасяліліся ў адным маленькім пакойчыку старога перадваеннага гатэлю. Толькі пад восень перабраліся ў два пакойчыкі, дзе і жылі, пакуль не купілі кавалка зямлі і не пачалі будаваць сваю хату ў 1952 годзе.

Адзін з пакойчыкаў, тры на тры мэтры, быў нашай сталовай, заўсёды поўнай сяброў, і працоўняй, дзе дзеці рабілі вечарамі школьныя заданьні, а тата даваў лекцыі матэматыкі ды фізыкі хлопцам, якія стараліся прадаўжаць навуку, перарваную вайною. Гэта была таксама спальня бацькоў. Другі пакойчык такой жа плошчы быў спальняй дзяцей і кухняй. Там стаяла і маміна швейная машына, на якой яна старалася падзарабіць пару грошаў, бо тата зарабляў вельмі мала ў маленькім атэльле, дзе рамантаваў маторы.

У тыя гады выспа Ля Гранд Жат была месцам, дзе жылі бедныя эмігранты. Дзіўна, але сёньня гэта адзін з найбольш прэстыжных раёнаў Парыжу. Зусім нядаўна тут набыў кватэру прэзыдэнт Францыі Сарказі.

## Я павінна быць найлепшай вучаніцай

З братам адразу пачалі хадзіць у пачатковую школу, за два кварталы ад нашай вуліцы, хаця я ўжо тады здала экзамэн у сярэднюю школу ў Даніі. Але ж трэба было неяк навучыцца францускай мове. Пасьля перайшлі — Лёнік у тэхнічную школу ў Сюрэн, а я ў гімназію для дзяўчат у Нёі. Гэта была прыватная школа, бо ў Нёі тады не існавала сярэдняй публічнай школы для дзяўчат. Каб атрымаць для мяне нейкую палёгку з аплатай, тата з спадаром Рыдлеўскім мусілі паабяцаць, што я ня толькі здам экзамэны, але і буду найлепшай вучаніцай, прыкладам для іншых дзяўчатак. Шмат я наперайманася падчас наступных сямі гадоў, каб хаця быць на вышыні ды ня страціць стыпэндыі.

У сярэдняй школе я заўсёды мела шмат сяброўак, зь некаторымі яшчэ цяпер сябрую. Іншыя перадусім цанілі тое, што я добра вучылася ды магла ім памагчы. Часта запрашалі дахаты на абед. Жылі яны ўсе ў цудоўных дамах, да стала падавалі служанкі. Але ніколі мне не прыйшло ў галаву параўнаць іхныя ўмовы жыцьця з нашымі. Ніколі не ўважала сябе горшай ці бяднейшай за іх. Наадварот, жыцьцё нашае было нашмат цікавейшае.

## Капліца пад Сэн-Сюльпіс

Кожную нядзелю сям’ёй мы езьдзілі на службу да айца Льва Гарошкі, у капліцы пад касьцёлам Сэн-Сюльпіс. Там звычайна зьбіралася шмат людзей, ня толькі ўніятаў, якіх было ў Парыжы вельмі мала, але і праваслаўных, і каталікоў. Веравызнаньне нас не разьдзяляла, зьяжджаліся мы ўсе, таму што служба была беларуская. Ніна і Вера зь сям’і Дышлюкоў вель-

мі прыгожа сьпявалі падчас службаў. Калі першы раз прыйшлі ў капліцу і пачалі сьпяваць, не папярэдзіўшы айца Льва, дык ён ледзь не самлеў, а ўсе прысутныя былі захопленыя.

Пасьля службы звычайна ўсе разам накіроўваліся ў бок мэтро «Сэўр-Бабілён», пасьля чаго наша сям'я ішла пешкі ў нейкі музэй — найчасьцей Люўр, дзе праводзіла рэшту дня. Часам арганізоўвалі экскурсіі па Парыжы разам зь іншымі суродзічамі. Часта ішлі дахаты па Элізэйскіх палях, захапляючыся па дарозе паркам Цюільры, пляцам Канкорд, Гран Пале, Трыюмфальнай аркай ды іншымі слаўнымі мясьцінамі Парыжу.

**Вучуся граць на піяніна**

З братам Лявонам езьдзілі на курсы беларускай мовы да спадарыні Абрамчык і на курсы рэлігіі да айца Льва. Я таксама вучылася граць на піяніна ў старэнькай настаўніцы ў Аржантэй. Трэба было аўтобусам гадзіну ехаць туды і гадзіну назад, дый задавальненьня ад піяніна было мала, бо не было на чым практыкавацца. Але ў Даніі і Лёнік і я вучыліся граць два гады, бацькі прыкладалі вялікія намаганьні, каб даць нам гэтую магчымасьць, таму думалася, што неяк трэба прадаўжаць. Толькі як пайшла ў гімназію, перастала езьдзіць у Аржантэй, бо зашмат гэта займала часу. Яшчэ цяпер з удзячнасьцю прыпамінаю ўсё, што бацькі зрабілі, каб дзецям даць магчымасьць «людзьмі стацца»...

**Я выбіраю замежныя мовы**

У Францыі я здабыла вышэйшую адукацыю. Спачатку год правучылася ў Вышэйшай ма-

стацкай школе, а пасьля перайшла ў Сарбону, на гуманітарны факультэт. Выбрала мовы — ангельскую і скандынаўскія.

Сарбона тады яшчэ мясьцілася ў гістарычным будынку XVII стагодзьдзя. Будынак для тысяч студэнтаў, якія там вучыліся, быў зацесны. На лекцыі трэба было прыходзіць загадзя і станавіцца ў чаргу ля дзьвярэй аўдыторыі, каб захапіць сядзячае месца. Калі ў бібліятэцы не было месца, то студэнты між лекцыямі ішлі вучыцца ў бліжэйшыя кавярні.

Мая асабістая сытуацыя была яшчэ больш складанай, бо я, як чужынка, ня мела права на стыпэндыю. Жыла ў бацькоў, тры гадзіны кожны дзень марнавала на транспарт. Каб аплачваць цягнік і выдаткі на навуку, летам, а таксама ў суботы і нядзелі я працавала ў краме сувэніраў, дзе і практыкавалася ў мовах. Але падрабязна пра Сарбону — крыху пазьней.

У Францыі я пражыла адзінаццаць гадоў, пакуль ня выйшла замуж і не перабралася ў Мадрыд. Бацькі мае жылі там да канца свайго жыцьця — тата памёр у 1977 годзе, мама ў 1994-м. Да канца жыцьця яны так і не прынялі францускага грамадзянства. Да канца жыцьця ня трацілі надзеі вярнуцца дадому... Цяпер у бацькоўскай хаце жыве мой брат Лёнік зь сям'ёй.

### Будынак у сквэры Манталён

Галоўным месцам спатканьня для беларусаў у Парыжы быў прафсаюзны будынак Францускай канфэдэрацыі хрысьціянскіх работнікаў, у сквэры Манталён. Там адбываліся і выставы, і зборкі, і ўрачыстыя сьвяткаваньні нашай грамады.

Першы раз мы туды прыехалі ў 1948 годзе — здаецца, на сьвяткаваньне праваслаўнага Вялікадня. Было там шмат людзей, і памятаю, што спаткалі нас з кветкамі. Перадаў іх Арсень Монід. Быў там і Міхась Наўмовіч, які тады вучыўся ў Вышэйшай мастацкай школе, і пэўна ж, усе іншыя беларускія парыжане. Хоць мы іх тады яшчэ ня ведалі, вельмі было прыемна ў вялікай беларускай сям'і.

### Прамовы Міколы Абрамчыка

На наступным спатканьні тата расказаў пра наша жыцьцё ў Даніі. Памятаю, як прыгожа гаварыў. Між іншым, таксама заўсёды захаплялася выступленьнямі Міколы Абрамчыка, які быў выдатным прамоўцам. Слухалі яго пасьля кожнага ягонага падарожжа па сьвеце, у тым ліку і ў далёкую Амэрыку. Яшчэ цяпер памятаю, як ён расказваў, як хутка амэрыканцы будуюць дамы, ды дзівіўся аб'ёмам амэрыканскіх газэтаў.

У прафсаюзным доме сьвяткавалі мы кожны год 25 Сакавіка і адзначалі Слуцкае паўстаньне. Пасьля дакладу на тэму дня быў звычайна канцэрт, выступалі зь вершамі, сьпяваў Віктар Жаўняровіч. Падросшы, я часам вяла гэтыя сьвяткаваньні.

У Нёі мы вышылі шмат народных касьцюмаў. Вышывалі іх для студэнтаў у Лювэне, для сябе, для паказу на міжнародных выставах. Ініцыятыва была Ніны Абрамчык, я малявала ўзоры, вышывалі мама, Ніна, Валя Кавалеўская і я. Шмат гадоў пасьля пабачыла ў Канадзе вышываную кашулю з узорам, які я была прыдумала ў свае дванаццаць гадоў у Парыжы.

## Баль у вэтэранаў

З айцом Львом хадзілі на кангрэсы, дзе трэба было трымаць беларускі сьцяг, а часам і прамовіць пару словаў па-французску. Аднойчы Міхасю Наўмовічу трэба было пайсьці на зборку Міжнароднай асацыяцыі вэтэранаў, якая арганізавала супольны баль. Міхась быў заняты і папрасіў, каб пайшла я. Было даволі камічна бачыць на паседжаньні сівых вэтэранаў шаснаццацігадовае дзяўчо... Але адбыла павіннасьць, і беларусы ўзялі ўдзел у імпрэзе. Я ўжо ведала добра французскую мову, і даводзілася рабіць даволі шмат рэчаў, якія звычайна ў такім веку ня робяцца. Прыкладам, запаўняла просьбы на выезд у Амэрыку ці Канаду і падатковыя дэкларацыі, вадзіла новапрыехалых у гарадзкі камісарыят рэгістравацца, а каму было трэба — да лекара ці ў шпіталь. Не магу сказаць, што рабіла гэта зь вялікай прыемнасьцю, але тады не было прынята адмаўляць камуколечы ў помачы.

## Першае спатканьне зь Янкам Сурвілам

Адным з найбольш прыемных успамінаў з таго часу быў Усясьветны зьезд беларускай эміграцыі, які адбыўся ў кастрычніку 1948 году ў Парыжы. Прыемны ўспамін, бо на гэтым зьезьдзе я ўпершыню пабачыла майго будучага мужа, Янку Сурвілу. Зьехалася тады беларуская дзейная эміграцыя зь Нямеччыны, Англіі, Бэльгіі, Францыі. Гэта было яшчэ перад масавым выездам беларусаў за акіян.

Я прышпільвала людзям беларускія сьцяжкі, а яны мне за гэта клалі на талерку некалькі франкаў на аплату выдаткаў, зьвязаных зь зьездам. Кожны нахіляўся, я яму прышпільвала

сьцяжок, пасьля чаго, усьміхнуўшыся, ішоў знаёміцца зь іншымі дэлегатамі.

А тут прыходзіць малады чалавек і кладзе мне за сьцяжок штосьць каля месячнай зарплаты майго таты. Калі я гэта ўбачыла, пабегла за ім, каб сказаць, што ён, відаць, памыліўся, — бо ж ніхто іншы столькі на талерку ня клаў. А ён кажа: не, не памыліўся. Безумоўна, такой шчодрасьці я не магла забыцца, і калі Янка праз год пераехаў з Мэцу, дзе ён тады працаваў, у Парыж, я на яго ўжо глядзела з асаблівым захапленьнем.

### Тата робіць маркі БНР

Зьезд беларускай эміграцыі — адзін з прыкладаў вельмі актыўнага беларускага жыцьця ў тыя гады ў Парыжы. Айцец Леў Гарошка выдаваў рэлігійны часопіс «Божым шляхам». Міхась Наўмовіч зь Януком Філістовічам і, крыху пазьней, з Аўгенем Кавалеўскім выдавалі ратататарам часопіс «Моладзь». Янка Сурвіла выдаваў, таксама ратататарам, Бюлетэнь Усясьветнага аб'яднаньня беларускай эміграцыі. Выдалі беларускі каляндар, тата маляваў сэрыю марак БНР.

### Газэта «За волю»

Аднак адчувалася, што патрэбная сапраўдная газэта. Беручы пад увагу нашыя ўмовы жыцьця, цяжка сабе ўявіць, дзе браліся на ўсё гэта сілы. Раптоўна ўзяліся мы езьдзіць па друкарнях (пераважна езьдзіў тата, а мяне браў з сабою, бо трэба было перакладчыцу), па фабрыках, дзе вылівалі з волава літары ды рабілі прэсы. Пачалі лічыць, колькі кожнай літары трэба, каб надрукаваць беларускі тэкст, зьбіраць

грошы, каб усё гэта закупіць. Нарэшце пачала працаваць беларуская друкарня на вуліцы дэ Гравіе, 65. Платным друкаром стаўся Мікола Лысуха. Набіраў ён па літарцы газэту «За волю», якая тады пачала выходзіць.

Тата і пісаў, і рэдагаваў, і рабіў карэктуру, і рассылаў газэту, і зьбіраў на яе сродкі. Найбольш грошай даваў, праўда, сам. Мама тымчасам езьдзіла ранічкаю на Галі, вялізарны стары рынак у цэнтры (той самы, якому Э. Заля прысьвяціў раман «Чэрава Парыжу» і які пазьней разбурылі), каб таньней купіць бульбы, селядцоў ды сьвіных ножак — бо ж трэба было пракарміць сям'ю.

Газэта перастала выходзіць праз паўтара году, калі Лысуха адмовіўся яе набіраць за грошы, якія грамада магла яму плаціць. А больш грошай цяжка было сабраць — магчыма, таму, што людзі пачалі ўжо выяжджаць у Амэрыку.

## Мікола Абрамчык

*Жук-Грышкевіч і Сажыч. — Мандат ад Васіля Захаркі. — Сустрэчы ў Даніі. — Заснаваньне Радыё «Вызваленьне». — Старшынёўства ў «Парыскім блёку». — Самаахвярная праца*

**Жук-Грышкевіч і Сажыч**

Я мела прыемнасьць і гонар асабіста ведаць трох старшыняў Рады БНР — Міколу Абрамчыка, Вінцука Жук-Грышкевіча і Язэпа Сажыча. (Дарэчы, да гэтага часу пасада кіраўніка Рады БНР у розных крыніцах пішацца па-рознаму — часам прэзыдэнт, а часам старшыня. У цяперашнім Статуце ўжываецца назва «старшыня», але пры перакладзе на іншыя мовы — прэзыдэнт.)

Кожны зь іх быў змагаром за незалежнасьць Беларусі, за сувэрэннасьць беларускай дзяржавы, за волю і дабрабыт беларускага народу. Кожны зь іх, аднак, розьніўся ад сваіх папярэднікаў — як сваім палітычным думаньнем, так і асабістымі зацікаўленьнямі.

Пра Вінцэнта Жук-Грышкевіча, які ўзяў на сябе адказнасьць давесьці да парадку ўнутраныя структуры Рады БНР, мы ведаем шмат дзякуючы зьместоўнай працы пра яго жыцьцё ягонай жонкі Раісы Жук-Грышкевіч.

Доктара Сажыча ў Беларусі шмат хто сустракаў падчас Адраджэньня пачатку дзевя-

ностых гадоў: старшыня Рады БНР браў удзел у сьвяткаваньні 75-х угодкаў БНР у 1993 годзе ў Менску. На ўрачыстым пасяджэньні ў залі філярмоніі разам зь ім быў тагачасны афіцыйны кіраўнік Беларусі, старшыня Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня Станіслаў Шушкевіч. Язэп Сажыч жыў надзеяй, што зможа нарэшце перадаць паўнамоцтвы Рады БНР вольнаму беларускаму парлямэнту ў Менску. Але да гэтага не дайшло, бо парлямэнт, як і ўрад, заставаліся пракамуністычнымі, а незалежнасьць Беларусі не была гарантаваная (пры гэтым, мушу сказаць, урад Кебіча рабіў намаганьні, каб Рада БНР перадала свае паўнамоцтвы).

**Мандат ад Васіля Захаркі**

Пра Міколу Абрамчыка ў Беларусі калі і ведаюць, дык толькі хлусьню, якая публікавалася пра яго ў БССР. Таму раскажу пра гэтага выдатнага дыплямата, палітыка і чалавека.

Мікола Абрамчык быў трэцім старшынём Рады БНР на выгнаньні. Мандат яму перадаў перад сьмерцю Васіль Захарка ў 1943 годзе. Тады, безумоўна, не было магчымасьці склікаць сэсію Рады БНР, каб выбраць новага старшыню Рады. Зрабіў гэта Мікола Абрамчык у сьнежні 1947 году. Там яго пераабралі, і быў ён старшынём Рады аж да свае сьмерці ў 1970 годзе.

Жылі Абрамчыкі ў Парыжы, на вуліцы дэ Гравіе, 65, пакуль не перабраліся ў прадмесьце Парыжу Вільпэнт. У тым памяшканьні было і Згуртаваньне беларусаў Францыі «Хаўрус», выдавалася там газэта «За волю». Калі каталіцкі касьцёл купіў яго для беларускага ўніяцкага сьвятара айца Льва Гарошкі, мясьцілася там

і ягоная бібліятэка, і беларуская каплічка, у якой пазьней адпраўляў беларускія багаслужбы для беларусаў у Францыі айцец Аляксандар Надсан. Гэтая маленькая беларуская мясьціна ў Парыжы, якая зьвязаная з выбітнымі беларусамі і лёсавызначальнымі для дыяспары падзеямі, цяпер, калі я пішу гэтыя радкі, прадаецца. На жаль, цяперашнія ўлады Рэспублікі Беларусь у ёй не зацікаўленыя. Ня ведаю, ці зможа купіць яе наша эміграцыя.

### Сустрэчы ў Даніі

Міколу Абрамчыка я першы раз пабачыла, калі ён прыехаў у Данію дапамагчы беларускай грамадзе ў гэтай краіне змагацца супраць маскоўскіх намаганьняў вярнуць на «радзіму» шматлікіх уцекачоў з Усходняе Беларусі — гэта значыць зь перадваеннага Савецкага Саюзу. Людзі гэтыя рызыкавалі жыцьцём, каб вырвацца зь вялізарнага канцлягеру, якім для ўсіх нас была расейская імпэрыя, а іх хацелі прымусам вярнуць. Расейцы, якімі ніхто не апекаваўся, неаднойчы «вызваляліся» ад прымусовага вяртаньня ў СССР самагубствам. Балтамі, беларусамі, украінцамі апекаваліся іх суайчыньнікі, якія, дзеля іхнага несавецкага грамадзянства перад вайной, не падпадалі пад дамову між Савецкім Саюзам і яго заходнімі саюзьнікамі ў справе прымусовага вяртаньня савецкіх грамадзянаў.

Прэзыдэнт Абрамчык прыяжджаў у Данію некалькі разоў. Спыняўся ён звычайна ў нас. Быў гэта чалавек інтэлігентны і адукаваны, што праяўлялася ў паводзінах і выглядзе. Яго ўсе паважалі. Я яго тады папрасіла, каб напісаў мне пару словаў у маю кніжачку аўтогра-

фаў, якія былі вельмі модныя ў той час. Дагэтуль маю тыя словы, якімі і цяпер ганаруся. Гучаць яны вось так:

*Маленькай, але бравай беларусцы,*
*Івонцы Шыманец,*
*што так моцна змагаецца за сваю беларускасьць,*
*на ўспамін аб спатканьні ў Капэнгазе.*
*ад М. Абрамчыка*
*27 лістап. 1947*
*Капэнгага.*

Прыехаўшы ў Францыю, мы часта бачыліся з Абрамчыкамі. Добра памятаю ў канцы 1948 году Ўсясьветны зьезд беларускай эміграцыі. Арганізавалі яго Мікола Абрамчык, Лявон Рыдлеўскі і Ўладзімер Шыманец. Тады я першы раз бачыла Вінцука Жук-Грышкевіча, а таксама будучага Архіяпіскапа Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Васіля (Тамашчыка) і майго будучага мужа Янку Сурвілу.

**Заснаваньне Радыё «Вызваленьне»**

Калі Абрамчыкі перабраліся з Парыжу ў вёску, запрасілі брата і мяне да сябе на адпачынак. У тым часе, аднак, прэзыдэнт Абрамчык быў найчасьцей пры сваім працоўным стале. Хутка пасьля гэтага паехаў першы раз у Злучаныя Штаты. Звычайна, калі не было яго на нашых зборках (я часта там зьяўлялася), дык быў ён за мяжой. Калі прыяжджаў назад менавіта з Амэрыкі, зьбіралася ўся наша грамада, каб пачуць ягоную справаздачу з падарожжа. Для мяне было гэта заўсёды вельмі цікава, бо ж Амэрыка была ў маім дзіцячым уяўленьні нечым поўнасьцю недасягальным.

Ад 1954 году езьдзіў прэзыдэнт Абрамчык даволі часта ў Мюнхэн, дзе дзякуючы ягоным стараньням пачала дзейнічаць Беларуская служба Радыё «Вызваленьне», цяперашняй «Свабоды».

### Старшынёўства ў «Парыскім блёку»

Увесь гэты час прэзыдэнт Абрамчык адыгрываў вялікую — кіроўную — ролю і ў сувязях між дыяспарамі паняволеных народаў СССР. Ён быў вельмі тактоўны і цярплівы чалавек, меў павагу і давер людзей, якія спрачаліся або варагавалі між сабой. Такт і цярплівасьць забясьпечылі яму і старшынёўства ў «Парыскім блёку», дзе згуртаваліся лідэры нерасейскіх дыяспараў. Яны супольна баранілі інтарэсы нерасейскіх народаў і іхнае змаганьне за незалежнасьць пасьля прадбачанага развалу расейскай імпэрыі, якою быў Савецкі Саюз.

Замежная палітыка была прыярытэтам для Міколы Абрамчыка. І з усіх старшыняў Рады ён найболей зрабіў у гэтым кірунку.

У вялікай меры дзякуючы аўтарытэту Міколы Абрамчыка паўсталі і беларускія радыёперадачы Гішпанскага нацыянальнага радыё. Каб ня ён, беларуская грамада не ўзялася б іх фінансаваць. А без дапамогі беларускага грамадзтва рэдактарам не было б за што жыць у Мадрыдзе, вяшчаючы на Беларусь, бо Гішпанія забясьпечвала толькі тэхнічныя сродкі для вяшчаньня.

### Самаахвярная праца

Мушу тут заўважыць, што рабіў Мікола Абрамчык усю гэтую працу ў надзвычай цяжкіх умовах. Ніякіх прыбыткаў з працы ня меў. Каб пражыць, мусіў таксама разьлічваць на пад-

трымку нашага грамадзтва. Пакрысе з здабытых старых матэрыялаў будаваў сабе маленькую хату для жонкі і маленькага сына Альгерда.

Перадчасная ягоная сьмерць ад цяжкое хваробы была вялікім ударам для беларусаў усяго сьвету. Зьехаліся на паховіны ў Парыж суродзічы з суседніх краінаў, з Амэрыкі, з Канады. Усе адчувалі, што адышоў вялікі беларускі патрыёт і дзяржаўны муж. У БССР адплацілі яму за гэта абразьлівымі мянушкамі й зьняважлівымі абвінавачаньнямі.





Першы дзень у Парыжы. 1948

У парыскай школе. 1948





Будуем хату. Пачатак 1950-х

Наша хата — найпрыгажэйшая на вуліцы





Наша гаспадарка ў Сартрувілі

Зь Нінай і Сямёнам Дударэвічамі. Парыж, 1955



На сьвяткаваньні 25 Сакавіка. Парыж, 1955





Перад касьцёлам Сэн-Сюльпіс пасьля службы. Зьлева направа: Высоцкі, Янка Філістовіч, айцец Леў Гарошка, Лявон Шыманец, Марыян Каранеўскі, Валянціна Кавалеўская, Арсень Монід, Івонка Шыманец, Эвэліна Шыманец, Мікола Лысуха, Янка Сурвіла. Парыж, 1949

Беларуская суполка ў Парыжы са студэнтамі зь Лювэну. Сядзяць: другі зьлева — аўтар гімну «Магутны Божа» Мікола Равенскі, трэці зьлева — прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык. Мы з маці і братам Лёнікам — у другім радзе. Уверсе першы справа — бацька. Парыж, 1950-я





Айцец Леў Гарошка. Парыж, 1947

Мікола Абрамчык (у першым радзе справа) на беларускай імпрэзе. Парыж, 1955

# Як беларусы будавалі дамы ў Парыжы

*Нам падвышаюць плату за жыльлё. — Набываем кавалачак зямлі ў Сартрувілі. — Першы паверх сваімі рукамі. — Два гады ў адным пакоі. — Татаў досьвед і талака*

**Нам падвышаюць плату за жыльлё**

Як я ўжо апавядала, па прыезьдзе ў Францыю наша сям'я пасялілася ў двух маленькіх пакойчыках у старым перадваенным гатэлі, на высьпе, дзе жылі ўжо некалькі беларусаў. Месца было цудоўнае — над ракой Сэнай, спакойная вулічка, магчымасьць вучыцца, седзячы над ракой ды гледзячы на прыгожыя парыскія захады сонца ды «пэнішы», ці баржы, якія павольна плылі па рацэ.

Але памяшканьне нашае, хоць і таннае, знаходзілася ў вельмі няякаснай прыбудове да гатэлю. Зімой вецер веяў праз шчыліны ў дзьверы і вокны, кухарыла мама ў адным з пакойчыкаў, дзе дзеці спалі, адзіны даступны кран (безумоўна, толькі з халоднай вадой) знаходзіўся на іншым паверсе. Але тады ўсё здавалася нармальным — тата паблізу працаваў і быў моцна заняты грамадзкімі справамі, мама старалася як найтаньней нас пракарміць, каб якнебудзь заашчадзіць пару франкаў. Гэтыя франкі нам моцна прыдаліся праз колькі гадоў.

Рэч у тым, што ў 1952 годзе гаспадар вырашыў падвоіць плату за памяшканьне, а плаціць столькі мы не маглі. Тата пачаў шукаць выйсьце. Са мной у ролі перакладчыцы аб'ехаў усе ваколіцы Парыжу з надзеяй, што знойдзем іншае жытло. На жаль, тады яшчэ Францыя толькі пачынала адбудоўвацца пасьля вайны, і памяшканьняў папросту не было.

### Набываем кавалачак зямлі ў Сартрувілі

Тады ўзяліся глядзець, ці можна штосьці купіць. Хутка агледзелі, што і на гэта ў нас не было магчымасьцяў, бо пра пазычку бедным эмігрантам у Францыі і гаворкі не было. Адзіны выхад — купляць кавалак зямлі за горадам і будаваць.

Тата тады быў зьмяніў працу, і каля ягонай фабрыкі, на поўнач ад Манмартру, будаваліся вялікія дамы. Кожны дзень падчас абеду ён хадзіў на будоўлю і глядзеў, як людзі працуюць. Прафэсійны плян, каб атрымаць дазвол ад гораду на будоўлю дому, ён як інжынэр мог зрабіць сам.

Дзесь улетку 1952 году мы знайшлі кусочак зямлі ў мястэчку Сартрувіль, якое знаходзіцца за дванаццаць кілямэтраў на паўночны захад ад мяжы Парыжу. На жаль, мама назьбірала толькі палову сумы, каб яго купіць. Трэба было знайсьці кампаньёна на другую палову. Паабяцаўшы аднаму чалавеку, што тата зробіць яму плян і дапаможа будаваць, вырашылі і гэтую праблему.

Плян хаты, які адпавядаў усім патрабаваньням, горад прыняў бязь цяжкасьцяў. Паколькі грошай не было, тата вырашыў будаваць этапамі двухпавярховы дом, бо ўчастак быў пасьля

падзелу даволі вузкі. Спачатку тата пастанавіў падрыхтаваць адзін пакой, куды можна было б адразу перабрацца. А за грошы, заашчаджаныя на кватэры, кожныя два тыдні можна было б купляць будаўнічыя матэрыялы — цэмэнт, пясок, цэглу, жалеза, а пазьней вокны, дзьверы, падлогу і гэтак далей, і памаленьку сям'ёй будаваць. Толькі калі трэба было заліваць дах ды падлогу між паверхамі, рабілі гэта талакой — разам зь сябрамі-беларусамі, якія прыехалі з намі з Даніі.

### Першы паверх сваімі рукамі

Яшчэ цяпер памятаю дакладна, як гэта ўсё рабілася. Як мы мяшалі цэмэнт зь пяском, як рабілі цагліны, як тата іх клаў, як мы з братам зьвязвалі жалезныя драбінкі для бэтону... Адным з маіх заданьняў было езьдзіць у Сартрувіль чацьвяргамі, калі не было школы, ды прымаць купленыя матэрыялы — бо ж тата сярод тыдня працаваў. Толькі калі прыйшлі татавы канікулы, паставілі палатку і там ужо жылі, пакуль не пабудавалі сьценаў першага пакою нашай хаты.

### Два гады ў адным пакоі

Перабраліся мы перад зімой у нясканчаны яшчэ пакой. Не было электрычнасьці — трэба было вучыцца пры газьніцы, не было вады. Крыху пазьней тата купіў вялікі кантэйнэр, паставіў яго на даху і напаўняў яго вадою зь іншай вуліцы, бо на нашай тады яшчэ вады не было. Жылі мы ў гэтым адным пакоі (чатыры на пяць мэтраў) два гады. Тата за хатай пабудаваў хлеўчык, дзе гадавалі курэй, трусоў, качак.

Таксама быў невялічкі агарод, там пасадзілі бульбу і таматы.

З грашыма было вельмі цяжка, бо ж і брат і я вучыліся. Праўда, мы падзараблялі на свае штодзённыя выдаткі. Я давала лекцыі дзецям. У 1953 годзе ўлетку займалася пару тыдняў з двума малымі хлопчыкамі з Амэрыкі, якіх бацькі прывезьлі ў Парыж, але ня мелі часу імі займацца. Памятаю, зь якой радасьцю аддала зробленыя грошы тату на цэглу.

Хату скончылі ў 1956 годзе — увесь дом пабудавалі самі. Адзіная пазыка, якую мелі, быў кошт увядзеньня электрычнасьці. Грошы на электрыку пазычылі нам цудоўныя нашыя сябры, спадарства Баркоўскія (ён беларус, яна француженка), калі горад правёў электрычнасьць на нашай вуліцы і сталася яна больш даступнай. Атынкавалі хату крыху пазьней. У 1959 годзе, калі я выходзіла замуж, была гэта найпрыгажэйшая хата на нашай — вельмі даўгой — сартрувільскай вуліцы.

### Татаў досьвед і талака

Але дасьведчаньне нашае з будоўляй (прынамсі, татава) на гэтым ня скончылася. Калі нашыя суродзічы пабачылі, што задума пабудаваць свой дом усё ж не была віламі па вадзе пісаная, пачалі цікавіцца, як пабудаваць дамы сабе.

Першаму тата зрабіў плян Міхасю Наўмовічу, які быў купіў кавалачак зямлі ў Вільпэнт, у суседзтве Абрамчыкаў. Міхась пазьней пабудаваў сабе яшчэ два дамы, адзін у горах, а другі над морам. Неаднойчы прыгадваў, што адважыўся гэта рабіць дзякуючы тату. Два наступныя дамы пабудавалі дзьве беларускія сям'і ў

вёсцы Вэр-ле-Гран. Тата ўсім рабіў пляны, тлумачыў, як будаваць, і езьдзіў зь Лёнікам дапамагаць, калі патрэбная была талака. Пабудавалі таксама дамы каля Парыжу паводле татавых плянаў (якія ён заўсёды рабіў бясплатна, па-сяброўску) Емільянчыкі, Хоміч, Забаўскія і шмат іншых.

У сартрувільскім доме тата з мамай жылі да канца жыцьця. Там цяпер жыве брат з жонкаю. Гасьцілі там сотні суродзічаў з усяго сьвету. Многае згадваю, калі часам начую цяпер у маім пакойчыку, які мне збудаваў тата. Брат дабудаваў яшчэ адзін паверх для сваёй сям'і, пакуль жылі бацькі. Нядаўна дадаў вэранду. Выглядае дом прыгожа і праз паўстагодзьдзя пасьля будоўлі.

Тата казаў, што дом гэты быў найбольшым ягоным дасягненьнем. А зрабіў ён у жыцьці вельмі шмат.

# Сарбона

*Знакаміты ўнівэрсытэт. — У аўдыторыях не хапае месцаў. — Дыскусіі ў кавярнях. — Зарабляю на навуку. — Альбэр Камю на іспыце*

### Знакаміты ўнівэрсытэт

Прыехаўшы ў Новы Сьвет, я ўпершыню зразумела, у якім слаўным унівэрсытэце я вучылася. Раней я фактычна не ўяўляла, што слова «Сарбона» сапраўды магло дапамагчы здабыць працу або павышэньне.

У мае студэнцкія гады было ў Парыжы шмат спэцыялізаваных вышэйшых школаў і асобных вышэйшых установаў, як, прыкладам, Мэдычная школа, Школа палітычных навук, Мастацкая школа. Але дзяржаўным унівэрсытэтам у францускай сталіцы была Сарбона.

Мясьцілася яна ў будынку, пабудаваным у XVII стагодзьдзі, які займаў цэлы квартал на левым баку Сэны, і вучылася тады каля дваццаці тысяч студэнтаў. Хоць і вельмі прыемна было наведваць выдатныя курсы выдатных выкладчыкаў, умовы, у якіх прыходзілася вучыцца, былі тады надзвычай дрэнныя.

### У аўдыторыях не хапае месцаў

Залі былі заўсёды напоўненыя, студэнты сядзелі на падлозе і часам слухалі лекцыі ў калідорах. Толькі прыйшоўшы як найменш за паўгадзіны перад лекцыяй, можна было знайсьці месца ў амфітэатрах «Дэкарт» або «Рышэльё».

Але нават і прыйшоўшы загадзя, трэба было змагацца, каб улезьці ў залю (дзьверы чамусьці адчынялі ў апошні момант). Цяпер, калі Парыскі ўнівэрсытэт налічвае не адзін, а дзясятак кампусаў, сытуацыя моцна зьмянілася. Праўда, і студэнтаў цяпер нашмат болей.

А ў той час не хапала месца ня толькі ў амфітэатрах, але і ў бібліятэках. Раніцою бібліятэкі былі перапоўненыя — трэба было шукаць іншага месца, каб не марнаваць часу між лекцыямі. І таму ўсе кавярні вакол Сарбоны займалі студэнты.

### Дыскусіі ў кавярнях

Я праводзіла ўвесь вольны час, прынамсі зімой, у кафэ на вуліцы Траншэ, каля Люксэмбурскага палацу. Там мы зьбіраліся зь сябрамі, пісалі нашыя эсэ і гадзінамі вырашалі праблемы сьвету, ад Альжырскай вайны да фэмінізму Сымоны дэ Бавуар, ад апошняга фільму Шаброля ці Брыжыт Бардо да Рымскага трактату ды будучыні Эўропы. Дыскусіі гэтыя нас прымушалі думаць і адпаведна выкладаць гэтыя думкі. Я вось ня ведаю, ці ня там я найболей «вырабілася» падчас маіх студэнцкіх гадоў. Што несумненна — выпіла шмат кавы і надыхалася цыгарэтнага дыму...

Вясною ідэальным месцам для навукі, а перадусім для падрыхтоўкі да экзамэнаў, быў Люксэмбурскі парк. З маёй добрай сяброўкай Франсуазай Навіян мы асабліва любілі вучыцца ў цені старых плятанаў каля фантану Мэдысі. Яшчэ цяпер, калі вяртаюся ў Парыж, люблю пасядзець каля гэтага фантану.

Елі мы ў студэнцкіх сталоўках, але яны таксама былі замалыя. Заўсёды нехта стаяў з пад-

носам над тваёй галавой — чакаў, каб заняць месца. Расслабіцца ў такіх умовах, безумоўна, было немагчыма. Затое каву пасьля пілі спакойна, зноў у нейкай кавярні. Чалавек да ўсяго прывыкае, і гэты даволі цяжкі спосаб жыцьця здаваўся нам нармальным.

Адбірала ў нас шмат часу праца, якую прыходзілася рабіць летам, суботамі і нядзелямі, каб пакрыць выдаткі, зьвязаныя з студэнцкай штодзёншчынай. Навука была амаль бясплатная, але трэба было здабыць кнігі, кожны дзень заехаць ва ўнівэрсытэт цягніком і аўтобусам, заплаціць за абед і за шматлікія кавы, якія мы пілі. Наняць пакойчык дзесьці ў паддашшы, як гэта рабілі многія студэнты, я ня мела магчымасьці. Кожны дзень марнавала тры гадзіны на язду. З гэтага мела толькі адну прыемнасьць — калі аўтобусам ехала з станцыі «Сэн-Лязар» у Сарбону, праз самы цэнтар Парыжу. Раніцай знаходзіла звычайна месца, каб сесьці й нагледзецца на прыгаство сьвятла і колераў. Назад ехаць у перапоўненым аўтобусе, а пасьля ў цягніку было, на жаль, менш цікава.

### Зарабляю на навуку

З крамы сувэніраў, дзе мы зь сяброўкай Францыязай працавалі каля катэдры НотрэДам, захавала я безьліч цудоўных успамінаў. Практыкаваліся там у розных мовах з турыстамі з усяго сьвету, якія, каб пагутарыць з «парыжанкамі», куплялі ў нас усё, што нам хацелася ім прадаць. Памятаю, у першы дзень працы прадалі мы турыстам усё стар’ё, што назьбіралася ў краме. Нас моцна цаніў за гэта гаспадар, і зарплата была добрая. Працавалі мы там да канца навукі, але гэта адбірала ў нас шмат часу. Затое

за зробленыя грошы Франсуаза, якая вучылася на факультэце гісторыі, езьдзіла ў Грэцыю, а мне ўдалося правесьці паўтара месяца ў Оксфардзе, дзе вывучала адзін з прадметаў курсу «Etudes anglaises» — гісторыю школьніцтва ў Вялікабрытаніі. Іншымі прадметамі гэтага курсу былі палітычная гісторыя Вялікабрытаніі, гісторыя брытанскага мастацтва, гісторыя працоўнага руху ў Вялікабрытаніі.

### Альбэр Камю на іспыце

Абавязковым курсам была і філялёгія (пачынаючы ад германскіх моваў да цяперашняй ангельскай граматыкі). Мусілі перакладаць літаратурныя тэксты ў абодва бакі. На экзамэне перакладу з францускай на ангельскую мову прыйшлося мне перакладаць бяз слоўніка адно з апісаньняў прыроды ў кнізе Камю «Чума». Цяпер, пасьля дваццаці сямі гадоў практыкі, не ўяўляю сабе, як я магла гэта зрабіць. Курс літаратуры ўключаў, апрача гісторыі літаратуры, дэталёвае вывучэньне твораў некалькіх аўтараў (Шэксьпір, Мілтан, Конгрыў, Тэкерэй, Джэйн Остын, Конрад). На экзамэне францускай літаратуры выпала мне тэорыя паэзіі Поля Валеры.

Найболей любіла я, аднак, курсы скандынаўскіх моваў. Праходзілі яны ў іншым будынку, месца там было шмат, студэнтаў мала, ды я мела вялікую перавагу перад студэнтамі й нават прафэсарам, які захапляўся маім веданьнем дацкай мовы. Моцна ўгаворваў мяне працягваць навуку ў гэтай галіне, але я мела іншыя пляны — сьпяшалася скончыць навучаньне, бо ў Гішпаніі чакаў мяне Янка.

# Мой Парыж

*На Манмартры. — Правы бераг і Ле-Марэ. — Левы бераг і Лацінскі квартал. — Тэрасы ў цені плятанаў. — Цюільры. — Ля Гранд Жат. — Вэрсаль. — Вакол Парыжу*

## На Манмартры

Парыскі пэрыяд майго жыцьця ня быў лёгкім, але я разумела, што жыву ў надзвычай прыгожым горадзе. Я ўжо згадвала мясьціны, якія мне былі мілыя. Але толькі калі я пакінула Парыж, адчула, да якой ступені гэты горад мне блізкі. Калі (здаецца, у пачатку сямідзясятых гадоў) ехала таксоўкай зь лётнішча Арлі ў Сартрувіль, забілася ад радасьці сэрца — і я зразумела, што вяртаюся ў маю «вёску».

Ад таго часу я дзясяткі разоў была ў Парыжы і штораз больш ім захапляюся. Французы зь вялікім густам аднаўляюць сваю спадчыну. Найбольшую прыемнасьць, якую мне можа зрабіць брат Лявон, гэта завесьці мяне адведаць мілыя мясьціны. Звычайна абавязкова ідзем на Манмартар. Апошні раз, калі была там з мужам, пазнаёміліся мы і правялі вельмі прыемную гадзінку ці дзьве зь Вінцуком Вячоркам. На пляцы дзю Тэртар Лявон запрашае звычайна на бліны. Пасьля разам аглядаем творы мастакоў з усяго сьвету, якія там зьбіраюцца. Праўду кажучы, добрае штосьці там цяжка пабачыць, але атмасфэра сапраўды ўнікальная.

Важная частка майго Парыжу — рака Сэна зь яе шматлікімі мастамі і дзьвюма выспамі. З мосту дэз Ар не нагледзецца на Сітэ зь яе палацамі, саборам Нотрэ-Дам і найстарэйшым мостам Парыжу, які называецца Новым.

### Правы бераг і Ле-Марэ

Калі працавала студэнткай у краме сувэніраў каля сабору Нотрэ-Дам, часта туды заходзіла. Цяпер захапляюся яго чысьценькімі вежамі й выявамі сьвятых — некалькі гадоў таму фасады Нотрэ-Дам вычысьцілі. Але я яго любіла нават чорным па стагодзьдзях дыму і бруду. За саборам — выспа Сэн-Люі. Бальшыня дамоў на высьпе прынамсі з XVII стагодзьдзя. Нікому не прыйшло ў галаву разбураць іх ды будаваць новыя — каб мець прывілей там жыць, багатыя людзі плацяць мільёны эўра.

Іншы цудоўны стары квартал, па якім моцна люблю прайсьціся, гэта Ле-Марэ, на правым баку ракі. Калі я была студэнткай, ён быў даволі занядбаным. Цяпер стаў надзвычай модны. Там знаходзіцца Музэй Пікаса, адзін з найпрыгажэйшых у Парыжы. Таксама зусім блізенька найбольш знаная беларуская мясьціна ў Парыжы — кватэра ў доме на вуліцы дэ Гравіе, 65.

### Левы бераг і Лацінскі квартал

За Сарбонай, на левым баку Сэны, — гара Сэнт-Жэнэўеў. Крышку далей — старая вуліца Муфтар зь яе слаўнай кавярняй «Контрэскарп», рынкам, вельмі старымі дамамі з шыльдамі, прысьвечанымі колішнім жыхарам, рэстаранамі на кожным кроку, дзе, паводле паданьня,

калісьці елі тры мушкетэры ды іншыя слаўныя героі францускай гісторыі й міталёгіі.

Надзвычай прыемна пасядзець між старымі мурамі ды пакаштаваць тыповых францускіх страваў, уяўляючы сабе, як тут усё выглядала трыста гадоў таму.

## Тэрасы ў цені плятанаў

Тэрасы на вуліцах і бульварах Парыжу — цудоўнае месца адпачынку ня толькі для турыстаў, але і для парыжанаў. На тэрасах былі напісаныя многія творы францускіх (і ня толькі) вялікіх пісьменьнікаў. Яны сапраўды ёсьць часткай парыскага жыцьця. Я заўсёды любіла пасядзець у добрай кампаніі на тэрасе ў цені плятанаў парыскага бульвару.

Памятаю шчасьлівыя моманты, праведзеныя зь Янкам на тэрасе каля фантану Сэн-Мішэль, на пляцы Сэнт-Андрэ дэз Ар, або з мамай у кавярні на бульвары Сэн-Жэрмэн каля Адэону — туды мы заходзілі пасьля наведваньня суседняй кнігарні, дзе часам знаходзілі беларускія кнігі. Пасьля сьмерці таты я выкарыстоўвала мае паездкі ў Сартрувіль, каб разам з мамай адведаць ведамыя мне новыя або адноўленыя мясьціны Парыжу. Мама моцна любіла хадзіць. Пакуль жыў тата, яны разам бывалі ў парыскіх музэях і галерэях.

## Цюільры

Студэнткай я любіла прайсьціся з Мастацкай школы, а то і Сарбоны, да станцыі «Сэн-Лязар», адкуль адыходзіў цягнік у Сартрувіль. Трэба было перайсьці раку, прайсьці праз парк Цюільры між Люўрам і пляцам Канкорд, каля тэатру «Камэдзі Франсэз» і па авэню дэ

ль’Опэра. Між іншым, я часта вярталася ў парк Цюільры зь Янкам і нашымі дзяўчаткамі, калі мы прыяжджалі ў Парыж ужо зь іншых краінаў. Там, між скульптурамі Маёля, было некалькі надзвычай прыемных «бювэт», і можна было цудоўна перакусіць смачным сандвічам з сухой францускай каўбасой.

### Ля Гранд Жат

Вельмі зьмянілася выспа Ля Гранд Жат, дзе мы жылі, прыехаўшы ў Парыж. Месца, якое малявалі ў пачатку XX стагодзьдзя мастакі, у заходнім канцы выспы, можна зноў адведваць. Там цяпер прыгожы парк. Старыя дамы на высьпе разбурылі, пакінуўшы толькі тыя, якіх ня трэба было аднаўляць. І, безумоўна, засталіся старыя «бювэт», дзе цяпер вельмі модна і дорага. Захаваліся й сходы да вады, дзе я калісьці кожны вечар вучылася. На жаль, ніхто пра іх не клапоціцца. Няма колішняй атмасфэры.

### Вэрсаль

Пішучы пра Парыж зь яго цудоўнымі паркамі, не магу не сказаць пра Вэрсаль. Сам палац я наведала першы раз з маёй пачатковай школай увосень 1948 году. Па вяртаньні мы павінны былі намаляваць парк. Дрэвы былі залатыя, неба фіялетавае, палац ружовы — я была захопленая. Аднак пазьней неяк не было часу зьезьдзіць туды цягніком, а машыны ў той час мы ня мелі. Я прыехала туды праз шмат гадоў, каб зрабіць патрэбныя паперы перад шлюбам: гэта быў наш адміністрацыйны цэнтар.

Мы паехалі з маёй сяброўкай Франсуазай, і паколькі трэба было некалькі гадзін чакаць, пайшлі наведаць «Амо дэ ля Рэн» і яе «гаспа-

дарку». Цяжка сабе ўявіць больш прыемнае месца. Шмат разоў мы там былі пасьля таго зь Янкам, бацькамі й нашымі дзяўчаткамі — і заўсёды вярталіся з кучай здымкаў. Затое самой туды ехаць цяпер сумнавата — прыгадваецца час, які ўжо ніколі ня вернецца. Але моцна раю ўсім маім сябрам, каб абавязкова адведалі «хутар» каралевы.

## Вакол Парыжу

Каля сталіцы Францыі ёсьць дзясяткі палацаў зь вялікімі паркамі, якія фактычна зьяўляюцца часткай Парыжу. Адзін зь іх, на поўнач ад сталіцы, — Шанціі, блізенька ад прыгожага гарадка, які называецца Іль Адам. Над ракой, на высьпе, рэстаран — такі, якімі іх маляваў і любіў Рэнуар. Дарогай у Парыж абавязкова трэба заехаць таксама ў Авэр сюр Уаз, дзе пахаваныя Ван Гог і ягоны брат Тэо, недалёка славутага касьцёлу пад цёмна-сінім небам. Аматарам агароднiцтва варта наведаць Жывэрні, дзе Манэ каля сваёй хаты стварыў, мусіць, найбольш вядомы ў сьвеце агарод.

Так, прыгожая французская сталіца ў прыгожых ваколіцах. Войны яе ня зьнішчылі, як зьнішчылі нашу зямлю. І людзі, свае і чужыя, яе шануюць і паважаюць. Мару, што калісь наш народ таксама зразумее вартасьць сваёй спадчыны.



Іду на заняткі ў Сарбону. Парыж, 1950-я




Маркі БНР, зробленыя паводле эскізу бацькі. Канец 1940-х



З айцом Львом Гарошкам і Віктарам Сянькевічам. Парыж, 1958



Каля Нотрэ-Дам. Канец 1950-х



Наша зь Янкам вясельле. Сартрувіль, 1959

# Мае мовы

*Школа для ўцекачоў. — Вучуся дацкай і польскай. — Нашы першыя кніжкі. — Першы стрэс. Па-француску. — Нямецкая і скандынаўскія. — Гішпанская і ангельская. — Семдзесят дзевяць моваў*

## Школа для ўцекачоў

Выяжджаючы ў восем гадоў з Баранавічаў, я размаўляла толькі па-беларуску. Пісала затое лацінкай і кірыліцай, бо скончыла дзьве клясы беларускай школы. Яшчэ памятаю, якое цяжкае было першае спатканьне ў Кёнігсбэргу — цяперашнім Калінінградзе — з чужой нямецкай мовай. Ва Ўсходняй Прусіі, дзе наша сям'я правяла першыя шэсьць месяцаў выгнаньня, для чужынцаў не было месца ў школе. А калі перад надыходам бальшавікоў баўэр, у якога мой бацька працаваў, завёў нас з братам у школу, ужо было запозна вучыцца.

Гаварыць па-нямецку, па-дацку і па-польску я навучылася ў Даніі, куды мы дабраліся, калі мне было дзевяць гадоў. У шматмоўным лягеры для ўцекачоў, у якім нас пасялілі, людзі між сабой гаварылі па-нямецку. За пару месяцаў загаварыла па-нямецку і я.

## Вучуся дацкай і польскай

Якраз у тым часе, у цудоўным гарадку Скодсбаргу, дзе мы жылі, я аднаго дня затрымалася перад акном крамы паглядзець на выстаўле-

ныя там брошкі, прыгожыя бутэлечкі ды падобныя цацкі. Відаць, з такім захапленьнем я на ўсё гэта глядзела, што выйшла прадавачка ды спытала ў мяне нешта па-дацку. Я адказала па-нямецку, што не разумею. Тады яна запытала, ці хачу я навучыцца дацкай. Я з захапленьнем сказала, што так, і мы дамовіліся, што буду прыходзіць кожнага дня да яе на заняткі. Цудоўна я там праводзіла час. Для мяне гатавалі заўсёды нейкі смачны пачастунак, і я вельмі старанна вучыла штодня новыя словы.

Але сапраўды добра дацкай мове я навучылася ў Аўгустэнборгу, на высьпе Альс, калі матка маёй новай сяброўкі, Анна Расмусэн, запрасіла мяне да сябе ў чэрвені 1946 году. Там хадзіла я цэлы месяц у дацкую школу, а пасьля пачаліся вакацыі, і спадарыня Расмусэн узяла яшчэ адну дацкую дзяўчынку з Капэнгагену, каб мне было з кім гуляць і далей вучыць мову.

Калі пасьля двух месяцаў у Аўгустэнборгу я вярнулася ў лягер да бацькоў, дык ужо зусім добра гаварыла па-дацку, што мне дазволіла пайсьці ў дацкую школу. Пазьней нас перавялі, як грамадзянаў Рэчы Паспалітай, у польскі лягер для ўцекачоў — у Даніі беларусаў было замала, каб адкрываць беларускі лягер, і я шэсьць месяцаў хадзіла ў польскую школу, дзе навучылася размаўляць па-польску.

## Нашы першыя кніжкі

Праз увесь гэты час тата вучыў мяне з братам па-беларуску паводле «Беларусі ўчора і сяньня» Найдзюка і Касяка, якую бацькі прывезьлі з сабою з Баранавічаў. Кнігу гэтую берагу і дасюль, разам з школьнымі дыплёмамі бацькоў і некалькімі здымкамі, якія мама мела ў сваёй

сумцы, — гэта адзінае, што мы выратавалі зь Беларусі. Калі ў 1947 годзе Мікола Абрамчык прыслаў нам дзьве кнігі з Францыі, зборнік вершаў Ларысы Геніюш і «Сымона-музыку» Коласа, дык мы з братам Лёнікам іх чыталі бязь цяжкасьцяў. Праўда, праплакалі ўсяго «Сымона»: адзін з нас пачынаў чытаць і, прачытаўшы бачынку, меў поўныя вочы сьлёз і, нічога ня бачачы, перадаваў кнігу другому. Другі таксама чытаў, пакуль мог стрымаць сьлёзы... Ніякая кніга ў жыцьці нас нагэтулькі не расчуліла.

## Першы стрэс. Па-французску

Было мне дванаццаць гадоў, калі мы пераехалі з Даніі ў Францыю, і там прыйшлося вучыць яшчэ адну мову, французскую. Выдалася яна мне страшэнна цяжкой. Шмат тужыла па Даніі, дзе ўсё так лёгка ішло. Спачатку шмат наплакалася. У новай краіне нават кнігі не магла прачытаць. Да таго ж трэба было зноў ісьці ў пачатковую школу — а я ж ужо здала іспыт у Даніі ў сярэднюю. Праўда, гэта дазволіла прывыкнуць да французскай сыстэмы навучаньня. Было тут страшэннае спаборніцтва між вучнямі. Тады ўжо спазнала, што такое стрэс.

Мне спатрэбілася восем месяцаў, каб заняць пачэснае месца між вучнямі мае клясы. Здаўшы зноў экзамэн у сярэднюю школу, пачала вывучаць ангельскую і лацінскую мовы. Ангельская давалася мне асабліва лёгка, магчыма, таму што я ведала дацкую. Праз два гады я пачала дапамагаць іншым вучням з ангельскай мовай. Але якое ж было маё зьдзіўленьне, калі, паехаўшы першы раз у Англію ў 1951 годзе, я нічагусенькі там не разумела, хоць выглядала, што людзі мяне разумелі. Тады я паз-

наёмілася і зь некаторымі ангельскімі нюансамі вымаўленьня, але дасюль не магу сказаць, што імі дасканала валодаю.

### Нямецкая і скандынаўскія

У гімназіі другой «жывой» мовай, якую я выбрала на трэцім годзе навучаньня, была нямецкая. Настаўніца, якая яе выкладала, мела вельмі добрую рэпутацыю, ну і выглядала больш прэстыжна вучыць цяжэйшую мову, якой лічылася нямецкая, чым гішпанскую, якую выбірала бальшыня вучняў.

Да таго ж я хацела выкарыстаць калісь здабытыя веды, хоць у гэтым веку яны гэтак жа хутка зьнікаюць, як зьяўляюцца. Нямецкую мову я вывучала шэсьць гадоў і вельмі добра ведала, пакуль не ўзялася вывучаць ва ўнівэрсытэце скандынаўскія мовы. Тады нямецкая цалкам зьнікла, і дасюль яе ня ведаю. Дацкай затое мела нагоду шмат карыстацца ў 2002-м і 2003 годзе, і аказалася, што яшчэ яе памятаю. Нават дала інтэрвію дацкай тэлевізіі, амаль не карыстаючыся ангельскай мовай.

### Гішпанская і ангельская

Апошняй мовай, якой мне давялося навучыцца, калі ў 1959 годзе выйшла замуж за Янку Сурвілу і пераехала ў Мадрыд, была гішпанская. Заняло гэта аж два гады... Зь Янкам мы, безумоўна, гаварылі па-беларуску, у крамах ня мусіла карыстацца мовай, бо была зь Янкам, а нашы сябры гаварылі па-ангельску або якой іншай мовай, якую я ведала. Зусім мне не дапамагло добрае веданьне францускай мовы. Аднак па-гішпанску з часам навучылася

добра і яшчэ яе ведаю, хаця і мала ёй карыстаюся.

### Семдзесят дзевяць моваў

Веданьне моваў адыграла вялікую ролю ў маім жыцьці. Усе прафэсійныя пасады, якія займала, былі зьвязаныя з мовамі. У Гішпаніі выкладала француску і ангельскую, працавала журналісткай на беларускай, гішпанскай і францускай мовах. Прыехалі мы ў Канаду дзякуючы майму веданьню ангельскай і францускай. У Канадзе працавала перакладчыцай, рэдактаркай, інструктарам перакладчыкаў і рэдактараў, адміністратарам некалькіх аддзелаў — сярод іншага, чатырнаццаць гадоў была шэфам аддзелу перакладаў з чужаземных моваў на француску. Мой аддзел перакладаў тэксты зь сямідзесяці дзевяці моваў.

І цяпер веданьне моваў мне шмат дапамагае ў працы, якую раблю на карысьць Беларусі.

# Звычаі людзей і народаў

*Вопыт пяці краінаў. — Мадэль ідэальнай дзяржавы. — Французы — вялікія крытыкі. — ...і ня менш вялікія эстэты. — Бяз шэрага колеру. — Цеплыня халоднай Канады*

**Вопыт пяці краінаў**

На маю думку, найбольш суб'ектыўныя ўспаміны — пра людзей і звычаі. Залежаць яны ад пэрыяду жыцьця чалавека, ад дасьведчаньня, ад папярэдне пражытага і перажытага, ад веку і самапачуваньня ў канкрэтны момант. Да таго ж кожны інакш успрымае перажытае: адны бачаць, як кажуць французы, тую самую бутэльку напалову поўную, другія — напалову пустую. Аднак кожны досьвед пакідае сьлед у душы — адбіваецца на ўспрыманьні жыцьця, на стаўленьні да сьвету, на паводзінах чалавека, таму думаю, што варта ўключыць у мэмуары і гэты, вельмі суб'ектыўны, аспэкт маіх жыцьцёвых уражаньняў.

Жыла я доўгі час у пяці краінах, адведала зь дзясятак іншых. Перасяленьні з аднае краіны ў другую, хоць і заўсёды цікавыя, не адбываліся бязь цяжкасьцяў.

Кожная краіна — гэта іншая мова, але таксама і іншая штодзёншчына, іншыя звычаі. Іначай людзі апранаюцца, іначай паводзяць сябе, іначай ядуць, іначай ставяцца да іншых. Калі розьніца толькі павярхоўная, дык лёгка да яе

прывыкнуць. Часам, аднак, кранае яна найглыбейшыя рысы характару чалавека. Мясцовыя людзі, між іншым, не заўсёды сябе бачаць такімі, якімі іх бачыць новапрыбылы падарожнік. Але чалавек да ўсяго неяк прывыкае, да добрага і да дрэннага, бярэ гэта за «нармальнае». Думае, што так яно ўсюды.

### Мадэль ідэальнай дзяржавы

Падчас трох гадоў, якія наша сям'я правяла ў Даніі адразу пасьля вайны, я адчувала сябе як у раі. Спаткала шмат добрых людзей, якія дасюль засталіся маімі шчырымі сябрамі. Данія заўсёды будзе для мяне мадэльлю ідэальнай краіны — такой, якой хацела б бачыць Беларусь. Найбольш уразіла дзевяцігадовую дзяўчынку ветлівая ўсьмешка кожнага дарослага чалавека, зь якім спатыкалася ці то на вуліцы, ці ў цягніку, ці ў краме. Бачыла павагу, зь якой ставіліся людзі да маіх бацькоў, бедных уцекачоў з Усходняе Эўропы. Між сабой таксама людзі кантактавалі добра, не падвышалі голасу, не сьмяяліся адны з другіх, нікога не абражалі.

### Французы — вялікія крытыкі

У параўнаньні з Даніяй Францыя мне выдалася страшэнна негасьціннай. Хутка адвыкла ўсьміхацца людзям, бо і мне ніхто не ўсьміхаўся. Наадварот, мае аднаклясьнікі сьмяяліся з таго, што я рабіла ня так, — аж да таго часу, пакуль я ня стала найлепшай вучаніцай у клясе. Француская сыстэма адукацыі закладала правілы спаборніцтва: трэба быць ня проста добрым вучнем, а найлепшым. Пазьней іншыя вучаніцы голасна пратэставалі, калі я здабыла

зашмат узнагародаў за першае месца ў розных прадметах.

Людзі ніколі не задумваліся над тым, як успрымаюць іншыя іхныя паводзіны ці словы. Лёгка ўзвышалі голас, крытыкавалі бяз долі сумненьня ці спачуваньня. Тут мушу зазначыць, што якраз у Францыі я перажыла цяжкі пэрыяд у жыцьці, калі трэба было адаптавацца да чужога асяродзьдзя, зусім іншай культуры, цяжкога эмігранцкага жыцьця і адначасна да пераходнага пэрыяду ў асабістым жыцьці, якім ёсьць век разьвіцьця, росту і здабыцьця ведаў.

**...і ня менш вялікія эстэты**

Францыя, аднак, дала мне вельмі шмат — любоў да інтэлектуальнай працы, захапленьне хараством, павагу да якасьці, дасканаласьці. Форма адыгрывае ў Францыі вялікую ролю. Прыкладам, у галіне мовы. Калі ангельскамоўны амэрыканец вас разумее з паўслова і даруе вам усе вашыя памылкі ў новаздабытай чужой мове, у Францыі, каб вас разумелі й паважалі, вы мусіце выказаць вашую думку ясна і дакладна, безь ніводнай памылкі. Між іншым, француская мова, праз сваю дакладнасьць, адна з найцяжэйшых моваў для перакладчыка зь іншых моваў, а менавіта з моваў менш дакладных.

Вялікую ролю ў Францыі адыгрывае і прыгажосьць у архітэктуры, ва ўрбаністыцы — нездарма Францыя дае сьвету сваю моду. Да ўсяго гэтага я і ўся наша сям'я былі вельмі адчувальныя. Памятаю, зь якім захапленьнем мы знаёміліся з Парыжам, зь якой прыемнасьцю я кожную раніцу ехала аўтобусам з станцыі «СэнЛязар» у Сарбону, праз цэнтар Пары-

жу. Як прыгожа выглядалі восеньню над ракой, між бронзавымі лістамі дрэваў, асьветленых лёгенькім туманам, кожны палац, кожны музэй, кожны стары будынак. Нават хмарачосы ў Францыі своеасаблівыя. Некаторыя зь іх, як, напрыклад, у Дэфанс, найцікавейшыя, а то і найпрыгажэйшыя ў сьвеце.

### Бяз шэрага колеру

З гішпанскай культурай я пазнаёмілася, як выйшла замуж і пераехала жыць у Мадрыд. Горад гэты мне выдаўся ад самага пачатку цудоўным, поўным жыцьця, сьпеваў і музыкі. Нідзе, мусіць, людзі так прыемна не праводзяць час. Калі мы жылі ў Мадрыдзе (ня ведаю, ці яшчэ яно так), увесь горад, уключна зь дзецьмі, быў летам на вуліцах да другой гадзіны ночы. Было ў нас вельмі шмат сяброў — цудоўных людзей. Калі мы вылятаў ў Канаду, усе яны прыехалі на лётнішча нас праводзіць, хоць было гэта ў сярэдзіне тыдня, у сераду, а другой гадзіне дня. Гішпанцы нічога ня робяць напалову. Калі прыяцель — прыяцель на ўсё жыцьцё. Усё там белае і чорнае, сьвятло і цень, дзень і ноч. Шэрага колеру не існуе.

### Цеплыня халоднай Канады

Канада падалася нам вельмі прыгожай у тую перадкалядную ноч, калі мы ўпершыню яе пабачылі, асьветленую тысячамі каляровых лямпачак. Калі праз пару дзён пасьля нашага прыезду пасыпаўся сьнег, дык мы ў захапленьні фатаграфавалі зіму, не зьвяртаючы ўвагі на тое, што на вуліцах Атавы мы былі адны. Усе разумныя людзі, безумоўна, сядзелі дома, у цёпленькіх кватэрах. Але ж яны не пражы-

лі паўжыцьця ў сухім Мадрыдзе, дзе кожная сьняжынка была скарбам.

Хутка і ў Канадзе знайшліся на працы цудоўныя людзі, зь якімі мы пасябравалі. Адзінокімі пачуваліся толькі два тыдні, калі апынуліся бяз мэблі ў пустым новананятым памяшканьні, у той час як увесь сьвет кругом нас сьвяткаваў Каляды.

Сёньня, пасьля болей як трыццаці гадоў, праведзеных у Канадзе, хачу сказаць, што мы тут ня раз адчулі гасьціннасьць і дабрыню канадзкага народу. Але найбольш захапілі нас канадцы пасьля чарнобыльскай катастрофы, калі мы вырашылі дапамагаць ахвярам у Беларусі. Канадзкі фонд дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі, створаны маленькай групкай беларусаў у 1989 годзе, хутка ператварыўся ў чыста канадзкую шматэтнічную арганізацыю, якая дасюль памагае Беларусі й беларускім дзеткам. Гэта дазволіла нам адчуць, чым жыве гэты народ, да якой ступені ён адкрыты і спачувае ўсім, хто церпіць.

# Першае спатканне з Мадрыдам

*Гішпанскія хвалі для беларускага слова. — На апошнім паверсе сьпякоты. — Начныя вартаўнікі. — Нашыя сябры і сяброўкі. — Мы чакаем паштальёна*

**Гішпанскія хвалі для беларускага слова**

З Гішпаніяй зьвязаныя найбольш шчасьлівыя ўспаміны майго дарослага жыцьця. Прыехала я з мужам Янкам з Парыжу ў Мадрыд 29 жніўня 1959 году, праз тыдзень пасьля нашага шлюбу. У Мадрыдзе ад сьнежня 1958 году Янка вёў разам з сваім сябрам Віцем Сянькевічам штодзённыя беларускія радыёперадачы Гішпанскага нацыянальнага радыё. Уяўляю сабе, што ня лёгка было Янку пакінуць Віцю аднаго, каб ехаць жаніцца ў Парыж, бо нават удваіх працавалі яны ад ранічкі да вечару — рыхтавалі штодня пятнаццаціхвілінную перадачу. І таму Янка моцна сьпяшаўся назад у Мадрыд.

Гэта мне абсалютна не перашкаджала, бо і я была захопленая, што мы мелі беларускія радыёперадачы з Мадрыду, і яны адразу сталіся й для мяне найважнейшай падзеяй нашага супольнага жыцьця. Янку спатрэбілася паўтара году, каб здабыць хвалі. Ягонаму, Віцеваму і майму шчасьцю не было канца, калі нарэшце 8 сьнежня 1958 году беларуская мова прагучала першы раз на гішпанскіх хвалях.

Сем наступных гадоў, да 31 траўня 1965 году, мы толькі для іх і жылі. Да канца свайго жыцьця Янка ўважаў, што беларускія радыёперадачы з Мадрыду былі найважнейшым ягоным жыцьцёвым дасягненьнем. Што да Віці Сянькевіча — пазьней слухачы Радыё Свабода будуць ведаць яго як Язэпа Барэйку.

### На апошнім паверсе сьпякоты

Мадрыд мне выдаўся надзвычай прыгожым і цікавым горадам. Незадоўга перад нашым шлюбам Янка наняў маленькае памяшканьне на шостым, апошнім паверсе, на вулічцы Санта Крус дэ Марсэнада — недалёка ад студэнцкай рэзыдэнцыі, дзе ён раней жыў. Адтуль было дзясятак хвілін пешкі да пляцу Гішпаніі і галоўнай мадрыдзкай вуліцы Гран Вія, недалёка пачынаўся стары горад. Але найбольш мне падабаліся тады шырокія бульвары, засаджаныя дрэвамі, дзе так цудоўна было прайсьціся зь Янкам увечары.

Жылі мы на апошнім паверсе, і сонца пякло нам у столь. Днём гарачыня была чамусьці зносная — мо таму, што паветра было вельмі сухое. Бялізна высыхала на вяроўцы між вокнамі за пяць хвілін. Затое ўначы гарачыня не давала спаць. Не было ў нас тады і халадзільніка. Мелі толькі лядоўку, якую трэба было штодня ладаваць лёдам, каб захаваць у сьпякоце неабходныя прадукты.

### Начныя вартаўнікі

Шмат рэчаў мяне вельмі прыемна зьдзівілі ў Мадрыдзе. Прыкладам, млячарні з жывымі каровамі, у цэнтры гораду. Думаю, што гэта быў найлепшы спосаб мець сьвежае малако.

Праўда, хутка пасьля майго прыезду пачалі іх зачыняць — магчыма, сталі больш даступнымі халадзільнікі. Таксама мяне моцна забаўляла прысутнасьць у кожным квартале вартаўніка, галоўная функцыя якога была — адчыняць жыхарам ноччу дзьверы. Трэба было папляскаць у далоні, і вартаўнік за пару хвілін аднекуль зьяўляўся з ключамі... Цяпер іх таксама ўжо няма.

## Нашыя сябры і сяброўкі

У Мадрыдзе апрача Віці Сянькевіча, якога ведала з 1951 году, я мела яшчэ адну добрую сяброўку, Росу-Марыю, зь якою я пазнаёмілася на год раней у Англіі. Праз два гады яна стала хроснай мамай нашае першае дачушкі. Але таму, што яна гаварыла са мною па-ангельску, а ў нашай хаце размаўлялі толькі па-беларуску, мне спатрэбілася болей за два гады, каб навучыцца па-гішпанску.

Сябры Янкі, зь якімі ён жыў падчас заняткаў у мадрыдзкім унівэрсытэце Камплютэнсэ ў супольнай рэзыдэнцыі для студэнтаў з-за «жалезнай заслоны», гаварылі звычайна зразумелымі мне мовамі. Толькі пазьней, калі Віця пазнаёміў нас з адным сваім калегам з унівэрсытэту, вэнэсуэльцам, прыйшлося рабіць высілкі, каб яго зразумець. Ён, між іншым, навучыў нас рабіць цудоўны рыс з рыбай з кансэрваў, які гадамі быў нашым галоўным прысмакам, а то нават і «куцьцёй» на Каляды — бо ж для сапраўднай куцьці ў Мадрыдзе не было ані кашы, ані маку. Да таго ж і Янка і я чуліся даволі разгубленымі ў кухні.

Люіс (так называўся наш новы сябра) быў з багатай сям'і і мог сабе дазволіць часта хадзіць

у тэатар і на канцэрты. А паколькі любіў кампанію, дзякуючы яму (бо самі на гэта абсалютна ня мелі сродкаў) мы пазнаёміліся з гішпанскай сарсуэляй. Запрашаў Люіс нас вельмі часта. На жаль, сарсуэля пачыналася пасьля вячэры ад адзінаццатай вечара, а пасьля сарсуэлі быў звычай заходзіць выпіць нечага прахалоднага ў бары каля тэатру (запрашаў таксама Люіс), так што дадому вярталіся дзесь каля трэцяй ночы. Дзеля працы на радыё нам хутка прыйшлося адмовіцца ад гэтае прыемнасьці.

**Мы чакаем паштальёна**

Самі мы лішніх грошай ня мелі. Калі Янка рабіў захады, каб наладзіць беларускія радыёперадачы, гішпанцы паабяцалі даць толькі тэхніку. Супрацоўнікам не плацілі. На просьбу прэзыдэнта Беларускай Народнай Рэспублікі Міколы Абрамчыка ўтрымоўваць працаўнікоў узялася беларуская дыяспара.

Ведаючы, як цяжка прыходзілася зарабляць грошы новым эмігрантам, жылі мы за мінімум. Але з-за пошты і, магчыма, неразуменьня нашымі людзьмі поўнай нашай залежнасьці ад прысланага імі невялікага чэку, гэты мінімум не заўсёды прыходзіў своечасова.

Памятаю, як часта мы не маглі дачакацца паштальёна, бо не было за што купіць хлеба. Але й гэта нам здавалася другарадным. Як кажуць, мора было па калена. Ды неяк давалі сабе рады. Калі надышла зіма ды зрабілася холадна (у Мадрыдзе зіма халодная з-за вятроў, якія часта веюць з гораў), я кожны тыдзень купляла клубочак воўны і неўзабаве зьвязала Янку на Каляды прыгожы цёплы швэдар. Мне мама пашыла паліто ў Парыжы. Бацькі таксама пад-

кідалі час ад часу пару франкаў, хоць таксама заўсёды жылі сьціпла.

За дзесяць гадоў, якія мы правялі зь Янкам у Мадрыдзе, перажылі мы нямала і цяжкіх момантаў. Найгоршы год быў, магчыма, 1965-ты, калі гішпанцы, пасьля дамовы з Савецкім Саюзам, закрылі шаснаццаць радыёперадачаў, у тым ліку і беларускую. Але пра гэта неяк ня думаецца. У памяці засталіся толькі найшчасьлівейшыя, найпрыгажэйшыя моманты нашага сямейнага жыцьця.

# Беларускія радыёперадачы з Мадрыду

*2383 выхады ў этэр. — Дзесяць гадоў ГУЛАГу за спазьненьне. — Вяшчаньне пачынаецца з «Пагоні». — «Вызваленьне ёсьць справай непазьбежнай...» — Нараджэньне Гані і Паўлінкі*

**2383 выхады ў этэр**

Між 8 сьнежня 1958 году і 31 траўня 1965 году Гішпанскае нацыянальнае радыё перадавала штодзённыя беларускія радыёперадачы, скіраваныя на Беларусь. Былі гэта праграмы цалкам незалежныя, бесцэнзурныя.

Гішпанцы лічылі, што ніхто так добра ня ведае, што хочуць беларусы пачуць, як самі беларусы. Адзінае, чаго вымагалі штодзённа, гэта некалькі радкоў справаздачы пра нашу праграму дня. За шэсьць з паловай гадоў існаваньня беларускіх радыёперадачаў Гішпанскага нацыянальнага радыё прагучалі 2383 штодзённыя праграмы.

Вёў радыёперадачы з Мадрыду мой муж Янка Сурвіла. Я яму дапамагала, калі яго найлепшы супрацоўнік і прыяцель Віця Сянькевіч, зь якім ён пачынаў, выехаў з Мадрыду ў 1961 годзе.

Перадачы Янка ўважаў найбольшым дасягненьнем свайго жыцьця. На само здабыцьцё іх спатрэбілася паўтара году стараньняў —

праўда, пры супрацоўніцтве і падтрымцы органаў Рады БНР, якія забабавязаліся ўтрымоўваць неабходных працаўнікоў радыёперадачаў. Гішпанцы далі нам тэхнічныя магчымасьці з умовай, што беларускае грамадзтва возьме на сябе ўтрыманьне працаўнікоў. На такіх умовах вяліся радыёперадачы з Мадрыду і для бальшыні іншых краінаў.

### Дзесяць гадоў ГУЛАГу за спазьненьне

Ці даходзілі нашыя праграмы да слухачоў у Беларусь? Дасюль дакладна ня ведаю. Ведаю толькі, што даходзілі мадрыдзкія праграмы ў Польшчу і ў балтыйскія краіны. Жывучы яшчэ ў Парыжы, слухала іх сама кожны дзень, пакуль не пачыналі грымець глушыльныя машыны. Было іх, здаецца, аж сем... Але нешта заўсёды можна было пачуць. Гэта было пацьверджана шмат пазьней у кнізе амэрыканца, які правёў нейкі час у савецкім ГУЛАГу ў Сібіры. Ен там пазнаёміўся зь дзяўчынай, беларускай, якую засудзілі на дзесяцігадовую ссылку, таму што на некалькі хвілін запозьнілася з глушэньнем у Менску беларускіх радыёперадачаў з Мадрыду. Тут зазначу, што спазьніцца было лёгка, бо гішпанцы ніколі не былі пунктуальныя й неаднойчы ўключалі радыёперадачу крышку зарана або запозна...

### Вяшчаньне пачынаецца з «Пагоні»

За гэтыя шэсьць з паловай гадоў нам трэба было падрыхтаваць штодня спачатку пятнаццаціхвілінную, а пасьля — ад 21 ліпеня 1960 году — дваццаціхвілінную радыёперадачу, якая перадавалася два разы кожны дзень. Не было тады ні кампутараў, ні факсаў, ні ксэрак-

саў. Мелі ў хаце дзьве прылады — друкарку і радыё, на якім правяралі, як чуваць перадачы.

Раніцай Янка а восьмай гадзіне ехаў на радыё па дэпэшы. Вярнуўшыся, дыктаваў паводле іх навіны дня, якія займалі прыблізна чацьвертую частку радыёперадачы, і пісаў або проста дыктаваў камэнтар на міжнародныя падзеі. Я ў гэтым часе ўжо пачынала перапісваць знойдзены ім або напісаны галоўны артыкул ці гутарку на беларускую тэму. Усяго, апрача першай і апошняй бачынак з прывітаньнем і разьвітаньнем на фоне «Пагоні», трэба было надрукаваць шэсьць з паловай бачынак машынапісу. Гэта займала аж да паўпятай гадзіны па абедзе, а тады ўжо не было іншага выйсьця, як бегчы па таксоўку і імчацца на радыё чытаць праграму.

Так кожнага дня, аж пакуль не прыдумалі рыхтаваць і начытваць наперад нядзельную праграму і, такім чынам, мець адзін дзень адпачынку на тыдзень. Адпачынку, праўда, адноснага — бо трэба было думаць пра перадачу наступнага дня.

**«Вызваленьне ёсьць справай непазьбежнай...»**

У справаздачы, напісанай у 1964 годзе, Янка Сурвіла гэтак пісаў пра зьмест беларускіх радыёперадачаў з Мадрыду:

«Матэрыялы на беларускія тэмы ахоплівалі разнаякую тэматыку — палітычную, сацыяльную, эканамічную, гістарычную. У меру магчымасьці адзначаліся ўсе важнейшыя падзеі ў нашай гісторыі, асабліва ў гісторыі нашага нацыянальна-вызвольнага руху, прыпаміналіся імёны нашых выдатных людзей і іхная дзейнасьць, шмат увагі прызначалася беларусам,

якія сталіся ахвярамі расейска-бальшавіцкага акупацыйнага рэжыму і злачыннай палітыкі гэтага рэжыму на нашай Бацькаўшчыне. Гаварылася аб нашых мэтах — аднаўленьні беларускай незалежнай і сувэрэннай дзяржавы, выказваючы надзею і перакананьне, што вызваленьне нашай Бацькаўшчыны ёсьць справай непазьбежнай. Перадавалі таксама інфармацыі аб жыцьці і дзейнасьці нашых суродзічаў, беларускіх арганізацыяў і інстытуцыяў у вольным сьвеце. Нашыя нацыянальныя справы і праблемы мы трактавалі безь ніякіх абмежаваньняў, як бы гэта рабілі будучы ў сябе дома».

Думаю, што маглі мы гэта ўсё рабіць таму, што энтузіязму нашаму не было канца, і таму, што абодва бясконца цанілі кожны момант нашага супольнага жыцьця і нашай супольнай працы.

### Нараджэньне Гані і Паўлінкі

Матэрыяльна жыцьцё ў Мадрыдзе было цяжкім. Жылі мы за мінімум, на мяжы беднасьці. Я пачала даваць прыватныя лекцыі францускай і ангельскай моваў, каб купіць тоесёе неабходнае, але часу на гэта не было шмат.

Два разы за гэты час былі мы зь Янкам у Таледа, раз у Сэговіі, некалькі разоў наведалі Эскарыяль. Якія гэта і дасюль цудоўныя ўспаміны! Рэшту Гішпаніі пабачылі ўжо шмат пазьней, пасьля закрыцьця беларускіх радыёперадачаў. А поўдзень упершыню пабачылі ў 1982 годзе, турыстамі з Канады. Затое Мадрыд вельмі добра ведалі й моцна любілі. Мелі шмат добрых сяброў, якія засталіся дасюль блізкімі.

Дзякуючы ім змаглі выжыць пасьля закрыцьця радыёпраграмы, аж пакуль не знай-

шлі новую працу — я выкладчыцай французскай мовы ў Французскім інстытуце ў Мадрыдзе, а Янка журналістам на Гішпанскім радыё.

Пражылі мы яшчэ пяць гадоў у Гішпаніі да выезду ў Канаду. У Мадрыдзе нарадзіліся нашыя дочкі Ганя і Паўлінка, з часам жыцьцё сталася нармальным. Пачалі кожны год езьдзіць у Францыю да бацькоў на цэлы месяц, а пасьля яшчэ на тыдзень да мора. Заўсёды буду памятаць і шанаваць Гішпанію як шчодрую краіну, якая дазволіла Янку скончыць навуку, а пасьля дала нам магчымасьць працаваць для бацькаўшчыны, і ўсё гэта — не спадзеючыся ад нас нічога ўзамен.



У мадрыдзкім парку. 1960





Каляды. Мадрыд, 1959

Гішпанцы адзначаюць Вялікдзень





Беларускія праграмы на Гішпанскім радыё мы зь Янкам рыхтавалі
ў чатыры рукі. Мадрыд, 1964



У Мадрыдзе пад «Пагоняй». 1959





Сямейныя Каляды. Ганна, Івонка, Паўлінка й Янка. Мадрыд, 1964

З дочкамі Ганнай і Паўлінкай. Мадрыд, 1965





Мая малодшая дачка Паўлінка. Мадрыд, 1967

З Ганяй і Паўлінкай. 1968

# Беларускае жыцьцё ў сталіцы Канады

*Уладкоўваюся перакладчыцай. — Радасьць бачыць суродзічаў. — Знаёмім зь беларускай культурай. — У Этнакультурнай радзе. — Абраза накладам 400 тысяч. — Наш сьцяг перад парлямэнтам*

**Уладкоўваюся перакладчыцай**

У сталіцу Канады Атаву мы з мужам і дзеткамі прыехалі з Гішпаніі на Каляды 1969 году. Да нашага прыезду беларускага асяродку ў Атаве не было.

Сталіца Канады Атава — невялікі горад між Манрэалем і Таронта, дзе месьціцца бальшыня фэдэральных урадавых установаў краіны. Прыехалі мы сюды, прачытаўшы ў француской газэце «Лё Монд» абвестку аб патрэбе ў канадзкай адміністрацыі перакладчыкаў з ангельскай на францускую мову. Веды, якіх патрабавалі ад кандыдатаў, я мела, і падалося нам, што было б цікава зьведаць гэтую далёкую краіну. Дык вось, падала на экзамэн, у канадзкай амбасадзе ў Мадрыдзе здала яго, і 10 сьнежня прыляцелі ў Атаву. Назаўтра, 11 сьнежня, я ўжо пачала працаваць на новым месцы.

**Радасьць бачыць суродзічаў**

У той час найбольш актыўная беларуская грамада жыла ў Таронта. У Манрэалі было таксама шмат беларусаў, але там ужо было неяк

заціхла беларускае жыцьцё, перадусім пасьля выезду ў Злучаныя Штаты некаторых правадыроў манрэальскага беларускага асяродку. У Вініпэгу таксама была даволі актыўная група аж да пачатку васьмідзясятых гадоў. Былі меншыя асяродкі ў Садбэры, якія арганізацыйна належалі да Таронта.

Першыя беларусы, якіх мы спаткалі ў Канадзе, былі Акулы і Грыцукі, якія прыехалі нас адведаць перад тым, як мы займелі аўтамабіль. Алесь і Вольга Грыцукі жылі з малой дачушкай у Кінгстане, толькі дзьве гадзіны дарогі ад Атавы, дзе спадар Алесь працаваў бібліятэкарам у Кўінскім унівэрсытэце. Мы хутка зь імі пасябравалі й часта бачыліся. Кастуся Акулу мы зноў пабачылі толькі на пачатку 1971 году, калі першы раз паехалі ў Таронта.

Пасьля доўгіх гадоў у Мадрыдзе, дзе іншых беларусаў не было, адчувалі вялікае шчасьце ад сустрэчаў з суродзічамі, і кожная нагода была добрая, каб ехаць у доўгую дарогу. З Атавы ў Таронта ў тым часе трэба было ехаць ледзьня шэсьць гадзін летам, калі была сухая дарога. Нягледзячы на гэта, у 1972 годзе езьдзілі мы туды аж дванаццаць разоў.

У Таронта беларуская грамада мае дзьве царквы: Сьвятога Кірылы Тураўскага і Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай. Дамы для гэтых рэлігійна-грамадзкіх цэнтраў былі набытыя нашай эміграцыяй яшчэ ў пяцідзясятыя гады, на супольныя ахвяраваньні. Там адзначалі беларускія нацыянальныя сьвяты ды ўгодкі падзеяў з гісторыі Беларусі й з жыцьця слаўных беларусаў. Затое менш зьвярталася ўвагі на міжэтнічнае жыцьцё ў Канадзе. Праўда, восем гадоў, між 1970 і 1978 годам, моладзь брала

ўдзел у міжнародным фэстывалі «Караван» — і з гэтае нагоды дзясяткі тысяч канадцаў адведалі наш рэлігійна-грамадзкі цэнтар на вуліцы Сэнт-Клярэнс у Таронта, але звычайна арганізоўваліся імпрэзы для сваіх людзей. Найважнейшым заданьнем лічылі захаваньне беларускай мовы, культуры і сьвядомасьці ў Канадзе.

### Знаёмім зь беларускай культурай

У Атаве адразу паўстала магчымасьць выканаць іншае даручэньне статуту Згуртаваньня Беларусаў Канады — знаёміць Канаду зь Беларусьсю і нашымі нацыянальнымі імкненьнямі.

Першай паважнай імпрэзай, якую мы арганізавалі пасьля майго абраньня ў 1974 годзе на старшынёўства Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва ў Канадзе, стаў Беларускі тыдзень студыяў, прысьвечаны беларускай прысутнасьці ў Паўночнай Амэрыцы. Ён прайшоў у 1975 годзе ў Атаўскім унівэрсытэце. Змаглі гэта зрабіць дзякуючы вельмі добрым сябрам у Славянскім аддзеле, а таксама знаёмству з канадзкімі ўрадавымі структурамі, дзякуючы якому навязалі супрацоўніцтва Аддзелу шматкультур’я канадзкага ўраду і Канадзкага музэю чалавека. Праўда, арганізацыя такой падзеі заняла шэсьць месяцаў. Аб’ехалі мы тады шмат беларускіх асяродкаў у Злучаных Штатах і Канадзе, каб сабраць дастаткова твораў народнага мастацтва на прафэсійна арганізаваную музэем выставу, якая адбылася ва ўнівэрсытэце ў рамках нашага Тыдня студыяў. Шмат высілкаў спатрэбілася, каб здабыць на ўсё гэта сродкі, зацікавіць журналістаў і дакладчыкаў ды арганізаваць супольна з унівэрсытэтам вечар у гонар Натальлі Арсеньневай і канфэрэнцыю, у

якой бралі ўдзел найвыдатнейшыя навукоўцы беларускай дыяспары Паўночнай Амэрыкі і некалькі вядомых украінскіх беларусістаў. Былі доктар Тумаш, Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель, Антон Адамовіч. Быў даклад Стася Станкевіча (хаця дзеля стану здароўя сам ён не прыехаў), гучаў даклад украінскага паэта Славутыча. Усяго дванаццаць дакладаў. Задавальненьне было вялізарнае.

Пасьля гэтага не было тыдня, каб ня трэба было ісьці мужу або мне на міжэтнічныя паседжаньні ці імпрэзы, у арганізацыі якіх часта бралі ўдзел. Янка звычайна займаўся палітычнай дзейнасьцю зь іншымі этнічнымі групамі, а я брала ўдзел у шматкультурным жыцьці і ў сувязях у галіне культуры.

## У Этнакультурнай радзе

У канцы 1975 году запрасілі мяне ў арганізацыйны камітэт Шматкультурнай канфэрэнцыі жанчын Атавы, дзе я мела нагоду пазнаёміцца з шматлікімі групамі канадзкай сталіцы. Мы сталіся часткай усяго, што рабілі культурныя групы. У 1979 годзе адбыўся тут першы фэстываль «Бацькаўшчыны», у якім мы занялі вельмі пачэснае месца і бралі ўдзел аж да 1989 году, калі заняліся арганізацыяй Канадзкага фонду дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі.

У 1984 годзе мяне выбралі ва ўправу Канадзкай этнакультурнай рады. У яе ўваходзілі больш за трыццаць галоўных этнічных групаў Канады, якія прадстаўлялі трацiну насельніцтва Канады. Спачатку я там была звычайным сябрам, прадстаўляючы беларускую грамаду ў Канадзе, а пазьней мяне выбралі сябрам управы й сябрам канстытуцыйнага камітэту.

Я была тады адзіным сябрам управы, хто добра ведаў французскую мову, таму прыходзілася часта прадстаўляць раду на спатканьнях з канадзкім урадам і парлямэнтам.

Недзе ў тым жа часе дачку Паўлінку выбралі старшынёй моладзі Канадзкай этнакультурнай рады. Дачка Ганя была ў 1979—1980 гадах наймаладзейшым сябрам дарадчай рады міністра, які адказваў за палітыку шматкультур'я. Прэм'ер-міністар сам запрасіў яе ў раду, калі пачуў Ганін выступ на канфэрэнцыі моладзі, дзе яна прадстаўляла беларусаў.

Усюды мы стараліся, каб пра беларускую прысутнасьць у Канадзе і наагул пра Беларусь ведалі канадцы і іншыя групы.

## Абраза накладам 400 тысяч

У тым часе Янка актыўна працаваў у Радзе паняволеных народаў, дзе бараніў палітычныя інтарэсы беларускага народу. Тады якраз канадзкі ўрад выдаў накладам 400 тысяч асобнікаў мапу афіцыйных моваў сьвету і адзінай афіцыйнай мовай усяго Савецкага Саюзу назваў расейскую. Гэта прадстаўнікі паняволеных народаў — так называлі народы СССР і камуністычнага лягеру — успрынялі як абразу. Пачалі захады, каб выправіць такую недарэчнасьць. І ўрэшце дамагліся, каб мапу перавыдалі. Дзякуючы прысутнасьці Янкі беларуская мова была ўключаная ў сьпіс афіцыйных моваў сьвету.

У канцы васьмідзясятых гадоў я таксама даказала канадзкаму прадстаўніку ў Міжнароднай арганізацыі нормаў, што беларуская мова не называецца па-беларуску «белорусским языком», як там было сказана. Такім чынам, па-

мылка была папраўленая ў публікацыях Міжнароднай арганізацыі нормаў на просьбу не БССР, а Канады.

**Наш сьцяг перад парлямэнтам**

Для нас гэта былі вялікія перамогі, бо праз усе гэтыя гады трэба было на кожным кроку змагацца, каб вярнуць Беларусь на мапу сьвету. Савецкі Менск гэтым абсалютна не цікавіўся, а Масква хавала ад сьвету, што мы наагул існуем. Разам з прадстаўнікамі іншых паняволеных народаў беларусы бралі ўдзел у дэманстрацыях, менавіта ў так званы «Дзень чорнай стужкі» (угодкаў дамовы Рыбэнтропа з Молатавым), і наш бел-чырвона-белы сьцяг узьнімаўся між іншымі сьцягамі на плошчы перад канадзкім парлямэнтам.

Не было такой магчымасьці інфармаваць пра Беларусь, якой мы не стараліся скарыстаць.

# Ад акіяну да акіяну: беларускія дзеткі ў Канадзе

*Сустракаем гасьцей. — «У Беларусі ўсё нармальна...» — Пачынаем зьбіраць грошы. — Семдзесят сем'яў прапаноўваюць дапамогу. — Адказы на сотні пытаньняў. — Ад акіяну да акіяну*

**Сустракаем гасьцей**

...Нашая маленькая групка беларусаў, зь вялікім бел-чырвона-белым сьцягам у руках, не магла дачакацца на лётнішчы Мірабэль у Манрэалі першых беларускіх дзетак, якія ў гэты час ляцелі ўжо дзесь над Канадай да нас у госьці. Былі з намі і сем'і, якія запрасілі да сябе дзетак на шэсьць тыдняў адпачынку, і, безумоўна, шмат журналістаў, якія хацелі ўсё ведаць пра дзяцей, прычыны іх прыезду, пра Чарнобыль і пра Беларусь.

Было гэта ўлетку 1991 году, праз тры месяцы пасьля таго, як атаўская газэта «The Ottawa Citizen» зьмясьціла інтэрвію з Генадзем Грушавым, у якім ён расказаў пра чарнобыльскую бяду ў Беларусі й яе наступствы для здароўя беларускіх дзетак.

**«У Беларусі ўсё нармальна...»**

Разам зь Янкам, Зінай Гімпелевіч, Паўлінай Сьміт-Пашкевіч і Барысам Рагулем мы стварылі Канадзкі фонд дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі яшчэ ў 1989 годзе, калі ўпершыню

даведаліся праўду пра наступствы Чарнобылю. Датуль гаварылася ў Канадзе толькі пра наступствы ва Ўкраіне, а калі я пайшла ў аддзел ядзернай энэргіі міністэрства здароўя Канады, мяне там запэўнілі, што пра Беларусь няма вестак — «выглядае, што ўсё нармальна». Толькі ў 1989 годзе мы прачыталі ў беларускіх газэтах, якія тады ўжо атрымоўвалі, да якой ступені пацярпела Беларусь.

### Пачынаем зьбіраць грошы

Адразу ўзяліся за працу. Мы меркавалі, што калі Канада даведаецца пра хворых дзетак, забруджаны край і недахоп лекаў у краіне, дык адразу будзе імкнуцца памагчы — як памагае ўсім ахвярам няшчасьцяў у сьвеце. Карысталіся любой нагодай, каб паведаміць канадцам пра беларускую бяду. Зь Зінай Гімпелевіч і маёй дачкой Паўлінкай прысьвяцілі гэтаму пытаньню беларускі сэмінар на Канфэрэнцыі славістаў Канады 1990 году. На кожным спатканьні, на кожнай сустрэчы прасілі слова, каб гаварыць пра Беларусь.

На жаль, нягледзячы на ўсё, што мы рабілі, за першы год працы ўправа Канадзкага фонду дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі — тады яна складалася выключна з старшыняў беларускіх арганізацыяў — змагла сабраць толькі пяць тысяч даляраў, і гэта ў вялікай меры дзякуючы ахвярнасьці саміх беларусаў. Мы гэта страшэнна перажывалі.

Нам здавалася тады найважнейшым сабраць дастаткова грошай, каб высылаць дапамогу шпіталям у Беларусі. Паводле вестак, якія да нас даходзілі, ня мелі яны сродкаў, каб купіць нешта для мыцьця падлогі, не гаворачы ўжо

пра аднаразовыя шпрыцы і ўсё іншае, што мы тут уважалі неабходным.

### Семдзесят сем'яў прапаноўваюць дапамогу

Справа крыху зрушылася, калі два канадзкія журналісты паехалі ў 1990 годзе ў Беларусь пабачыць на свае вочы, што там робіцца. Вярнуўшыся, зрабілі надзвычай добры рэпартаж, які быў перададзены на некалькіх каналах канадзкага тэлебачаньня. Вынікі, аднак, мы пабачылі толькі пасьля інтэрвію Генадзя Грушавога ў красавіку 1991 году.

Грушавы прыехаў у Канаду на запрасіны Барыса Рагулі, і мы арганізавалі яму ў Атаве зь дзясятак спатканьняў, у тым ліку і вышэйзгаданае інтэрвію. На трэці дзень да нас пачалі званіць людзі, гатовыя памагчы. Праз тры тыдні мы мелі семдзесят сем'яў, якія хацелі запрасіць беларускіх дзетак. І напэўна было б шмат больш, калі б Генадзь сам не сказаў, што болей ня здолее прыслаць.

### Адказы на сотні пытаньняў

Не ўяўлялі мы тады, колькі прыйдзецца ўкласьці часу й працы, каб давесьці дзіцячую праграму да таго цудоўнага дня, калі мы паехалі сустракаць першую групу беларускіх дзетак на лётнішча ў Манрэаль. Да таго дня, і кожны дзень пасьля іх прыезду, працавалі мы да дванаццатай гадзіны ночы. Трэба было праверыць канадзкія сем'і, іхны стан здароўя, маральнасьць, падабраць дзетак да сем'яў, бо кожная сям'я хацела дзетак таго самага веку і полу, як і свае. Трэба было распавесьці канадцам пра здароўе дзяцей, пра беларускія звычаі, адказаць на сотні пытаньняў.

Вучылі мову, лекары тлумачылі сем'ям, як трэба карміць маленькіх беларусаў, як імі займацца, каб яны як найбольш мелі з адпачынку. Патрабавалі, каб прынамсі адзін з канадзкіх бацькоў у часе побыту дзіцяці не працаваў, каб кожная група згадзілася прывезьці перакладчыка-апекуна і каб мела дантыстаў і лекараў, гатовых бясплатна лячыць дзетак. Трэба было заплаціць страхоўку дзяцей і апекуноў на выпадак, калі б яны раптоўна цяжка захварэлі ў Канадзе. Да таго ж фонд, які быў з самага пачатку зарэгістраванай дабрачыннай арганізацыяй, кантралявалі ўлады, якія патрабавалі вельмі дакладнага справаводзтва.

## Ад акіяну да акіяну

У наступным годзе мы ўжо прывезьлі на адпачынак у Канаду сто дзесяць дзетак, праз два гады — сто пяцьдзясят, пасьля — дзьвесьце пяцьдзясят, чатырыста, а ў 1996 годзе і зноў у 1997-м (які быў маім апошнім годам старшынёўства ў фондзе) мы прывезьлі болей за шэсьцьсот беларускіх дзетак на аздараўленьне. Тады мы ўжо мелі платнага работніка. Фонд меў сорак два аддзелы, амаль ува ўсіх правінцыях Канады, ад аднаго акіяну да другога. Канадзкія сем'і пачыналі зьбіраць грошы на аплату дарогі ды іншых выдаткаў, зьвязаных з побытам дзіцяці, задоўга да ягонага прыезду. Існавалі падручнікі для бацькоў, для старшыняў аддзелаў, для скарбнікаў.

Уся Канада ведала пра Беларусь і пра наступствы Чарнобылю ў Беларусі. Для мяне гэта было вялікім задавальненьнем. Таксама было суцяшэньнем бачыць, як нашыя дзеткі набіралі здаровыя колеры і ўспрымалі канад-

зкія звычаі. Цудоўныя дачыненьні ўсталёўваліся між беларускімі дзеткамі ды іхнымі канадзкімі сем’ямі. Канадцы езьдзілі ў Беларусь і вярталіся захопленыя гасьціннасьцю нашага народу.

Канадзкі фонд дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі яшчэ існуе. Дзяцей цяпер прывозіць меней, чым раней, але і надалей канадзкія сем’і езьдзяць у госьці ў Беларусь. Лекарская праграма фонду прывозіць кожны год у Канаду некалькі лекараў на практыку ў шпіталях. Праграма пасылак харчоў у Беларусь, створаная ўжо пазьней, таксама працуе. Высылка лекаў перайшла ў рукі аддзелаў, некаторыя зь якіх сталіся незалежнымі фондамі. Не памылюся, калі скажу, што дзякуючы нашаму фонду ў Беларусь выслана дапамогі на мільёны даляраў, ня ўлічваючы тых трох самалётаў, поўных лекаў, якія міністэрства замежных справаў Канады паслала ў 1992 годзе ў Беларусь на нашу просьбу.

# Янка

*Месца ягонага дзяцінства. — Партызаны паляць школу. — Бэрлін, лягер, завод. — Рэдагаваньне бюлетэню. — Магістрат і дактарат. — На Гішпанскім радыё. — Быў адданы сям'і і Беларусі*

## Месца ягонага дзяцінства

Едучы ў Беларусь на канфэрэнцыю «Сьвет пасьля Чарнобылю» ў красавіку 1992 году, я моцна хацела пабачыць пасёлак Мель каля Жодзішкаў, дзе Янка правёў найлепшыя гады свайго дзяцінства.

Часта ўспамінаў ён той час. Успамінаў пра шырокую Вяльлю, над якой стаяла хата яго дзядоў, пра вялізарны дуб пры ўезьдзе, пра сасновы лес вакол пасёлку, дзе дрэвы былі такія высокія, што толькі ў гішпанскай сіеры бачыў падобныя. Расказваў пра лядоўку, дзе лёд ляжаў усё лета, пра лазьню. Казаў, якая цудоўная была сям'я ягоных дзядоў, як дзядзькі, усе высокія і моцныя, гуляючы з малым, кідалі яго, як мячык, над вадой. Гэта адзін зь іх, дзядзька Эдвард, навучыў яго чытаць на памяць паэму Купалы «Курган», калі было яму толькі чатыры годзікі. Янка яе памятаў праз усё жыцьцё і часам дэклямаваў.

Калі ў 1992 годзе мы ехалі з братам Лявонам і сябрамі ў Вільню, я спыталася, ці не было б вялікім кругам заехаць у Мель. Ніхто ня ведаў,

дзе той Мель, але згадзіліся паехаць праз Смаргонь, дзе Янка хадзіў у школу, і праз Жодзішкі.

І вось так я наведала рай Янкавага дзяцінства й мела вялікую радасьць пабачыць і пачуць таго самага дзядзьку Эдварда. Яму было 92 гады, і ён яшчэ мог на памяць прадэклямаваць «Курган». Пабачыла таксама, дзе Янка гуляў, дзе рос, дзе хадзіў у школу і дзе вучыў яшчэ пару дзён перад тым, як лёс яго закінуў на чужыну.

**Партызаны паляць школу**

Перад выездам зь Беларусі, калі было яму толькі васямнаццаць гадоў, ён скончыў настаўніцкія курсы ў Войстаме і быў прызначаны на кіраўніка беларускае пачатковае школы ў Данюшаве. У першых днях кастрычніка 1943 году гэтая школа была спаленая партызанамі, якія змагаліся тады перадусім супраць усялякіх праяваў беларушчыны, у тым ліку й беларускага школьніцтва. Пад пагрозай ліквідацыі Янка сам мусіў уцякаць.

**Бэрлін, лягер, завод**

У лістападзе 1943 году выехаў да ваеннапалоннага дзядзькі, які працаваў у баўэра ў Нямеччыне.

У Бэрліне старшыня Беларускага камітэту самапомачы Мікола Абрамчык узяў яго на працу, а празь месяц яго выбралі на сакратара гэтага камітэту. Там ён працаваў да канца вайны. Два наступныя гады ён правёў у лягерах для ўцекачоў у Заходняй Нямеччыне.

У беларускім лягеры Ватэнштэце Янка арганізаваў Беларускі дапамаговы камітэт, быў выбраны яго старшынём і, з пачаткам 1946

году, пачаў выдаваць беларускі грамадзка-палітычны часопіс «Шляхам жыцьця». У 1947 годзе заклаў прыватнае выдавецтва, першым выданьнем якога была брашура пра Беларусь па-ангельску.

Калі пачаўся працэс эміграцыі ў краіны сталага пасяленьня, Янка выбраў Францыю, дзе яму паабяцалі, што будзе магчымасьць прадаўжаць навуку. Дзеля гэтага ён мусіў падпісаць аднагадовы кантракт на працу на мэталюргічным заводзе ў Лёнгві — сталёўні, як ён яго называў, — ва ўсходняй Францыі.

### Рэдагаваньне бюлетэню

Я першы раз пабачыла Янку, калі ён, падчас таго году працы, прыехаў у Парыж на Ўсясьветны зьезд беларускай эміграцыі. Было гэта ўвосень 1948 году. Яму было дваццаць тры гады, і быў ён ужо ведамым беларускім дзеячам, а з 1947 году — сябрам Рады БНР. Там яго выбралі сакратаром Управы створанага тады Ўсясьветнага аб'яднаньня беларускай эміграцыі і рэфэрэнтам прэсы й інфармацыі гэтага ж аб'яднаньня. З таго часу ён выдаваў «Інфармацыйны бюлетэнь Усясьветнага аб'яднаньня беларускае эміграцыі». Адначасна вывучаў французскую мову і літаратуру ў Інстытуце французскай мовы пры міністэрстве замежных справаў. Каб зарабіць на пражыцьцё, працаваў на фабрыцы вульканізацыі шынаў.

### Магістрат і дактарат

У 1951 годзе, з дапамогай айца Льва Гарошкі, атрымаў стыпэндыю ад унівэрсытэцкай Каталіцкай дапаможнай арганізацыі ў Гішпаніі і змог нарэшце здабыць вышэйшую адукацыю.

Выбраў эканоміку, бо ўважаў, што гэтая галіна найболей спатрэбіцца нашаму краю, калі ён вызваліцца ад савецкага паняволеньня. Вучыўся Янка выдатна, хоць, прыехаўшы ў Гішпанію, ня ведаў ні слова па-гішпанску. Першыя экзамэны пісаў па-француску. Атрымаў ступень магістра палітычных і эканамічных навук 29 верасьня 1956 году й адразу ўзяўся за працу над дактаратам на тэму «НЭП у Беларусі».

Праз гады навукі ў Мадрыдзе ўвесь час нешта рабіў, каб пазнаёміць Гішпанію зь Беларусьсю і беларускай праблематыкай.

Супрацоўнічаў з Цэнтрам усходніх навук, дзе вёў Беларускую сэкцыю і быў сябрам рэдкалегіі квартальніка «Oriente Europeo», чытаў даклады пра Беларусь у розных гарадах Гішпаніі, браў удзел і чытаў даклады на Тыднях студыяў беларускага акадэмічнага аб’яднаньня «Рунь».

## На Гішпанскім радыё

Ад 1952-га кожны год 25 сакавіка перадаваў на Беларусь радыёперадачу праз Гішпанскае нацыянальнае радыё.

У сьнежні 1958 году, пасьля паўтара году стараньняў, перарываючы працу над дактаратам, пачаў зь сябрам Віцем Сянькевічам штодзённыя беларускія радыёперадачы на Беларусь. Калі ў 1965 годзе пасьля дагавору з Савецкім Саюзам гішпанцы закрылі перадачы для паняволеных краінаў, Янка яшчэ працаваў пару гадоў рэдактарам і перакладчыкам навуковых і культурных паведамленьняў на Гішпанскім радыё. У 1969 годзе мы пераехалі ў Канаду.

У Канадзе Янка працаваў эканамістам і, аж да свае сьмерці, у 1997 годзе, браў удзел у беларускім жыцьці.

### Быў адданы сям'і і Беларусі

Янка таксама быў цудоўным мужам і бацькам. Памятаю, як гадавалі мы нашых дзяўчатак, абое іх калыхалі, абое мылі пялюшкі. Разам вазілі іх да лекара, пераймаліся іхнымі прастудамі. Памятаю, калі Паўлінка моцна захварэла, дык у Янкі за тыдзень сьсівела барада.

Ад таго моманту, калі я ў Парыжы ўпершыню сустрэлася зь Янкам Сурвілам, заўсёды была захопленая ягонымі здольнасьцямі, пачуцьцём годнасьці, бясконцай адданасьцю бацькаўшчыне. Удзячная лёсу за тыя трыццаць сем гадоў, якія нам было дадзена пражыць разам.






На сьвяткаваньні 25 Сакавіка разам з Валянтынай Пашкевіч. Таронта, пачатак 1970-х

«Лявоніха» ў Беларускім рэлігійна-грамадзкім цэнтры ў Таронта. Справа — Ганна Сурвіла. 1970-я





Прамаўляю на вечарыне Натальлі Арсеньневай як кіраўнік БІНІМу ў Канадзе. Атава, 1975

Наша сям’я. 1982






25 сакавіка ў Манрэалі. У цэнтры — мітрапаліт Мікалай

Янка, маці і брат Лявон. Канада. 1979



Перад канадзкім парлямэнтам. 1987



Айцец Аляксандар Надсан высьвячае Беларускі крыж у Антарыё. 1988





З Натальляй Арсеньневай на Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Кліўлэнд, 1990

З групай беларускіх дзетак з чарнобыльскіх раёнаў. Квэбэк, 1992

# Зноў у Беларусі

*Вяртаньне праз сорак восем гадоў. — Быкаў, Пазьняк, Канапля, Шушкевіч. — Мастакі. — Старажытныя мясьціны. — Дзедава хата. — Віленшчына*

**Вяртаньне праз сорак восем гадоў**

Хацела б падзяліцца ўспамінамі пра адну з найбольш шчасьлівых падзеяў жыцьця — маё першае падарожжа на бацькаўшчыну ў 1992 годзе. Вярнуўшыся, я шмат пра гэта пісала. Захаваліся нататкі ўражаньняў, запісаныя, калі былі яны яшчэ зусім сьвежыя.

Было гэта 10 красавіка. Самалёт ужо далятаў да Менску, калі я нарэшце паверыла, што сапраўды неўзабаве прызямлюся ў Беларусі. Старалася ўявіць, што пабачу. Прыпомнілася раніца, калі сорак восем гадоў таму ў Баранавічах зрушыў зь месца таварны цягнік, у якім мае бацькі, з трыма малымі дзецьмі, выбраліся ў невядомы сьвет. Прыпомніла цёцю Ганку ў белай хустачцы, якая з плачам бегла за цягнікам.

Згадвала таксама цудоўныя гады дзяцінства ў Засульлі. Я ўспомніла сваю бабулю Вольгу, з роду Пахомаў зь Негарэлага, яна была моднай краўчыхай. Успомніла дзеда Аляксандра Шыманца, які, лежачы на печы, расказваў унукам казкі.

Прыпомніліся сьпеў пеўня раніцою, цёплыя прамені ўзыходзячага сонца ў яблынях перад

акном, аладкі зь сьмятанай на сьнеданьне, рэчка за лугам, дзе з братам «плавалі» ў таты на плячах, млын крышку далей, направа, драўляная царква з званіцай, якую тата маляваў шмат пазьней у Парыжы. Памятаю ўсё гэта ў колерах. Тады я яшчэ ня ведала, што такое бомбы, пажары, страх і вечная туга па бацькаўшчыне.

Вяртаючыся ў Беларусь, крыху праймаюся. А што калі не знайду мае Беларусі, калі яна так зьмянілася, што не пазнаю?

**Быкаў, Пазьняк, Канапля, Шушкевіч**

Мая паездка зьвязаная з кангрэсам «Сьвет пасьля Чарнобылю», на які мяне запрасілі ў якасьці старшыні Канадзкага фонду дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі. Плянуючы падарожжа, я вырашыла выехаць крыху раней ды яшчэ застацца пару дзён пасьля кангрэсу, каб тое-сёе пабачыць. У той момант я яшчэ ня ведала, што спаткаю столькі цудоўных людзей, якія зробяць з гэтага майго першага візыту на бацькаўшчыну адну з найбольш цікавых і прыемных падзеяў жыцьця.

Кангрэс адбыўся ў Менску ад 13 да 17 красавіка 1992 году. Мэтай яго было прыцягнуць увагу ўсясьветнага грамадзтва да трагічнага лёсу Беларусі праз шэсьць гадоў пасьля ядзернай катастрофы ў Чарнобылі. Міжнароднае супрацоўніцтва ў галіне дапамогі ахвярам Чарнобылю было тэмай шматлікіх выступленьняў. Прысутнасьць такіх выдатных людзей, як Васіль Быкаў, Зянон Пазьняк, акадэмік Яўген Канапля, сьведчыла пра важнасьць падзеі.

Удзельнікі кангрэсу маглі наведаць дзіцячыя шпіталі ў Менску, адбылося спатканьне з стар-

шынём Вярхоўнага Савету Станіславам Шушкевічам, былі падарожжы ў найбольш забруджаныя раёны Беларусі. Гэта дазваляла дэлегатам атрымаць непасрэдную інфармацыю пра патрэбы людзей, пацярпелых ад чарнобыльскае бяды. Адно толькі расчаравала: на маё вялікае зьдзіўленьне, на кангрэсе амаль цалкам адсутнічала беларуская мова, і мне прыйшлося ў сталіцы Беларусі слухаць даклады беларускіх навукоўцаў у перакладзе на ангельскую.

За дванаццаць дзён у Менску адведала таксама Сойм БНФ, Беларускі гуманітарны ліцэй, два музэі. Была двойчы на канцэртах вучняў Ларысы Сімаковіч, якія расчулілі мяне да сьлёз, і спаткала сотні цікавых і цудоўных людзей.

**Мастакі**

Асабліва было цікава пазнаёміцца ў Менску зь беларускімі мастакамі, калегамі па пэндзлі.

Лёс мастака на эміграцыі ня лёгкі. Не знаходзіць ён ані зразуменьня, ані падтрымкі ў асяродзьдзі, у якім жыве. Вялікую прыемнасьць мне зрабіў мастак, які заўважыў, што мае гравюры па характары беларускія. У майстэрнях маіх новых і так мілых сяброў адчувала сябе як у роднай сям'і. Гаварылі мы той самай мовай, захапляліся тымі самымі ідэямі і, як выявілася, гадамі жылі тымі самымі надзеямі.

**Старажытныя мясьціны**

Апрача Менску наведала я падчас гэтага падарожжа Заслаўе, Стаўпеччыну, Ашмяншчыну, цудоўную Вільню. Была ў Міры, у Баранавічах, у Смаргоні, у Жодзішках. Бачыла Нёман,

Вяльлю ды столькі прыгожых краявідаў мілых беларускіх вёсачак ды сьвятыняў.

Па дарозе ў Заслаўе мне паказалі курганы. Даведалася, што ў Заслаўі і ваколіцах ёсьць больш за тысячу курганоў X—XII стагодзьдзяў. З высокіх пагоркаў аднае з найстарэйшых вёсак Заслаўшчыны, Дзехнаўкі, пабачыла першы раз панараму Заслаўя з цудоўнай сьвятыняй, пабудаванай у XVI стагодзьдзі. Адведала «Замачак», дзе стаяў калісь дом Рагнеды.

**Дзедава хата**

У Засульлі царквы ўжо не было. Нехта ўзарваў. Месца, дзе яна стаяла, зарасло пустазельлем. Галоўная вуліца яшчэ ўсё небрукаваная. Хатка маіх дзядоў стаіць старэнькая, пафарбаваная ў сіні колер. Калі была новая — такой яе памятаю — была цёмна-жоўтая. Перад хатай, дзе калісь быў сад і поўна кветак, пуста. На плоце заміж збанкоў вісяць шкляныя слоікі. Між Засульлем і Зарэччам, на месцы рачулкі, стаяць цяпер панурыя калгасныя будынкі.

На другім баку вуліцы, дзе былі дзедавы гумно, хлеў ды сьвіран, цяпер чужыя хаты. Толькі стары склеп пры вуліцы, дзе дзед перахоўваў бульбу, яшчэ тамсама. У гэтым склепе мы хаваліся з мамай, калі немцы праходзілі празь вёску.

Вёска наагул робіць прыемнае ўражаньне. Пры вуліцы вырасла шмат высокіх дрэваў. Хаткі маляўнічыя, хаця збольшага не такія, якімі я іх памятала. Цяпер яны пафарбаваныя ў сіні або зялёны колер. Заміж сенцаў — шкляныя вэранды. Стрэхі шыфэрныя вельмі ж псуюць

выгляд. Дзедава хата была калісь пакрытая дранкай.

Ня ведаю, ці адчувала сябе дома. Балела сэрца, што ў дзедавай хаце жывуць цяпер чужыя людзі. Але ўсё ж туды мяне зноў цягне. Мо хоць на палатне калісь зьберагу тое, што яшчэ засталося, што прыгожае ды мілае сэрцу.

### Віленшчына

18 і 19 красавіка мела шчасьце, дзякуючы ветлівасьці сяброў, пабыць на беларускай Віленшчыне ды ўпершыню наведаць Вільню. Шмат марыла я аб гэтай частцы Беларусі, родным куце майго мужа Янкі. Страшэнна хацелася яе адведаць.

Праехалі мы праз Ашмяны, Жупраны і Вайнідзяняты, праз Гарыдзяняты, Раслу і Асінаўшчыну. Захапляліся Вяльлёй каля Смаргоні, гістарычнымі Жодзішкамі, маляўнічымі вёскамі з прыгожа дагледжанымі хатамі. Людзі, якіх мы спатыкалі, былі ветлівыя і гасьцінныя і ў бальшыні гаварылі па-беларуску. Недалёка ад Жодзішкаў наведалі родную мясьціну дзядоў майго мужа, дзе ён правёў частку дзяцінства.

У Вільні Лявон Луцкевіч правёў нас па ўсіх беларускіх гістарычных мясьцінах. Тата заўсёды казаў, што толькі Парыж можна параўнаць зь Вільняй. На кожным кроку пэрспэктывы, як бы спэцыяльна прыдуманыя і заплянаваныя для мастака — папросту гатовыя кампазыцыі. Маляўнічыя домікі, Вастрабрамская вуліца дасюль выглядае такой, якой тата яе бачыў у пачатку трыццатых гадоў, калі вучыўся ў Вільні ды пазьней маляваў.

Так знайшла я маю Беларусь, мілую мне і дарагую, хаця і зьняможаную даўгалетнімі зьдзекамі, а цяпер Чарнобылем. Але яна жыве. Хочацца верыць, што яна пераадолее ўсе выпрабаваньні, бо растуць і мацнеюць адданыя ёй сыны і дочкі, якія змагаюцца за яе лёс.

# Старшынёўства ў Радзе БНР

*«Найбольшы скарб народу». — Сёмы старшыня. — Мандат перадаваць заўчасна. — Насуперак афіцыйнаму Менску. — Каб Беларусь была незалежная*

**«Найбольшы скарб народу»**

Калі я ехала ў Нью-Джэрзі на XXII Сэсію Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў канцы жніўня 1997 году, гэта значыць менш чым праз тры месяцы пасьля сьмерці Янкі, дык нават у галаву мне не прыйшло, што нехта захоча выстаўляць маю кандыдатуру на старшынёўства Рады БНР.

Для мяне было толькі вельмі важна, каб Рада выбрала адпаведнага чалавека на гэтае вельмі адказнае становішча. За месяц перад сьмерцю мой муж казаў Міколу Ганьку і Барысу Рагулю, які тады выконваў функцыі старшыні Рады, што «Рада БНР — гэта найбольшы скарб беларускага народу». Гэта мяне вельмі ўразіла. Магчыма, і таму мне было так важна дагледзець, каб скарб гэты быў у добрых руках. Ва ўсякім выпадку ўважала, што на сэсіі мусіла быць ня толькі дзеля мяне самой, але і дзеля Янкі.

**Сёмы старшыня**

Аднак калі мне запрапанавалі вельмі паважаныя мною людзі выставіць маю кандыдатуру на старшынёўства Рады, я адмовілася.

Засьвежая яшчэ была магіла Янкі, завялікае маё гора. У канцы, аднак, упэўненая, што і так мяне ня выберуць, згадзілася на гэты першы крок.

Толькі калі палічылі галасы й аказалася, што бальшыня радных прагаласавалі за мяне, згадзілася ўзяць на сябе гэтую адказнасьць — і прыняць гэты вялікі гонар. Гэта было 31 жніўня 1997 году. Такім чынам, пасьля Янкі Серады, Пётры Крэчэўскага, Васіля Захаркі, Міколы Абрамчыка, Вінцука Жук-Грышкевіча і Язэпа Сажыча я стала сёмым старшынём Рады БНР.

**Мандат перадаваць заўчасна**

У Раду ўваходзяць восемдзесят радных, якія жывуць фактычна на ўсіх кантынэнтах. Выканаўчы орган Рады — Прэзыдыюм. Ён і выконвае функцыі беларускага ўраду ў выгнаньні. На сёньня гэта адзіны ўрад былых падсавецкіх краінаў, які не злажыў свайго мандату. Нярэдка ў нас, сябраў Рады, пытаюцца: «А пры якіх умовах вы перадасьцё свае паўнамоцтвы Беларусі?» Згадаю, што быў такі момант на пачатку 1990-х гадоў, калі Рэспубліка Беларусь, аднавіўшы незалежнасьць, афіцыйна вярнула свае сымбалі, загаварыла па-беларуску. Але Рада не палічыла магчымым перадаць мандат Вярхоўнаму Савету, абранаму ў савецкі час. Рада БНР гатовая перадаць свой мандат той Беларусі, у якой незалежнасьць і дэмакратычныя свабоды замацуюцца незваротна.

Пакуль Беларусь ня будзе поўнасьцю незалежнай, сувэрэннай і дэмакратычнай дзяржавай — такой, якой яе беларускі народ абвясьціў Актам 25 Сакавіка, Рада будзе працягваць змаганьне, каб дасягнуць гэтай мэты.

## Насуперак афіцыйнаму Менску

У гэтым змаганьні Раду заўсёды падтрымлівала беларуская дыяспара. Роля дыяспары надзвычай важная і цяпер. Каб Беларусь мела сьвядомую дыяспару ў 1918 годзе, ды каб сьвет ведаў пра беларускі народ так, як ведае сёньня, магчыма, доля нашая ў XX і ў пачатку XXI стагодзьдзя была б больш падобная да долі нашых заходніх суседзяў і мы ўжо займалі б пачэснае месца між іншымі вольнымі народамі сьвету — месца, за якое мы яшчэ ўсё змагаемся.

Сам факт існаваньня ўраду ў выгнаньні адыгрывае значную ролю. Мы, адрозна ад афіцыйнага Менску, маем вельмі цёплыя і прыязныя кантакты з палітыкамі і ўрадоўцамі шматлікіх краінаў. Тут магу згадаць, як напярэдадні аднаго з маіх прыездаў у Прагу беларуская амбасада распаўсюдзіла тлумачэньні пра беспадстаўнасьць сьвяткаваньня 25 Сакавіка і пра тое, што «БНР ужо даўно забытая гісторыя». Але, насуперак гэтаму, мяне, як старшыню Рады БНР, з усёй пашанай прынялі ў міністэрстве замежных справаў, у сэнаце і парлямэнце, у Прэзыдэнцкім палацы ў Градчанах.

Голас старшыні Беларускай Народнай Рэспублікі, магчыма, больш чутны, чым іншыя, і таму я моцна ўдзячная лёсу, што даў мне гэтую дадатковую магчымасьць, разам зь сябрамі Рады, змагацца за волю і дабрабыт нашага народу.

## Каб Беларусь была незалежная

Рэагуем на кожную падзею, важную для Беларусі, прыцягваем увагу заходняга сьвету да ўсіх момантаў, дзе пажаданая дапамога. Калі расейскі прэзыдэнт Пуцін публічна прапанаваў

у 2002 годзе, каб Беларусь сталася правінцыяй Расеі, мы назаўтра паслалі звароты кіраўнікам усіх заходніх дэмакратыяў, у якіх падкрэсьлівалася недапушчальнасьць для цывілізаванага сьвету такой заявы ў дачыненьні да незалежнай суседняй дзяржавы, і прасілі стрымаць Маскву ў яе намаганьнях зноў зрабіць зь Беларусі свайго васала.

Апошнім часам канцылярыя Рады БНР і ўся беларуская незалежніцкая дыяспара стараецца пераканаць Эўразьвяз, каб не будаваў новай заслоны паміж Беларусьсю і Эўропай.

Праца Рады БНР ня лёгкая. Чуюся, аднак, вельмі задаволенай усім дасягнутым. Цешуся, калі бачу, што наша моладзь верыць у будучыню і змагаецца за незалежную Беларусь. З задавальненьнем бачу, што заходнія экспэрты пачынаюць адрозьніваць праўду ад прапаганды. Але сапраўднай незалежнасьці мы дасягнем толькі тады, калі ўвесь наш народ абвесьціць сьвету, так, як гэта зрабіў у 1918 годзе, што ён хоча быць нармальнай эўрапейскай дэмакратыяй.





З Генадзем Бураўкіным і Аляксандрам Лукашуком на Радыё Свабода
Прага, жнівень 2004

У Люстраной залі Клемэнтынуму разам зь Зянонам Пазьняком, Васілём Быкавым і Сяргеем Навумчыкам. Прага, 2000





З Васілём Быкавым. Прага, сакавік 2003

Пасьля пасяджэньня Прэзыдыюму Рады БНР — Алекс Сільвановіч, Янка Запруднік, Ала Орса-Рамана, Вінцук Вячорка, Івонка Сурвіла, Сяржук Сокалаў-Воюш, Вячка Станкевіч





З старшынёй Згуртаваньня беларусаў Вялікабрытаніі Лёляй Міхалюк

З Раісай Жук-Грышкевіч і Вольгай Іпатавай






З Вацлавам Гаўлам. Прага, сакавік 2004

Беларуская дэманстрацыя ў Атаве




На сьвяткаваньні 25 Сакавіка ў Таронта

## Цяжкае і лёгкае ў маім жыцьці

*Падманлівыя ўражаньні. — Чаго не пачуў журналіст. — Дыскрымінацыя не абмінула. — Канадзкае шматкультур'е. — Нас мяшалі і мяшаюць з гразёй. — Быць голасам нашага краю*

### Падманлівыя ўражаньні

Калі я згадзілася на просьбу дырэктара Беларускай службы Радыё Свабода Аляксандра Лукашука напісаць мае «жывыя мэмуары», не ўяўляла сабе, як гэта будзе цяжка. Ня толькі таму, што жыцьцё разнастайнае, а я, як і ў маіх мастацкіх творах, не люблю затрымоўвацца на дрэнных успамінах, тады як лёс даў мне столькі добрага. Калі гавару пра цяжкія ўмовы эміграцкага жыцьця, дык толькі таму, што з удзячнасьцю прыпамінаю, як мы гэта ўсё перажылі і ўрэшце перамаглі.

Гэта часам робіць уражаньне, што ўсё для нас было лёгкім і бесклапотным у параўнаньні з тым, што перажыў наш народ.

### Чаго не пачуў журналіст

Вось адзін прыклад. Два гады таму была ў Даніі, калі дацкае тэлебачаньне якраз рабіла фільм пра паваенных уцекачоў. Знайшоўшы магілу маёй сястрычкі Прадславы, мяне адшукалі й папрасілі, каб расказала пра наш досьвед. І вось праз шэсьць месяцаў я зь зьдзіўленьнем пабачыла ў фільме, якое наша жыцьцё ў

Даніі было лёгкае ў параўнаньні з жыцьцём нямецкіх уцекачоў, якія таксама апынуліся ў Даніі пасьля вайны.

Журналіст неяк не пачуў, што ў Даніі я страціла маю сястрычку, а бацькі — дачушку, якую прынесьлі на руках зь Беларусі. Не пачуў таксама, што мой брат Лявон таксама ледзь выжыў, а я моцна хварэла. Не пачуў, што жылі мы двойчы ў тых самых уцякацкіх лягерах, што і немцы, у першым — у стайні, а ў іншых — у адным малым пакойчыку, разам зь іншымі ўцекачамі. Што тату давялося змагацца, каб Данія не аддала саветам беларускіх уцекачоў, якія паходзілі з Усходняй Беларусі. Што я была адзіным дзіцём у лягеры, якое хадзіла ў дацкую школу. Мой брат, якому не пашчасьціла пасябраваць з добрымі людзьмі ды навучыцца дацкай мовы, хадзіў разам з усімі іншымі дзецьмі, разам і зь нямецкімі, у школу для ўцекачоў. Мой ветлівы дацкі журналіст толькі пачуў, як я моцна палюбіла Данію, і таму вырашыў, што ўцекачоў, якія былі не зь Нямеччыны, Данія прымала як гасьцей.

На шчасьце, сказаў, што я старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў выгнаньні, — і такім спосабам давёў да ведама Даніі, што наш беларускі народ усё яшчэ змагаецца.

### Дыскрымінацыя не абмінула

Не хачу таксама, каб склалася ўражаньне, што і ў Канадзе так лёгка знайсьці працу й дасягнуць посьпеху. Усе эмігранты нашага пакаленьня перажылі ў Канадзе вельмі цяжкія першыя гады эмігранцкага жыцьця. Працу рабілі тую, якой не хацелі рабіць канадцы, і часта былі ахвярамі дыскрымінацыі. Шмат тут гава-

рылася, напрыклад, пра тое, як мы сюды прыехалі ў канцы шасьцідзясятых гадоў, згадаю і пра канадцаў японскага паходжаньня, якія правялі апошнюю вайну ў лягерах у Канадзе толькі таму, што Японія тады была ворагам Канады і Злучаных Штатаў.

**Канадзкае шматкультур'е**

Канада пачала інакш ставіцца да тых сямі мільёнаў канадцаў паходжаньнем не зь Вялікабрытаніі ды Францыі, а зь іншых краінаў сьвету, калі разумны чалавек, прэм'ер-міністар Канады П'ер Трудо, увёў палітыку шматкультур'я — разам, дарэчы, з палітыкай двухмоўя і, магчыма, дзеля яе...

Шматкультур'е ў Канадзе дазволіла кожнаму эмігранту адчуваць сябе дома, бо ягоная культура раптам сталася такой самай каштоўнай, як і ангельская ці французская. Замяж «катла» ўніфікацыі, якім быў і Савецкі Саюз, хоць зь іншых прычынаў, Канада стала мазаікай больш як сотні розных культурных асяродкаў. Пачалі арганізоўваць фэстывалі, каб пазнаёміць канадцаў з усімі культурамі гэтай краіны, а ў 1982 годзе ажыцьцявілася Грамата правоў, якая па сваім духу падобная да Другой устаўнай граматы Беларускай Народнай Рэспублікі.

Што да палітыкі двухмоўя ў Канадзе, дык падобная яна да фінляндзкай. Усюды, дзе пражывае болей за адпаведную колькасьць жыхароў (калі не памыляюся, пяць працэнтаў), для якіх другая афіцыйная мова родная, усе фэдэральныя ўрадавыя ўстановы і законы мусяць быць двухмоўныя й паслугі можна атрымаць на дзьвюх афіцыйных мовах. Правінцыя Квэ-

бэк, дзе я жыву, прызнае, праўда, толькі адну афіцыйную мову — францускую. А гэта таму, што ў ангельскамоўным моры Паўночнай Амэрыкі ёй пагражае зьнікненьне. Каб жа так паважалася ў нашай краіне беларуская мова, небясьпека для якой яшчэ большая!

**Нас мяшалі і мяшаюць з гразёй**

Я хацела перадусім расказаць пра эмігранцкі лёс. Паваенная хваля эміграцыі была эміграцыяй палітычнай, і таму беларуская афіцыйная прапаганда мяшала яе з гразёй. І робіць гэта аж да сёньняшняга дня. Між тым эміграцыя гэтая жыла і жыве сваёй бясконцай любоўю да бацькаўшчыны і ўсімі даступнымі сродкамі змагаецца за вольную і незалежную Беларусь. Менавіта такая мэта запісаная ў Статуце Рады БНР.

Амаль паўстагодзьдзя жылі мы надзеяй, што вернемся ў гэтую незалежную Беларусь, што будзем браць удзел у яе адраджэньні й адбудове.

Перадалі мы нашу любоў да Беларусі і нашым дзецям, якія чуюцца стопрацэнтнымі беларусамі. Так аднойчы заявіла свайму мужу мая дачка Ганна-Прадслава, калі ён сказаў, што яна ўсё ж канадка. Аднак найбольш расчуліла Янку і мяне нашая малодшая дачка Паўлінка. Яна расказвала нам, што ўпершыню ў жыцьці адчула сябе дома ў той момант, калі самалёт, якім ляцела ў Беларусь, прызямліўся ў Менску. Гэта было ў 1993 годзе — Паўліна, якая выбрала прафэсію этнамузыказнаўцы, прыехала, каб напісаць доктарскую дысэртацыю пра рок-музыку ў Беларусі. Цяпер яна працуе прафэсарам у Злучаных Штатах. Ганя, старэйшая, пайшла па бацьку, выбрала матэматыку, атрымала спэ-

цыяльнасьць бізнэс-мэнэджара і працуе кансультантам у Францыі.

### Быць голасам нашага краю

Хачу зрабіць яшчэ адну заўвагу, якая тычыцца ўжо ня толькі Канады ды мяне самой, а наагул мэмуараў усяе беларускае паваеннае эміграцыі. Кожны з нас, калі пачынае пісаць свае ўспаміны, дык піша фактычна пра падзеі зь беларускага жыцьця. Вось так я і пішу пра мужа й пра нашае жыцьцё ў канадзкай сталіцы. Нават калі пісала пра жыцьцё ў Парыжы, дзе болей расказвала пра перажытае асабіста, усё ж на кожным кроку прыпаміналася, як мы жылі як грамада. Як мы стараліся, каб выжыць ня толькі самім, а каб выжыла Беларусь, дома і на чужыне.

Усе мы ўважалі, што апынуліся мы на чужыне, каб быць голасам нашага акупаванага краю. Таму мы і рабілі ўсё, што маглі. Зарабіўшы на хлеб, часта шмат менш, як маглі б зарабіць, калі б гэта было нашай мэтай, мы прысьвячалі кожны момант нашага жыцьця беларускай справе. Магло гэта быць будаваньне сваіх сьвятыняў за так цяжка заробленыя грошы. Магло быць навучаньне нашых дзетак беларускай мове, сьпевам і танцам. Прыпамінаецца мне тут запіс беларускіх песьняў, якія тата сам насьпяваў перад сьмерцю і пакінуў брату і мне, каб не забыліся. І асабліва было гэта штодзённае змаганьне за права Беларусі быць незалежнай.

Гэтым мы жылі, гэтым ганарымся. Гэта ўважаем дасягненьнем нашага жыцьця. Між намі вельмі мала багатых людзей. Аднак усё робім, каб памагчы беларускай справе. А тыя з нас, што не дапамагаюць столькі, колькі хацелася б, дык магчыма таму, што ўжо ўсё аддалі.

## Маё мастацтва

*У асяродзьдзі мастакоў. — Мэдаль за афішу. — Імпрэсіяністы і графікі. — Тэорыя і пленэры. — Незавершаны твор. — Дзеля слова «Беларусь». — Сямейная традыцыя*

### У асяродзьдзі мастакоў

У нашай хаце мастацтва неяк заўсёды паважалі. У Баранавічах часта бачыла тату з пэндзлем у руках. Татаў стрыечны брат зь Сьвержаню (ня памятаю, ці з Новага ці Старога), які нейкі час у нас жыў, вучыўся ў баранавіцкай мастацкай школе. У Даніі тата намаляваў цэлую сэрыю твораў, якія адразу прадаў. Памятаю, як у Францыі ён рыхтаваў да друку маркі БНР. Усюды, дзе мы жылі, наведвалі мастацкія музэі і выстаўкі. Прыехаўшы ў Парыж, у Люўр хадзілі сям'ёй кожную нядзелю. Скульптар Міхась Наўмовіч і мастак Віктар Жаўняровіч часта былі ў нашай хаце. На сьценах заўсёды віселі дзясяткі твораў — татавых і іншых мастакоў.

### Мэдаль за афішу

Мастацтва з самага дзяцінства стала неад'емнай часткай майго жыцьця. Першае задавальненьне яно мне прынесла, калі ў шэсьць гадоў пайшла ў школу ў Баранавічах. Настаўніца загадала дзецям намаляваць ілюстрацыю да народнай казкі пра Бабку і рэпку. І так яе ўразіў

мой малюнак, што паказвала яго ўсёй школе. У пачатковай школе ў Даніі даверылі мне ўпрыгожыць маімі малюнкамі клясу на Каляды. У сярэдняй школе, ужо ў Нёі-сюр-Сэн у Францыі, атрымала гарадзкі бронзавы мэдаль за афішу «Кругом вогнішча». Падчас адпачынку ў летнім лягеры над морам нарысавала для капліцы вельмі мадэрную Крыжовую дарогу, пра якую доўга гаварылі й нават зьбіраліся выдаць у кнізе Даніель-Ропса. Некаторыя з маіх найлепшых твораў зрабіла яшчэ перад тым, як паступіла ў Вышэйшую дзяржаўную школу мастацтва ў Парыжы.

### Імпрэсіяністы і графікі

Адкрыцьцём у той час былі для мяне творы францускіх імпрэсіяністаў, якія выстаўляліся ў музэі Жэ дэ Пом. Малявалі яны, між іншым, часта краявіды паўночна-заходніх прадмесьцяў Парыжу, дзе мы жылі. Будучы ў Аўстраліі, пабачыла нават палатно Пісаро «Рака Сэна ў Сартрувілі»... Захаплялася таксама Ван Гогам. Першы мастацкі альбом, які сама купіла, быў пра мастацтва Гагена.

Пазьней пачала лепш разумець характво перадрэнэсансавага італьянскага мастацтва, якое французы называюць «primitifs italiens». Таксама дасюль моцна люблю партрэт інфанты Вэляскеса — на маю думку, адзін з найпрыгажэйшых партрэтаў, якія я бачыла. Заўсёды любіла Батычэлі дзеля прыгажосьці яго лініяў і спакою, які ён перадае гледачу. Гэтыя дзьве рысы ў мастацтве фактычна і сталіся маім крэда. Але захапляюся сотнямі мастацкіх твораў. Усюды, дзе бываю, найбольшай прыемнасьцю для мяне ёсьць наведваньне мастацкага музэю.

Зь беларускіх мастакоў заўсёды любіла графіку Алесі Пасьлядовіч. Але няма беларускага мастака, які б не стварыў чагосьці мілага майму сэрцу. У 2006 годзе рабіла два даклады пра Беларусь у творах яе мастакоў, ад Бялыніцкага-Бірулі й Шагала да Марачкіна й Руслана Вашкевіча.

## Тэорыя і пленэры

Я заўсёды любіла рабіць партрэты. Краявіды, апрача развалінаў беларускіх замкаў ды сьвятыняў, калісь мяне не цікавілі. Між іншым, гэта адпавядала густу і майго прафэсара, Жана Сувэрбі. Цяпер затое часта раблю акварэлі майго гароду.

Да навукі я заўсёды ставілася вельмі паважна. У Мастацкай школе, мусіць, не прапусьціла ніводнага курсу, і дні, асабліва ў студыі, пралягалі як хвіліны. Тэарэтычныя заняткі (анатомія, кампазыцыя, гісторыя мастацтва, касьцюму, архітэктуры і тэхнічныя курсы) адбываліся больш па абедзе. Але нават на лекцыю пэрспэктывы, дзеля якой я мусіла бегчы на цягнік а шостай гадзіне раніцы, я ні разу не спазьнілася. Ніколі так моцна не захаплялася навукай, як падчас таго году ў Вышэйшай дзяржаўнай школе мастацтва ў Парыжы. З прафэсійнага жыцьця, мусіць, найлепшыя ўспаміны ў мяне засталіся з часу, калі выкладала мову ў Француским інстытуце ў Мадрыдзе. Там таксама не заўважала, як пралятаці гадзіны.

Перайшла я з Мастацкай школы ў Сарбону праз год, бо зразумела, як цяжка будзе зарабіць на хлеб мастаку. У Парыжы маладыя мастакі найчасьцей мусілі працаваць вартаўнікамі ноччу, каб займацца мастацтвам днём. А я

ўжо ведала некалькі моваў. Французам чужыя мовы даваліся цяжка, тады яшчэ мала хто мог сабе дазволіць езьдзіць за мяжу дзеля практыкі. Дык вырашыла скарыстаць з багажу, які дало мне жыцьцё.

### Незавершаны твор

Да 1986 году я заўсёды нешта стварала. У 1979-м пайшла на курсы графікі й да 1986 году выпрабавала ўсе віды тэхнікі гравюры, апрача шаўкаграфіі. Найбольш мне падабаліся тэхніка афорту і дрэварыт. Уважаю акватынту «Ішкалдзкі касьцёл» і дрэварыт «Эўфрасіньня Полацкая» найлепшымі маімі творамі ў галіне графікі.

Мастацтвам, аднак, перастала наагул цікавіцца на працягу васьмі гадоў пасьля чарнобыльскай бяды. У роспачы пачала рабіць абраз, які меўся быць апошнім маім творам і які назвала «Вось што яны зрабілі з маёй песьняй». Але ня мела сілы яго скончыць. Ня толькі мастацтва, але і жыцьцё ў тыя гады перастала мець сэнс.

### Дзеля слова «Беларусь»

Ад часу прыезду ў Канаду брала ўдзел у некалькіх дзясятках выставаў. Часта рабіла гэта дзеля таго, каб было напісана ў каталёгу слова «Беларусь».

Аднойчы даведалася пра вялікую выставу «Ўсё мастацтва сьвету», якую арганізавала ў 1985 годзе міністэрства культуры Квэбэку. Падала адну працу — маленькую акватынту «Вялікдзень». Працу міністэрства купіла. Але мне падумалася, што якісь непісьменны куратар можа замяніць слова «Беларусь» сло-

вам «Расея» (звычайна гэта рабілі, каб, маўляў, «людзям было лягчэй зразумець»), і таму пазваніла даведацца, як выглядае запіска пра маю працу ў каталёгу. І вось атрымала адказ: напісалі, што нарадзілася я ў Расеі. Я, безумоўна, моцна загневалася і сказала, што калі не папpавяць, забіраю працу назад. Папpавілі. І запрасілі яшчэ на адну выставу, прысьвечаную мастачкам-жанчынам, даючы мне яшчэ адну нагоду сказаць, што ў Квэбэку ёсьць беларусы.

У 1994 годзе мастацтва — мо разам зь любоўю — усё ж перамагло чарнобыльскі застой. Узялася зноў за пэндзлі, бо захацелася зрабіць партрэт мужа Янкі. Падрыхтавала яшчэ адну выставу ў франкамоўным асяродку — дала шэсьць працаў.

Спадзявалася, што калі пайду на пэнсію, зноў вазьмуся за творчасьць. Але тады мяне выбралі старшынёй Рады БНР, і ад таго часу адводжу толькі тры гадзіны ў тыдзень на мастацтва. За гэтыя гадзіны нічога паважнага зрабіць немагчыма. Аднак малюю — і штораз з большай прыемнасьцю карыстаюся акварэльлю. Але бальшыня твораў яшчэ ў стане праектаў. Жывуць яны, аднак, у маім уяўленьні і, дзеля доўгага высьпяваньня, мусілі б быць добрымі. Моцна хацелася б неяк пасьпець іх рэалізаваць перад тым, як будзе запозна.

**Сямейная традыцыя**

У сям'і Шыманцоў-Сурвілаў не адна я мастачка. Быў мастаком тата, Уладзімер Шыманец. Брат Лявон апошнім часам зрабіў некалькі цікавых працаў. Калі выставіў у Сартрувілі свой партрэт унука Віктара, які назваў «Зьдзіў-

леньне», дзьве парыскія галерэі прапанавалі наладзіць яму выставы ў Парыжы.

Дачка Паўлінка — дасьведчаная мастачка. Яна найбольш любіць алейную тэхніку. Цяпер якраз працуе над вялікім палатном на беларускую тэму. Яна таксама вельмі добры фатограф. У гэтай галіне талент, відаць, перадаў ёй Янка, які рэдка выходзіў з хаты без фотаапарата. Жыву надзеяй, што калісь змагу выдаць альбом яго здымкаў, менавіта зь беларускага жыцьця.

На маю вялікую радасьць, унукі ня толькі цікавяцца мастацтвам, але адзін зь іх, Антон, у сем гадоў намаляваў алейнымі фарбамі краявід з рэчкай, які тэхнічна на ўзроўні сьпелага мастака. Унучка таксама добра малюе. А маленькі Валік, якому шэсьць гадзікаў, на дзіва добра кампануе здымкі, якія, між іншым, моцна любіць рабіць.

# Крыху пра рэлігію

*Нас падзялілі. — Уніяцкі сьвятар Леў Гарошка. — Мітрапаліт Мікалай. — Будучыня аўтакефаліі*

## Нас падзялілі

У заходняй суседкі Беларусі, Польшчы, пасьля развалу савецкага блёку найлепшым саюзьнікам у працэсе адраджэньня была рэлігія. Усім нам вядома, якую вялікую ролю адыграла ўніяцтва ў захаваньні тоеснасьці ўкраінскага народу. У Беларусі, на жаль, якраз рэлігіяй карысталіся — і дасюль карыстаюцца — нашыя ворагі, каб нас асыміляваць.

Уніяцтва, якое адрозьнівала нас ад расейцаў, было яшчэ ў XIX стагодзьдзі прымусова замененае ў Беларусі маскоўскім праваслаўем, а беларусаў-каталікоў, якія адмовіліся ад перахрышчэньня, назвалі «палякамі». Такім чынам ня толькі выкаранілі ўніяцтва, але і, магчыма, першы раз у нашай гісторыі падзялілі беларускі народ на рэлігійным грунце.

Нашыя бедныя «тутэйшыя», якія ведалі, што яны не расейцы і не палякі, пачалі забывацца, што яны ёсьць нацыяй. Эмігруючы ў новы сьвет, беларусы, аж да паваеннае хвалі эміграцыі, дазвалялі запісваць сябе «рускімі» або «палякамі», у залежнасьці ад веравызнаньня.

Калі мяне пытаюць пра маё веравызнаньне, я люблю адказваць, што гэта справа між

мною і Богам. Мама была каталічкай, тата — праваслаўным. Ніколі не мянялі веравызнаньня. Дзяцей ахрысьцілі ў праваслаўнай царкве ў Стоўпцах. Я выйшла замуж за каталіка. Маліліся мы з мужам у каталіцкіх, беларускіх аўтакефальных, уніяцкіх і іншых хрысьціянскіх сьвятынях. Часта сябравалі зь сьвятарамі. Адзінае, што ўважалі недапушчальным, гэта рэлігійную неталерантнасьць.

Хацела б расказаць пра двух беларускіх сьвятароў, якіх мы абое любілі й паважалі. Былі яны цудоўнымі прадстаўнікамі тых плыняў хрысьціянства, да якіх належалі, і адначасна адданымі патрыётамі. Былі гэта архімандрыт Леў Гарошка, уніят, і ўладыка Мікалай, мітрапаліт Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы.

**Уніяцкі сьвятар Леў Гарошка**

Айца Льва я памятаю яшчэ з Баранавічаў. Жылі мы на той самай вуліцы, і выехалі з Баранавічаў тым самым цягніком. Пабачыліся мы зноў у 1948 годзе на Паўночнай станцыі ў Парыжы, куды ён прыйшоў нас спаткаць пасьля нашага прыезду з Даніі. Гэтак, як і большыня беларускай грамады ў Парыжы, хадзілі мы кожную нядзелю на ягоныя багаслужбы ў адной з капліцаў слаўнага цяпер касьцёлу Сэн-Сюльпіс.

Быў айцец Леў надзвычай інтэлігентны чалавек, упарты і энэргічны, калі трэба было бараніць інтарэсы Беларусі, і адначасна талерантны і ветлівы ў штодзённым жыцьці.

Жыў ён у манастыры недалёка ад студэнцкай сталоўкі, дзе я абедала, калі вучылася ў Сарбоне, і я яго адведвала, калі мела вольную

хвіліну. Часам дапамагала яму ілюстраваць часопіс «Божым шляхам», які ён выдаваў, а ён мяне падтрымліваў на духу, калі адчувала патрэбу падзяліцца маімі праблемамі. На дзіва, ніколі не стараўся мяне «перахрысьціць», як гэта рабілі прадстаўнікі некаторых іншых веравызнаньняў. Наагул, здаецца, ніколі не гаварыў пра ўніяцтва. І нягледзячы на гэта, у мяне расло зацікаўленьне і захапленьне гэтай плыньню хрысьціянства, якая так добра адказвае патрэбам нашага народу.

Айцец Леў браў актыўны ўдзел у беларускім жыцьці ў Парыжы, прадстаўляў беларусаў на міжнародных канфэрэнцыях. Пакуль жыла ў Парыжы, і я там часам была разам зь ім, каб патрымаць бел-чырвона-белы сьцяг ці сказаць пару словаў па-францускy. Быў айцец Леў да самае сьмерці сябрам управы «Хаўрусу» (аб’яднаньня беларусаў у Францыі), і сябраваў ён з усёй нашай грамадой — вянчаў, хрысьціў, хаваў. Памёр ён пасьля апэрацыі на нырках у парыскім шпіталі за месяц да сьмерці майго таты, у 1977 годзе. Абодвум было 66 гадоў.

Цяпер Беларуская ўніяцкая царква на чужыне ў добрых руках дзякуючы яшчэ аднаму выдатнаму сьвятару і чалавеку — айцу Аляксандру Надсану.

### Мітрапаліт Мікалай

Другім сьвятаром, таксама вялікім патрыётам і адданым беларусам, якому хочацца аддаць чэсьць у гэтых маіх разважаньнях пра рэлігію, быў уладыка Мікалай, мітрапаліт Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Я прысутнічала як старшыня Рады БНР на ягоных паховінах у Нью-Брансўіку ў чэрвені

2002 году і прыняла перададзены Радзе бел-чырвона-белы сьцяг, які пакрываў ягоную труну.

З уладыкам Мікалаем мы зь Янкам пазнаёміліся, калі былі ўжо ў Канадзе. Адведваў ён нас у Атаве на Вадохрышча, сьвяціў наш дом і ў нас начаваў. Тады мы мелі нагоду шмат пра што пагутарыць. Быў гэта чалавек лагодны, сьціплы і працавіты. Ён добра ведаў, ідучы вучыцца на сьвятара, што матэрыяльна жыцьцё яго будзе цяжкім. Але верыў у Бога і ў людзей і ніколі ня траціў надзеі. Даравау нават тым, хто яго асабіста пакрыўдзіў.

Быў уладыка моцна перакананы, што вера ў Беларусі мусіць быць беларускай, і таму моцна бараніў аўтакефалію. Верыў, што прыйдзе час, калі Беларуская праваслаўная царква вызваліцца ад Масквы. Моцна перажываў раскол БАПЦ на эміграцыі. Казаў, што зь яго боку няма перашкодаў да згоды з уладыкам Ізяславам, які ачольваў другую частку Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Ведаў, што спрэчкі, недавер і нязгода між беларусамі толькі на карысьць нашым ворагам.

## Будучыня аўтакефаліі

Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква, на жаль, перажывае сёньня надзвычай цяжкі крызіс, да якога падвойна спрычыніліся маскоўскія «траянскія коні». Як старшыня Рады ўстрымаюся тут ад камэнтароў на гэтую тэму. Для варожых нам прапагандыстаў, паводле якіх мы намагаемся кантраляваць аўтакефалію, хачу паведаміць, што БНР ня ўмешваецца ў справы ні Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, ні ў справы іншых бела-

рускіх цэркваў. З глыбіні сэрца жадаю, аднак, каб ачоліў Беларускую аўтакефальную праваслаўную царкву беларускі сьвятар-патрыёт, які ўсьвядоміць, якую вялізарную ролю БАПЦ можа адыграць у жыцьці нашага народу.



У майстэрні. 1985






Паўлінка. 1966. *Маркер*

Паўлінка. 1983. *Сангіна*





Партрэт Янкі пад яблыняй у Сартрувілі. 1961. *Алей*

Беларусачка (Ганна). 1972. *Пастэль*





Наваградзкі замак. 1966. *Туш*

Беразьвечча. 1966. *Алей*




Эўфрасіньня Полацкая. 1985. *Дрэварыт*



Касьцёл у Ішкалдзі. 1979. *Акватынта*

## Васіль Быкаў

*Захапленьне талентам. — Праскае знаёмства. — «Сьвечачка надзеі». — Аўра сьвятасьці*

### Захапленьне талентам

Расказаўшы столькі пра сябе (на падзеі жыцьцё маё сапраўды багатае), хочацца падзякаваць усім тым цудоўным маім суродзічам, якія мне дапамагаюць у маім штодзённым змаганьні за лепшую будучыню нашага беларускага народу, і ўсім тым, каго я мела шчасьце спаткаць, адведваючы нашы беларускія асяродкі ў сьвеце, ад Эстоніі да Гішпаніі, ад Аўстраліі да Чэхіі, Польшчы, Латвіі і Літвы, ад Англіі і Бэльгіі да Злучаных Штатаў і Канады.

Паколькі немагчыма тут пералічыць усе гэтыя спатканьні, хоць часта з удзячнасьцю іх успамінаю, раскажу тут толькі пра адно зь іх, якое было для мяне асабліва мілым. А менавіта — пра спатканьні ў Празе з Васілём Быкавым і яго цудоўнай сяброўкай жыцьця, жонкай Ірынай.

Здаўна я была захопленая талентам Васіля Быкава, ягоным веданьнем чалавечае душы й ягонай здольнасьцю перадаць чытачу ўсе яе адценьні і эмоцыі. «Аблаву» чыталі мы з мужам уголас. Прачытаўшы «Бедных людзей», не магла некалькі начэй заснуць. «Знак бяды» дык наагул не змагла скончыць — нагэтулькі была

ўзрушаная. Але ў Празе я мела шчасьце спаткаць Васіля Быкава — чалавека. Спакойнага, ветлівага, поўнага дабрыні.

**Праскае знаёмства**

У 2000 годзе спадарства Быкавы жылі яшчэ ў Нямеччыне. У сакавіку праскія беларусы запрасілі Быкавых і мяне на сьвяткаваньне гадавіны БНР. Нас пасялілі ў адным гатэлі на вуліцы Алівовай.

Кожную раніцу спадар Васіль званіў мне, каб запрасіць на смачную сьвежую каву, якую ўжо была прыгатавала спадарыня Ірына. Была гэта для мяне нагода надзвычай прыемна пачаць дзень. Я, безумоўна, болей за ўсіх гаварыла — маю звычку гэта рабіць, калі адчуваю сябе ў мілай кампаніі. Спадар Васіль і спадарыня Ірына ветліва слухалі, дзяліліся сваімі думкамі. Абгаворвалі мы праблемы, якія зьбіраліся закранаць на нашых штодзённых спатканьнях з чэскімі палітыкамі. Васіль Быкаў часта браў на іх слова, каб прасіць дапамогі для беларускіх студэнтаў у Чэхіі. Ён моцна пераймаўся цяжкасьцямі, якія мусіла пераадольваць наша моладзь.

Прыпамінаюцца ўсе сустрэчы, на якіх мы прадстаўлялі разам вольную Беларусь. Лічыла я гэта за вялікі гонар. Садзілі мы Дрэва дэмакратыі для Беларусі — у прысутнасьці мэра чэскай сталіцы, шматлікіх журналістаў, палітыкаў і групы беларускай моладзі, якая тады знаходзілася ў Празе. Былі на ўрачыстай вячэры з чэскімі палітыкамі ў рэстарацыі паблізу Карлавага мосту, на якой увесь вечар гаварылі пра Беларусь. Давалі прэсавую канфэрэнцыю і лекцыю ў Карлавым унівэрсытэце.

Былі ў Прэзыдэнцкім палацы і ў міністэрстве замежных справаў, дзе нас так урачыста прынялі, нягледзячы на высілкі лукашэнкаўскай амбасады нас скампрамэтаваць. Разам мы падпісалі «Заяву пра Акт 25 Сакавіка» і выступілі на ўрачыстай акадэміі ў Люстраной залі Клемэнтынуму. Тады, канечне, ня думалася, што праз тры гады тут, у гэтай залі, Васіль Быкаў выступіць з апошняй сваёй публічнай прамовай...

**«Сьвечачка надзеі»**

Перад вачыма ў мяне гэтае апошняе з Васілём Быкавым сьвяткаваньне нашай вялікай нацыянальнай падзеі, якое адбылося 22 сакавіка 2003 году, за пяць дзён да апэрацыі і за тры месяцы да сьмерці пісьменьніка. Часта прыпамінаю ягоныя словы. Натхняюць яны мяне і сёньня:

«Восемдзесят пяць гадоў таму ў слотны й шэры дзянёк на зачыне вясны беларусы зьдзейсьнілі цуд. Не, яны не панішчылі ворагаў, ня вызвалілі краіны, не дамагліся свабоды, але яны запалілі кволую сьвечку надзеі. Пры яе сьціплым сьвятле яны, як маглі, змагаліся з бальшавіцкай навалай, з фашыстоўскай акупацыяй, з роспаччу і паняверкай, што за стагодзьдзі ўкараніліся ў гаротным народзе. Мы ўсьцешаныя, што гэтая сьвечачка гарыць і дасюль, і хоць яе зыркі агеньчык слаба сьвеціць, часам капціць і ня грэе, але ён дае спадзеў шмат якім пакаленьням беларусаў на сьвятло і цяпло, на свой дом і сваю сям'ю — тое, без чаго ў гэтым драпежным сьвеце нікому няма і ня будзе жыцьця.

Дык няхай яна гарыць, нашая кволая спадзяванка, якую мы песьцім і тулім, ашчаджаем і беражэм, як найлепшыя зь беларусаў яе бераглі да нас з думкай: а раптам яна ўспыхне сонечным зьзяньнем, калі надарыцца спрыяльны для таго час. Бо калі ня будзе таго, хай сабе слабога, агеньчыку, ня ўспыхне нічога. І для нас настане вечная ноч. Але мы ня хочам вечнай ночы, мы — божае стварэньне, людзі, і мы маем права на боскую долю. Памажы нам Гасподзь! І — жыве Беларусь!..»

## Аўра сьвятасьці

Напярэдадні майго ад’езду з Прагі разам зь Сяргеем Навумчыкам мы адведалі спадарства Быкавых у іх маленькай кватэры. Разам пайшлі паабедаць у кітайскую рэстарацыю. Зрабілі пару здымкаў. Нягледзячы на трывогу перад апэрацыяй, спадар Васіль і спадарыня Ірына, як заўсёды, імкнуліся зрабіць для нас гэтае спатканьне мілым і прыемным. Не ўяўляла я тады, што Васіля Быкава я болей не пабачу.

...Прыгадваецца мне айцец Джон Гардон, колішні прафэсар аднаго з атаўскіх унівэрсытэтаў і аўтар кніг па гісторыі рэлігіяў, зь якім мы зь Янкам пазнаёміліся ў сямідзясятыя гады. Меў ён для нас своеасаблівую аўру сьвятасьці. У яго прысутнасьці мы чуліся ў іншым — лепшым — сьвеце. Такое я адчувала пры кожным спатканьні з Васілём Быкавым. Часта пераношуся думкамі ў Менск, дзе плача па мужу спадарыня Ірына. Адчуваю яе боль. Я таксама страціла майго сябра жыцьця і дасюль не магу з гэтым пагадзіцца.

## Выдатныя жанчыны

*Мая маці. — Роса-Марыя. — Зіна Гімпелевіч і Паўліна Сьміт-Пашкевіч. — Ала Орса-Рамана. — Лёля Міхалюк, Віялета Кавалёва і Надзя Дробіна. — Люда Войтанка. — Раіса Жук-Грышкевіч і Валянтына Пашкевіч. — Жанчына ўсё можа!*

### Мая маці

Мяркую, што мэмуары гэтыя не былі б завершанымі без разьдзелу, прысьвечанага беларускім жанчынам. Хай мне прабачаць мужчыны за гэты падзел беларускага народу на дзьве паловы, але трэба прызнаць, што шмат яшчэ не сказана пра вялікую ролю, якую адыгралі ў жыцьці нашага краю жанчыны.

Чытаючы нядаўна ўспаміны аднаго слаўнага беларуса пра «ведамых людзей», заўважыла, што ён ня ведаў ніводнай выдатнай беларускі... Я ж мела шчасьце спаткаць вялікую колькасьць выдатных жанчын, і прысьвячаю гэты разьдзел маіх успамінаў ім.

Пачну ад маёй мамы, Эвэліны (называў яе тата Валяй) Пашкевіч-Шыманец. Была яна нашым анёлам і героем. Здабыла навуку ў неймаверных абставінах. Дзякуючы яе стараньням бальшавікі ня вывезьлі тату ў Сібір у 1941 годзе. Дзякуючы яе адвазе й веры дабраліся мы ў Данію. Падтрымлівала яна ўсе татавы ініцыятывы. Ніколі не наракала. Моцна верыла ў

Бога. Сваёй бясконцаю любоўю давала сэнс высілкам, якія мы з братам рабілі, каб дасягнуць нашых мэтаў. Цешылася нашымі посьпехамі й адначасна зь вялікім разуменьнем ставілася да няўдачаў. Нічога не вымагала. Падчас навукі маёй дачкі Ганны-Прадславы ў Францыі мама была яе найлепшай сяброўкай, зь якой яна магла падзяліцца сваімі перажываньнямі куды вальней, як з бацькамі. Дасюль Ганя тужыць па сваёй дарагой бабулі.

### Роса-Марыя

Я ўжо ўспамінала пра жанчын, гэтым разам не беларусак, якія адыгралі вялізарную ролю ў мае дзіцячыя гады ў Даніі. У Францыі таксама спаткала выдатных жанчын — сяброўак, зь якімі яшчэ ў кантакце. І настаўніц, якія верылі ў мае магчымасьці яшчэ перад тым, як я поўнасьцю авалодала францускай мовай. Навукоўцы даказваюць, як гэта важна для посьпеху дзіцяці, калі яно карыстаецца даверам і падтрымкай бацькоў і настаўнікаў.

Пра нашу гішпанскую сяброўку Росу-Марыю Мэлендэс я ўжо пісала. Але дзеля яе надзвычайнай мужнасьці хочацца расказаць пра яе крыху болей.

З Росай-Марыяй я пазнаёмілася ў Оксфардзе летам 1958 году, але Янка яе ведаў раней — яна на дзіва добра плавала ва ўнівэрсытэцкім басэйне. З прычыны перанесенага ў дзяцінстве поліяміэліту Роса-Марыя амаль не карысталася нагамі, трымалася на адмысловых апаратах, але ў калясцы ня езьдзіла. Яна скончыла факультэт ядзернай фізыкі Мадрыдзкага ўнівэрсытэту і ўсё жыцьцё працавала па сваёй спэцыяльнасьці. Яе мужнасьць захапляла

ўсіх сяброў. Прыгожая, разумная і адважная, аб'ехала яна калі ня ўвесь сьвет, дык прынамсі Эўропу і Паўночную Амэрыку. Яна была нашай найбліжэйшай сяброўкай у Мадрыдзе, і я дасюль часта зь ёю кантактую. Цяпер ёй ужо цяжка езьдзіць. Яе хобі цяпер — глядзець тэніс па тэлебачаньні. Цешыцца, калі выйграюць беларусы.

### Зіна Гімпелевіч і Паўліна Сьміт-Пашкевіч

У Канадзе, дзякуючы нашаму Фонду дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі, я зноў спаткала безьліч выдатных жанчын. Пачну тут, аднак, ад дзьвюх беларусак, маіх сябровак — прафэсара Зіны Гімпелевіч, цяперашняй старшыні Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва ў Канадзе, і Паўліны Сьміт-Пашкевіч, дачкі старых эмігрантаў з Століншчыны. Бязь іх мы наагул не змаглі б заснаваць фонду. Рэч у тым, што міністэрства, ад якога мусілі атрымаць рэгістрацыю, вымагала подпісаў трох асобаў, якія ня маюць сямейных сувязяў. Зіна і Паўліна згадзіліся адразу падпісаць нашую заяву, і Зіна прапанавала заплаціць палову адміністрацыйных выдаткаў, зьвязаных з стварэньнем фонду.

Зіна і Паўліна шмат гадоў працавалі ў фондзе, і яны яго пажыцьцёвыя сябры. Мушу зазначыць, што ня кожны згодзіцца ўвайсьці ў арганізацыю зь фінансавай адказнасьцю. Дапамаглі нам шчодрасьць і адвага гэтых дзьвюх беларусак.

Зіна Гімпелевіч, прафэсарка канадзкага ўнівэрсытэту Ватэрлёо, напісала кнігу пра Васіля Быкава на ангельскай мове. Ад 1989 году яна душа беларускага ўдзелу ў канфэрэнцыях

славістаў Канады. Штогоду робіць даклад на беларускіх сэсіях гэтых канфэрэнцыяў, інфармуючы канадзкіх навукоўцаў пра Беларусь і беларускую культуру. Яна адначасна сяброўка Згуртаваньня беларусаў Канады, актыўна ўдзельнічае ў беларускім грамадзкім жыцьці.

Паўліна Сьміт-Пашкевіч нарадзілася ў Канадзе ў баптысцкай беларускай сям'і на пачатку трыццатых гадоў. Заўсёды брала ўдзел у грамадзкім жыцьці Квэбэку. Мы зь ёю выпадкова пазнаёміліся, калі яе абралі ў склад Камісіі ангельскамоўнага школьніцтва ў рэгіёне Ўтаўэ. Ад 1991 году Паўліна поўнасьцю аддалася працы ў Канадзкім фондзе дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі. Была яго сакратаром, прымала ў сябе перакладчыкаў, якія прыяжджалі зь дзецьмі зь Беларусі. Паўліна мае сына, дзьве дочкі й трох унукаў. Марыць пра тое, каб адведаць родную Століншчыну.

Зь любоўю і ўдзячнасьцю ўспамінаю ўсіх іншых беларусак, якія сталіся неад'емнай часткай майго сьвету. Некаторых ведаю ўжо вельмі доўга, зь іншымі пазнаёмілася пазьней, падчас маіх падарожжаў па сьвеце ў якасьці старшыні Рады БНР. Хацелася б падзяліцца ўспамінам пра ўсіх, але на гэта не хапіла б, мусіць, ня толькі гэтага разьдзелу, але і ўсяе кнігі. Таму вырашыла расказаць толькі пра некаторых зь іх, усіх на чужыне. Усе яны паўнавартасныя ўдзельніцы беларускіх асяродкаў у сьвеце, усе — цудоўныя людзі.

**Ала Орса-Рамана**

Пра Алу Орса-Рамана, мусіць, кожны беларус ведае. Яна выдатная беларуска, прафэсар, выкладчыца хіміі ў Нью-Ёрскім унівэрсытэце,

якая гадамі знаходзіла час вучыць нашую моладзь беларускім народным танцам. Ала і сама цудоўная танцорка. Яна сьпявае ў беларускіх царкоўных хорах, арганізуе ўсе канцэрты беларускай грамады ў Нью-Ёрку і бярэ актыўны ўдзел у палітычнай дзейнасьці беларускай дыяспары ў Злучаных Штатах. І гэта яшчэ ня ўсё. Ала Орса-Рамана заклала Адукацыйную фундацыю, якая спрычынілася да ажыцьцяўленьня шматлікіх беларускіх культурніцкіх задумаў. Выгадавала двух сыноў, таксама добрых беларусаў, якія ўдзельнічаюць у беларускім жыцьці й дапамагаюць фундацыі. Я асабіста вельмі ўдзячная Але за яе такі каштоўны ўклад у жыцьцё Рады БНР.

### Лёля Міхалюк, Віялета Кавалёва і Надзя Дробіна

Захапляюся адданасьцю, патрыятызмам яшчэ адной маёй беларускай сяброўкі, Лёлі Міхалюк. Калісьці, гадуючы трох сыноў, дапамагала мужу Янку Міхалюку ў ягонай дзейнасьці на чале Згуртаваньня беларусаў Вялікабрытаніі. Страшэнна перажывала, калі ён захварэў. Аднак пасьля яго сьмерці знайшла ў сабе сілу і мужнасьць, каб прадаўжаць ягоную адказную і цяжкую працу. Узначаліла згуртаваньне, і вось ужо шмат гадоў удзячная беларуская грамада ў Брытаніі пераабірае яе на гэтую пасаду.

Віялета Кавалёва кіруе ў Таронта выдатным беларускім хорам «Яворавы людзі» й рэдагуе газэту беларусаў Канады «Беларускае слова». Адначасна працуе (грамадзкая праца ў замежжы ня платная) і выхоўвае з мужам дзьвюх цудоўных беларусачак.

Надзя Дробіна была некалькі гадоў старшынёй Згуртаваньня беларусаў Канады. Працуе на царкоўнай ніве, усім займаецца, усё арганізоўвае, усім дапамагае. Гэта яшчэ адна выдатная беларуска, здольная і прыгожая, безь якой цяжка было б уявіць беларускае жыцьцё ў антарыйскай сталіцы. Таксама працуе і гадуе з мужам сына.

**Люда Войтанка**

Мая сяброўка яшчэ з Баранавічаў Люда Войтанка-Бакуновіч жыве цяпер у Нью-Ёрку, дзе гадуе дзьвюх блізьнятак, яе наймалодшых унучак. Нядаўна яе таксама абралі ў галоўную ўправу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Але калі была нават звычайнаю сяброўкаю БАЗА, яна заўсёды цікавілася беларускім жыцьцём — і менавіта суродзічамі ўва ўсім сьвеце. Калісь перапісвалася з Ларысай Геніюш. Калі мы жылі ў Гішпаніі, рэгулярна прыходзілі ад Люды пачкі з адзежай для маіх дзяўчатак і іншымі рэчамі, якія, яна ўважала, мне прыдадуцца. На Каляды часта дасылала грошы. Мае Люда неймаверна вялікае сэрца. Сама выгадавала пяцёра дзяцей, заўсёды працавала і заўсёды знаходзіла час і волю падзяліцца тым, што мела.

**Раіса Жук-Грышкевіч і Валянтына Пашкевіч**

Пра Раісу Жук-Грышкевіч скажу толькі, што ў восемдзесят сем гадоў яна ўсё яшчэ поўная энэргіі, чытае «Нашу Ніву» ад А да Я. Брала нядаўна ўдзел у паломніцтве нашай таронтаўскай грамады да Беларускага крыжа ў Мідлэндзе, які яны з мужам узьнялі. Да нядаўна выдавала сама, на сваім кампутары (і сама ва-

зіла на пошту), бюлетэнь «Камунікат», у якім імкнулася перадаць суродзічам свой патрыятызм. Заслужыла яна гэтым удзячнасьць кожнага з нас. Дай Божа ёй яшчэ шмат гадоў жыцьця.

З удзячнасьцю і любоўю ўспамінаю старэйшую сястру Раісы, Валянтыну Пашкевіч. Была гэта жанчына разважная, разумная, надзвычай цікавая. У Таронта мы зь Янкам і нашымі дзяўчаткамі часта затрымліваліся ў Валі і Міхася Пашкевічаў. Было гэта для нас заўсёды вялікай прыемнасьцю. Валя Пашкевіч — аўтарка двух тамоў падручніка беларускай мовы для ангельскамоўнай моладзі. Ангельска-беларускі слоўнік, які быў нядаўна выдадзены Беларускім Інстытутам Навукі і Мастацтва, ёсьць вынікам шматгадовай працы Валянтыны Пашкевіч і групы супрацоўнікаў інстытуту.

## Жанчына ўсё можа!

Спадзяюся, што калісь напішу і пра маіх новых сяброўак у Польшчы, Прыбалтыцы і Аўстраліі, пра цудоўных дзяўчат, якіх спаткала ў Чэхіі і Ангельшчыне, пра выдатных мастачак і ўсіх тых надзвычайных жанчын, зь якімі пазнаёмілася ў 1992 годзе ў Беларусі. Ну і, безумоўна, пра выдатных беларусак Канады і Злучаных Штатаў, пра якіх дасюль не напісала.

Усе яны прыгожыя, разумныя, здольныя жанчыны. Тых, што гадаваліся ў Беларусі, жыцьцё навучыла даваць сабе рады ў найгоршых абставінах. Усе яны працуюць, гадуюць або выгадавалі дзяцей. І абавязкова знаходзяць час на грамадзкую працу. Вітаю вас, дарагія сяброўкі, і ад імя Рады БНР дзякую вам за працу, якую робіце для дабра ўсіх нас.

Дазволю сабе тут адказаць маладой беларусцы, якая пыталася ў перадачы Радыё Свабода: што звычайная дзяўчына можа зрабіць дзеля карысьці бацькаўшчыны? Усё можа! Кожная беларуска можа стацца Прадславай, Цёткай, Эміліяй Плятэр, Ларысай Геніюш. Усё, што рабілі гэтыя выдатныя беларускі, дасюль актуальнае. Але перадусім трэба ўсьвядоміць: калі чалавек хоча, дык усё можа!

# Каменне на нашым шляху

*Пакутлівыя думкі. — Турма народаў. — Акадэмік на абароне імпэрыі. — Памяць пра страх. — Савецкая мэнтальнасьць. — Індывідуалізм. — «Абы выжыць»? — Пытаньні да саміх сябе*

## Пакутлівыя думкі

Хто і што перашкаджае нашаму народу на шляху да нармальнага, цывілізаванага, дэмакратычнага ладу жыцьця? Чаму ён не скарыстаў з магчымасьцяў, якія былі яму дадзеныя ў пачатку дзевяностых гадоў, каб адрадзіць сваю вольную дзяржаву? Чаму дазволіў ён чалавеку, ня вартаму ані нашай увагі, ані павагі, называць сябе «бацькам»? Чаму наша бацькаўшчына ёсьць адзінай дыктатурай у Эўропе? Чаму наш разьвіты і разумны народ ня здольны скінуць ярмо, як гэта зрабілі ўсе нашы суседзі?

Пытаньні гэтыя мяне турбуюць — як, мяркую, і многіх маіх суродзічаў. Ёсьць на гэтыя пытаньні дзясяткі адказаў. Хацела б тут падзяліцца маім асэнсаваньнем варожых сілаў — вонкавых і ўнутраных — на нашым шляху да волі і дабрабыту.

## Турма народаў

Самай першай такой варожай сілай лічу нашага ўсходняга суседа. Ня лёгка нам абараняцца ад яго. Ён мацнейшы за нас. Ён поўнасьцю

амаральны. Ён на працягу амаль двух стагодзьдзяў быў турмой народаў паловы Эўропы і Азіі. Ніхто Беларусі не зрабіў столькі зла ў гісторыі, як Масква.

Але ж Масква — сусед ня толькі наш. Меншыя за нас народы вызваліліся ад яе ярма. А частка нашага народу яшчэ ўсё ўважае дапушчальным гаварыць пра саюз з Расеяй!

### Акадэмік на абароне імпэрыі

Другім нашым няшчасьцем, зь якім мне асабіста прыйшлося змагацца ўсё маё жыцьцё, — няведаньне сьвету пра наша існаваньне. Пасьля развалу Савецкага Саюзу мы былі папросту белай плямай у сярэдзіне Эўропы.

Беларускі народ дасюль ня ведае, да якой ступені акупанты хавалі яго існаваньне ў час БССР. Калі Беларусь абвясьціла незалежнасьць, расейская эміграцыя, якая, на жаль, вывезла з сабой галоўную характарыстыку свайго народу — імпэрыялізм, пераняла гэтую функцыю Масквы. Заварушылася ва ўсім сьвеце, каб даказаць, што мы не існуем. Я спачатку ня верыла сваім вачам, чытаючы артыкулы, падпісаныя цяперашнім пажыцьцёвым сакратаром Францускай акадэміі Элен Карэр д’Анкос, у якіх яна даказвала, што мы — штучна створаны ў савецкі час народ. А потым шмат што зрабілася зразумелым, калі даведалася, што яе продкі паходзяць з Расеі...

Дзеля гэтае прапаганды, з аднаго боку, і пацьверджаньняў яе Масквой і яе паплечнікамі ў Менску — з другога, Захад папросту ня ведаў, што з намі рабіць. Пасыпалася дапамога нашым суседзям з усіх бакоў — толькі пра нас (і, магчыма, Малдову) сьвет забыўся. І гэта ня-

гледзячы на ўсе высілкі беларускай дыяспары, і гэта тады, калі наш край стаўся найбольшай ахвярай чарнобыльскага злачынства.

### Памяць пра страх

Але ж сытуацыя зьмянілася. Сьвет цяпер пра нас ведае, нам спачувае і хоча дапамагчы. А мы яшчэ ўсё рабы той самае сыстэмы. Тыя, што цэняць волю, яшчэ ўсё чакаюць, каб нехта іх вызваліў. А для бальшыні воля яшчэ ня сталася жыцьцёвым прыярытэтам. Ці мы сапраўды тая «рабская нацыя»? Усёй маёй душой ведаю, што — не.

Наш народ добры, разумны, натуральна інтэлігентны, працавіты, сумленны. Мы ня горшыя за іншых. Але мы задоўга былі ў няволі і перажылі Чарнобыль. Выжыць — сталася нашай галоўнай мэтай. Гэта добра разумелі акупанты й разумеюць цяперашнія ідэолягі рэжыму. Тады, калі ўвесь сьвет стараўся забыцца пра Другую ўсясьветную вайну (была яна «айчыннай» толькі для Расеі), беларусам усё яшчэ на кожным кроку яе прыпамінаюць. Памяць перажытага выклікае страх, а дыктатару гэта на руку.

### Савецкая мэнтальнасьць

Беларускі народ — найменш паінфармаваны народ у Эўропе. Ня ведае ня толькі пра тое, што робіцца за межамі Беларусі, але ня ведае нават пра тое, што робіцца штодня ў Беларусі. Чуе толькі тое, што яму кажуць лукашэнкаўскія прапагандысты, якіх штодзёншчына — падман і хлусьня. У такіх умовах, безь ніякае надзеі на лепшае, цяжка нават думаць. Пра зьме-

ны марацц толькі людзі, якія маюць доступ да інфармацыі.

Да гэтага трэба дадаць савецкую мэнтальнасьць, якую нам пакінуў у спадчыну Савецкі Саюз. І гэта найбольш страшна. Мне цяжка зразумець, як наш звычайна разважны й памяркоўны народ мог да такой ступені паддацца мане ды прапагандзе. Няўжо ворагам удалося цалкам сьцерці яго генэтычную памяць?

### Індывідуалізм

Але што робяць тыя, хто ведае? Індывідуалістамі мы былі заўсёды, пра гэта калісь сьведчыў посьпех нашых хутароў, а раней, у XVIII стагодзьдзі — на жаль, развал нашай дзяржавы. Але ў кожнай краіне, якой пагражае няволя ці заняпад, людзі неяк перамагаюць свой індывідуалізм, яднаюцца, салідарызуюцца, ідуць на бой «шчыльнымі радамі». Ствараюць урады нацыянальнай еднасьці, бо ведаюць, што разам пераможуць там, дзе паасобку зрабіць гэта ім не да сілы.

Магчыма, недастаткова мы любім, недастаткова паважаем адзін аднаго. Цяжка гэта зразумець. Праўда, чужынцы нас заўсёды дзялілі. Выкарыстоўвалі ўсе нашыя адрозьненьні — веравызнаньне, геаграфію, адукацыю, сацыяльны статус. Але ж людзей можна падзяліць, толькі калі яны самі гэта дазволяць. У іншых народаў падзел гэты амаль не заўважаецца.

### «Абы выжыць»?

А можа, палітык Павал Севярынец мае рацыю. Магчыма, зашмат здрадаў адбылося ў жыцьці нашага народу. Магчыма, не ацанілі мы адпаведна тое, што нам было дадзена: наш

цудоўны прыгожы край, нашы здольнасьці, нашу культуру, у 1991 годзе — нашу незалежнасьць. Ня ўсім Бог даў столькі дабра. Курды, чачэнцы і столькі іншых народаў яшчэ ўсё змагаюцца за волю. Але — мы хацелі болей. Ці спыталіся мы калі — так, як казаў суродзічамамэрыканцам прэзыдэнт Джон Кенэдзі: а што мы далі нашаму краю, якая карысьць нашай бацькаўшчыне з сыноў і дачок — такіх, як мы?

Адказ, які мяне найболей праймае, гэта — мы ж яшчэ ўсё пад уплывам чарнобыльскае бяды. Ці не адабрала яна ў нас тую энэргію, якая нам дазволіла перажыць толькі ў XX стагодзьдзі дзьве страшэнныя вайны, ня кажучы пра Курапаты, ссылкі, тэрор і галечу?

Замест каб дапамагчы краю ачуняць, рэжым усё робіць, каб адабраць у нас нашу адвечную жыцьцяздольнасьць і веру ў будучыню. Выразы «абы выжыць», «абы не было вайны» сталіся лёзунгамі нашага народу. Людзі недаядаюць, касуюцца чарнобыльскія льготы, плянуюцца новыя чарнобылі ў цэнтры краіны, катуецца моладзь — наша будучыня. Толькі «вэртыкаль» ды іншыя інструмэнты ўлады ўсё маюць. Ці толькі ім будзе дазволена выжыць? Ці, перамогшы нямецкі фашызм, не апынуліся мы зноў у руках той самай ідэалёгіі, хаця і крыху іншага колеру?

### Пытаньні да саміх сябе

Дык што? Будзем чакаць? Караткевіч казаў: «І адзін можа». Можа, ад гэтага ўсьведамленьня нам і трэба пачаць?

Што я — Зьміцер, Сяргей, Аляксандар, Мікола, ці Сьвятлана, Ірына, Ганна, Марына — зрабіў ці зрабіла, каб жыла бацькаўшчына? Ці

я хоць раз выказаўся ці выказалася за незалежнасьць і свабоду Беларусі? Ці я калі паехаў ці паехала ў вёску адведаць якую старэнькую спадарыню, ды падтрымаў ці падтрымала яе? Ці я хоць раз выступіў ці выступіла ў абарону маіх людзкіх правоў? Ці я падтрымаў ці падтрымала палітычнага вязьня, які ў турме таму, што адважыўся быць маім голасам? Ці я зьвярнуўся ці зьвярнулася ў маю гарадзкую ўправу, каб выратаваць хоць адзін помнік мінуўшчыны — адну частачку маёй гісторыі? Ці я гавару па-беларуску ў маім штодзённым жыцьці? Ці я расказваю маім дзецям пра падзеі мінуўшчыны, якія дазволяць ім зразумець, хто яны? Ці я час ад часу запрашаю дзіця з суседняга дзіцячага дому, каб даць яму таксама пачуцьцё, што яно вартае ўвагі?

Каб яно, і я, і мой брат, і сястра, і іх дзецi ведалі, што ўсе мы належым той самай беларускай зямлі, што мы ўсе — браты і сёстры, мо мы ўсё яшчэ здолелі б адрадзіць наш край і давесьці яго да нормаў Эўропы, часткай якой мы калісь былі? А гэта ўмова sine qua non, абавязковая, каб нарэшце дасягнуць нашай супольнай мэты — выжыць ня толькі да заўтра, а пакуль на гэтай зямлі будуць людзі.

*Атава, 2008*





На сустрэчы з прэм'ер-міністрам Чэхіі Міраславам Топаланкам, разам з Аляксандрам Казуліным, Аляксандрам Мілінкевічам, Станіславам Шушкевічам і Зянонам Пазьняком. Прага, 2009

З а. Аляксандрам Надсанам





Зь Сяргеем Навумчыкам пасьля гутаркі зь міністрам замежных справаў
Чэхіі Карлам Шварцэнбэргам. Прага, 2015

У студыі з журналісткай Радыё Свабода Ганнай Соўсь



З прэм'ер-міністрам Канады  Стывэнам Гарпэрам





Падчас узнагароджаньня мэдалём Брыльянтавага юбілею каралевы Лізаветы II з канадыйскай сэнатаркай Райнэл Андрэйчук. Атава, 2013

З Уладзімерам Арловым і Вінцуком Вячоркам у Празе, 2015



Дзьве Івонкі — з чэскай беларускай Івонкай Глыбоўскай на сьвяткаваньні
25 Сакавіка ў Празе, 2015

# «Толькі зьяднанымі і салідарнымі мы збудуем наш беларускі дом»

*У 100-ю гадавіну абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла адказвае на 100 пытаньняў — пра жыцьцё, мастацтва, пра сьвет і Беларусь*

## Пра сябе

**Ваш самы першы ўспамін.**

Я яшчэ не хадзіла, але чамусьці запомніла і дасюль памятаю бляск сонца на паверхні Нёмана ў Стоўпцах.

**Ці ведаеце Вы, чаму Вас назвалі Івонкай?**

У 1935 годзе ў Канадзе жанчына нарадзіла пяцёра дзяўчатак, адну зь якіх назвалі Івонкай. Маім бацькам спадабалася гэтае імя, і яны пачалі мяне называць Івонкай. Аднак калі пайшлі мяне хрысьціць, дык сьвятар адмовіўся мяне назваць Івонкай, бо ў ягоным календары сьвятых не было такога імя, і запісаў мяне Ёаннай. Для бацькоў і сяброў я назаўсёды засталася Івонкай.

**А ці была ў дзяцінстве нейкая сямейная мянушка?**

Ніякай мянушкі ніколі ня мела.

**Пра што Вы марылі ў дзяцінстве?**

Ад самага маленства хацела быць мастаком. Думаю, прычына — у пачуцьці задавальненьня, калі настаўніца панесла па ўсёй школе паказваць маю ілюстрацыю казкі «Бабка і рэпка». Было мне тады шэсьць гадоў.

**Ваш шлях у эміграцыю разам з бацькамі быў пакутлівым — які самы страшны ўспамін?**

Самы страшны ўспамін з ваенных часоў — гэта сьвіст бомбаў. Часта ляскала зубамі. Ад вайны, аднак, страшных успамінаў вельмі шмат. Сьмерць маёй сястрычкі Прадславы ў шпіталі, дзе я ляжала зь ёй у адным ложку, — найбольш трагічны.

**А самы сьветлы?**

Гэта калі мой васьмігадовы брацік Лёнік, якога пасьля цяжкой хваробы мама насіла на руках, першы раз змог стаць на ногі.

**Які прадмет (дысцыпліна) у школе быў самым любімым?**

Заўсёды любіла жывыя мовы і мастацтва. Але некалькі гадоў самым любімым прадметам была матэматыка, а ў апошні год ліцэю — хімія. Усё залежала ад прафэсійных здольнасьцяў настаўніка.

**А які — самым нелюбімым?**

Мусіць, ніколі не любіла лаціны.

**Ці была ў Вашым жыцьці такая крыўда, якой Вы не даравалі?**

Шмат чаго не дарую нашым усходнім суседзям.

**Ці лёгка Вы самі даруеце людзям крыўды?**

Залежыць звычайна ад глыбіні раны. Але ў гэтым мамэнце не магу прыпомніць ніводнага прыкладу.

**Пра што Вы найбольш шкадуеце ў жыцьці?**

Шкадую, што прыйшлося пражыць жыцьцё далёка ад зямлі маіх продкаў.

**Пасьля таго як у маленстве Вас вывезьлі зь Беларусі, Вы жылі ў некалькіх краінах — у Францыі, Гішпаніі і Канадзе. Дзе пачуваліся найбольш камфортна?**

Апрача Францыі, Гішпаніі і Канады, я жыла тры гады ў Даніі — адразу пасьля вайны, калі пасьля нейкага часу мы пачалі жыць больш-менш нармальна, нягледзячы на тое, што жылі ў лягерах для ўцекачоў. Я тады моцна палюбіла Данію. Яшчэ сёньня маю з таго часу сяброў.

**Якім чынам навіны з Бацькаўшчыны даходзілі да Вас у часы СССР?**

Шмат вестак да нас не даходзіла. Мы не ўяўлялі сабе нават, што людзі між сабой гавораць па-расейску, што ўважаюць сваёй айчынай Савецкі Саюз «ад Берасьця да Ўладзівастоку»! Мы ня верылі, што людзі выяжджаюць ў Расею добраахвотна. Ведалі шмат пра замежную палітыку Масквы, але вельмі мала пра «homo sovieticus» і пра ўнутраныя парадкі ў імпэрыі. Ведалі пра псыхіятрычныя шпіталі. Але толькі ад генэрала Грыгарэнкі даведаліся, што

ў Беларусі руйнавалі сьвятыні ў шасьцідзясятыя гады.

**Які Ваш самы вялікі шанцунак у жыцьці?**

Спатканьне з маім мужам. Удзячная за тыя трыццаць сем гадоў, якія мы пражылі разам.

**Калі разам з мужам Янкам Вы працавалі на беларускім радыё ў Мадрыдзе, якія тэмы перадачаў лічылі найважнейшымі?**

Зьмест беларускіх перадачаў Гішпанскага радыё быў такім, які мы хацелі. Не было з боку Гішпаніі ані цэнзуры, ані загадаў. Пачыналіся перадачы весткамі, прадаўжаліся рэдакцыйным артыкулам на міжнародныя тэмы, а рэшта — зьмест чыста беларускі. Гаварылі пра ўсё, пра што не гаварылася ў Беларусі і не гаворыцца цяпер. Пра палітыку, гісторыю, культуру — не было тэмы, якой бы мы не закраналі. Часта перадавалі артыкулы, апублікаваныя ў беларускай эміграцыйнай прэсе. Перадавалі заявы Рады БНР, заклікі Мікола Абрамчыка з нагоды 25-га Сакавіка. На жаль, нашыя перадачы моцна глушыліся, так што, нягледзячы на іх тэхнічную якасьць, няшмат можна было пачуць у самой Беларусі.

**Ці не нудзіла Вас сваім канцылярызмам праца ў Бюро перакладаў ураду Канады?**

Праца перакладніка — праца творчая, нягледзячы на тое, што перакладнік перадае на іншай мове думку кагосьці іншага. Нуднай гэтую працу ніколі не ўважала. Пагатоў што Бюро перакладаў Канады было вельмі вялікае, перакладаліся тэксты на розныя тэмы, у розных спэцыяльнасьцях. Я працавала з тэкстамі

на палітычныя тэмы, перакладала тэксты Нацыянальнага музэю мастацтва Канады, працавала ў Статыстычным бюро, дзе спэцыялізавалася ў дэмаграфіі, у канцы кіравала аддзелам у Міністэрстве здароўя. Празь нейкі час вучыла іншых перакладнікаў. Пасьля мяне папрасілі стварыць аддзел перакладаў з чужаземных моваў на французскую — ім кіравала 14 гадоў. Так што нудна на працы ніколі не было.

**Што найцяжэйшае было для Вас як для перакладніцы?**

Вечна сьпешная праца.

**Ці здараліся ў Вас моманты роспачы і безвыходнасьці, і калі так, што выратоўвала ў такіх сытуацыях?**

Так, здараліся. Калі прычыны не залежалі ад мяне — малітва.

**Якая галоўная рыса Вашага характару?**

Галоўная рыса майго характару — вера. Шмат маіх дасягненьняў — дзякуючы сіле веры.

**Адна Вашая дачка, Ганя, паводле адукацыі матэматык, другая, Паўліна, — музыказнаўца. Ці паўплывалі Вы на іхны выбар прафэсіі?**

Не, мы абсалютна не ўплывалі на выбар прафэсіі нашых дачок. Пакінулі ім поўную свабоду. Паўлінку прынялі на біялёгію ў прэстыжны ўнівэрсытэт, зьмяніла пляны ў апошні момант. Ганя, вельмі здольная да моваў, апраўдала выбар матэматыкі тым, што ня мела б ніякага задавальненьня, калі б выбрала лёгкі для яе прадмет.

**А ці раілі Вы ім пры выбары мужоў?**

Не мяшаліся ў іхнае жыцьцё і пры выбары мужоў. Аднак задаволеныя былі з выбару.

**Назавіце трох людзей (ня зь ліку блізкіх), якія найбольш на Вас паўплывалі.**

Мой прафэсар Жан Сувэрбі зьмяніў мой погляд на мастацтва, настаўніца францускай літаратуры адкрыла вочы на ўсё, што трэба шукаць між радкамі клясычнага тэксту, і — Інгрыд Бэргман у ролі Жанны д'Арк.

**Вы казалі пра вялікае ўражаньне, якое зрабіў на вас Васіль Быкаў. Якую галоўную адметнасьць Быкава можаце назваць?**

Як і ўсе мы, захапляюся творчасьцю Васіля Быкава. Мела шчасьце пазнаёміцца зь ім і Ірынай Міхайлаўнай у Празе. Пакінулі яны на мяне незабыўнае ўражаньне, і яшчэ цяпер успамінаю цудоўныя мамэнты, праведзеныя разам кругом стала ў іхным памешканьні. Спадар Васіль быў чалавекам спакойным, памяркоўным і адначасна вельмі яскравым і глыбокім. Але перадусім бясконца любіў Беларусь і стараўся перадаць гэтую любоў сваім чытачам.

**Чым больш за ўсё ганарыцеся ў жыцьці?**

Найбольш ганаруся, магчыма, тым, што мела адвагу стварыць Канадзкі фонд дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі і ўзначальваць яго восем гадоў. Думаю, што Фонд дапамог шмат каму зь цяпер ужо дарослых беларусаў вырасьці здаровымі і з дасьведчаньнем, якога іншым шляхам не здабылі б. Спадзяюся, што яны ўжываюць гэта на карысьць свайго народу. Таксама ўважаю без-

умоўным і вялікім гонарам, што суайчыньнікі выбралі мяне Старшынёю Рады БНР.

**А пра што шкадуеце?**

Шкадаваць ня мае сэнсу, калі чалавек стараецца рабіць усё як найлепш, паводле сваіх магчымасьцяў у дадзены мамэнт. Лёс часам мог бы быць шчадрэйшым да кожнага з нас, але гэта ўжо ад нас не залежыць.

**Адзін Ваш зяць музыкант, а другі — палітоляг. З кім больш спрачаецеся?**

Абодва мае зяці цудоўныя хлопцы. Разумныя, таленавітыя і, што ўважаю найважнейшым, вельмі добрыя мужы для маіх дзяўчатак. Безумоўна, часам мы не згаджаемся ў той ці іншай справе, але да «вайны» між намі ніколі не даходзіць.

**Як Вам падабаецца адпачываць?**

Люблю хадзіць па музэях, менавіта — мастацкіх. Захапляюся. І ў гэты момант забываюся на бальшыню складанасьцяў жыцьця.

**Якое Вашае любімае сямейнае сьвята?**

Яшчэ ў дзяцінстве ў Даніі моцна палюбіла Каляды.

**Што азначаюць у Вашым жыцьці грошы, наколькі яны важныя?**

Каб было іх болей, безумоўна, прыдаліся б. Але яшчэ ў дзяцінстве навучылася шанаваць іншыя каштоўнасьці, найвялікшай зь якіх уважаю самое жыцьцё.

**Што для Вас музыка?**

Музыка — адзін зь вялікіх Божых дароў чалавецтву.

**Вашая маладосьць супала з усплёскам The Beatles і Rolling Stones — ці былі вы на іхных канцэртах, хто зь іх вам бліжэйшы?**

На жаль, на канцэртах ані Beatles, ані Rolling Stones ніколі не была. Але з мужам вельмі любілі Beatles.

**Ці сочыце вы за спартовымі спаборніцтвамі? Калі сустракаюцца беларускія і канадзкія хакеісты — за каго заўзееце?**

Безумоўна, сачу, калі бяруць у іх удзел нашыя суродзічы. Каго падтрымліваю, калі гуляюць беларускія хакеісты з канадзкімі? Адгадайце!

**За стырном аўтамабіля — Вы асьцярожны шофэр ці агрэсіўны?**

Я вельмі асьцярожны шофэр... прынамсі так сама думаю.

**Якое віно болей любіце — чырвонае ці белае?**

Чырвонае.

**Уявіце, што маеце магчымасьць перанесьціся на кароткі час у нейкі год зь мінулага. Які б гэта быў год?**

Мусіць, у 1959–60-ы, калі выйшла замуж за Янку.

**А які год Вы хацелі б наведаць у будучыні?**

У будучыні хацела б наведаць год адраджэньня назаўсёды незалежнай, дэмакратычнай Рэспублікі Беларусі!

**Якія кнігі Вы перачытваеце?**

Вяртаюся да тэкстаў, якія мяне кранулі сваім прыгаствам (гэта часта паэмы) або зьместам. Шмат разоў перачытвала «Апокрыф» Багдановіча.

**На што Вы больш спадзеяцеся?**

Спадзяюся, што новае пакаленьне асягне тыя мары, якіх не асягнулі мы.

## Сьцяг, «Пагоня», мова

**Якое першае слова Вы прамовілі? І на якой мове?**

У дзяцінстве я ведала толькі адну мову — беларускую. І ўяўляю, што першымі словамі былі «мама» і «тата».

**Калі Вы ўпершыню ўбачылі бел-чырвона-белы сьцяг?**

Дзіцем, у Беларусі. Іншых сьцягоў у нас ніколі не было.

**Што Вы адчулі, калі даведаліся, што ў 1995 годзе бел-чырвона-белы сьцяг і Пагоня былі пазбаўленыя статусу дзяржаўных сымбаляў?**

Адчула, што вяртаецца наш народ — добраахвотна! — у няволю. Маёй роспачы не было канца.

**Што б Вы сказалі тым, хто лічыць, што Беларусь можа існаваць і безь беларускай мовы?**

Мова — увасабленьне душы народу. Так як чалавек ня можа існаваць без душы, народ не народ без сваёй мовы. Усе акупанты, усе калянізатары пачынаюць сваю захопніцкую, асыміляцыйную дзейнасьць ад забароны мовы паняволенага народу.

**На Ваш погляд, ці могуць суіснаваць у беларускай мове „тарашкевіца« і „наркамаўка«?**

Спадзяюся, што з часам беларусы вернуцца да тарашкевіцы, бо яна лепш перадае якасьці нашай прыгожай мовы.

**Ці верыце Вы, што «Пагоня» і бел-чырвона-белы сьцяг вернуцца ў якасьці дзяржаўных сымбаляў Беларусі?**

Інакш яно і быць ня можа.

## Пра маладосьць і сталасьць

**Ці вучыцеся Вы чаму-небудзь у моладзі?**

Думаю, што толькі чалавек, які перастаў цікавіцца людзьмі і сьветам вакол сябе, перастае вучыцца. Тады хіба толькі веды і досьвед, якія ён сам яшчэ здольны перадаць наступным пакаленьням, апраўдваюць ягонае існаваньне.

**Якія звычкі і якасьці сучаснай моладзі Вам сымпатычныя?**

Адвечныя якасьці моладзі: ідэалізм, адвага, вера ў будучыню.

**А якія, наадварот, выклікаюць трывогу?**

Адсутнасьць цярплівасьці.

**Лічыцца, што кожны ўзрост мае свае перавагі. Якія перавагі сталага ўзросту?**

Дасьведчаньне. Памяркоўнасьць.

**Што б Вы параілі маладым беларусам?**

Калі ад вас гэта залежыць, не пакідайце сваёй Радзімы.

## Пра веру

**Якую ролю ў Вашым жыцьці адыгрывае рэлігія?**

Веру ў сілу малітвы.

**Хто Вы паводле веравызнаньня — праваслаўная, каталічка, уніятка?**

Мяне ахрысьцілі ў праваслаўнай царкве ў Стоўпцах. У жыцьці, аднак, я мела магчымасьць пазнаёміцца зь некалькімі іншымі хрысьціянскімі канфэсіямі і ўважаю, што супольнага між імі шмат болей, чым адрознага. Таму адчуваю сябе перадусім хрысьціянкай.

**Якой Вы бачаце ролю Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы?**

Веру, што прыйдзе час, калі Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква заменіць у Беларусі расейскае праваслаўе. Яно ў Беларусі заўсёды было на службе імпэрскіх інтарэсаў Расеі.

## Пра мастацтва

**Калі Вы ўпершыню зразумелі, што будзеце маляваць?**

Зразумела, да якой ступені люблю маляваць, калі першы раз узяла ў рукі алавік. Але захаплялася працамі таты яшчэ задоўга перад тым.

**Ці лічыце Вы сябе прафэсійным мастаком?**

Абсалютна.

**Які колер найбольш любімы?**

Чырвоны колер на тле белага палатна.

**Назавіце трох мастакоў, якія зрабілі на Вас найбольшае ўражаньне. І чым?**

Трое мастакоў, якіх я найбольш цаню, — гэта Батычэлі дзеля прыгажосьці ягонай лініі, Пікаса дзеля ягонага пачуцьця свабоды і ягонай адвагі, Шагал дзеля прысутнасьці Беларусі ў ягоным мастацтве.

**Ці ўпісваецца беларускае выяўленчае мастацтва ў сусьветны кантэкст?**

Безумоўна, і амаль уся *ecole de Paris* была выключна беларуская... Ня ўпісваўся ў кантэкст прынамсі заходняга эўрапейскага мастацтва толькі савецкі сацрэалізм.

**Ці даводзілася Вам вяртацца да сваіх жывапісных твораў праз доўгі час — дапісваць, дамалёўваць, перарабляць?**

Не. Але часам вяртаюся да тае самае тэмы.

## Пра БНР

**Якое сваё дасягненьне на пасадзе Старшыні Рады БНР лічыце галоўным?**

Тое, што Рада працуе, і працуе ў згодзе. Прыгадваюцца дні БНР у Эўрапарлямэнце ў Страсбуры і падпісаньне разам зь лідэрамі беларускіх арганізацыяў Віленскага мэмарандуму.

**Што б Вы хацелі зьмяніць у дзейнасьці Рады БНР?**

Калі б уважала, што трэба нешта зьмяніць, дык думаю, што дасюль гэта было б зроблена. Статут Рады, прыняты ў 2000 годзе, на маю думку, адпавядае нашым патрэбам.

**Хто з Вашых папярэднікаў на пасадзе Старшыні Рады выклікае ў Вас большую сымпатыю?**

Усе мае папярэднікі зь вялікай ахвярнасьцю выконвалі прынятыя на сябе абавязкі. Беручы, аднак, пад увагу вельмі цяжкія ўмовы, у якіх гэта рабіў Мікола Абрамчык у пасьляваенны пэрыяд, прыпамінаю яго з асаблівай сымпатыяй.

**Якую частку Вашага часу займае праца Старшыні Рады?**

Уся мая дзейнасьць зьвязаная з Радай БНР.

**Ці не шкадуеце, што ў свой час пагадзіліся абрацца на Старшыню Рады БНР?**

Адчуваю вялікую ўдзячнасьць калегам, якія мяне пераканалі пагадзіцца, каб мая кандыдатура была выстаўленая на выбары на сэсіі Рады ў 1997 годзе. Было гэта праз тры месяцы пасьля

сьмерці мужа, і я не была пэўная, ці ня будзе для мяне цяжкай гэтая адказнасьць. Але падтрымка родных і суродзічаў дапамагла перадолець усе цяжкасьці. І пасада гэтая дазволіла мне зьдзейсьніць шмат мэтаў, якіх інакш ня зьдзейсьніла б.

## Пра Чарнобыль

**Як вядома, у Канадзе пра Чарнобыль даведаліся раней, чым у Беларусі. Якое было першае адчуваньне, ці адразу ўсьвядомілі маштаб небясьпекі?**

З мужам пачулі пра ядзерную катастрофу ў СССР, як толькі пра яе заявіла Швэцыя. «Хаця б не зачапіла Беларусь», — падумалі мы. А калі сказалі, што выбухнуў рэактар на поўначы Ўкраіны і вецер вее на поўнач, — безумоўна, і я, і Янка зразумелі, што Беларусь пацерпіць. Для мяне ў гэты мамэнт скончыўся сьвет, хоць канадыйскія навукоўцы запэўнівалі, што калі б было так страшна, яны пра гэта ведалі б... Пра сапраўдны маштаб катастрофы даведаліся мы толькі ў 1989 годзе. У лістападзе 89-га стварылі Канадзкі фонд дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі.

**Што было найцяжэйшым у арганізацыі дапамогі пацярпелым ад Чарнобылю?**

Першыя паўтара года было найцяжэй зьбіраць сродкі, нягледзячы на велізарныя высілкі з нашага боку.

**Вы спрыялі аздараўленьню ў Канадзе тысячаў беларускіх дзяцей. Калі яны вырасьлі — ці перадаў вам хто-небудзь зь іх словы падзякі?**

Ня думаю, што дзеці здавалі сабе справу, колькі адданых людзей працавала, каб дапамагчы ім прыехаць на аздараўленьне ў Канаду. Сем'і дзетак затое пісалі канадзкім сем'ям лісты падзякі. І калі канадзкія сем'і езьдзілі ў Беларусь, каб іх адведаць і зь імі пазнаёміцца, прымалі іх з сапраўднай беларускай гасьціннасьцю.

**Чаму, на Ваш погляд, сёньня сьвет менш цікавіцца праблемай Чарнобылю, чым 25 гадоў таму?**

Праблема Чарнобылю зьнікла з экранаў тэлевізараў і зь іншых мэдыя дзякуючы перадусім стараньням урадаў пацярпелых краін і высілкам ядзернай індустрыі. А адзінае, чаго хоча народ, — гэта забыцца пра той кашмар. На жаль, Лукашэнка скарыстаў з гэтага, каб узяцца за будоўлю новай АЭС у Астраўцы, якая можа стацца найбольшай бядой, якую ён пакіне па сабе беларускаму народу.

**Як Вы ставіцеся да ядзернай энэргетыкі?**

Абсалютна не давяраю ядзернай энэргетыцы. На месцы Ангелы Мэркель я таксама пазбавілася б усіх ядзерных электрастанцыяў.

## Пра палітыку

**Які сусьветны палітычны лідэр у гісторыі ці ў сучаснасьці Вам найбольш сымпатычны?**

У той меры, у якой Папа Рымскі Францішак ёсьць ня толькі рэлігійным лідэрам, назаву яго.

**Якімі прынцыпамі не павінен ахвяраваць палітык?**

Перадусім маральнымі.

**А палітычны дзяяч у Беларусі?**

Абсалютным прыярытэтам мусіць быць незалежная дзяржава Беларусь.

**Як Старшыня Рады БНР Вы трымаецеся партыйнай нэўтральнасьці. Але калі б Вы не займалі гэтай пасады, якая плынь Вам бліжэйшая — кансэрватызм, лібэралізм, сацыял-дэмакратыя ці нешта яшчэ?**

Дзеля таго што я зьяўляюся Старшынёй Рады, на такое пытаньне ў гэтым мамэнце адказваць ня буду.

**Ад якіх памылак Вы хацелі б засьцерагчы маладых палітыкаў?**

Маладыя палітыкі маюць тэндэнцыю ўважаць, што яны ўсё ведаюць і ўсё разумеюць. На жаль, з прычыны іхнага ўзросту не заўсёды бачаць складанасьць або ўсе аспэкты тае ці іншае праблемы. Хацела б ім параіць не адкідаць досьведу старэйшых і браць пад увагу думку і парады сваіх калегаў, у тым ліку і калегаў-жанчын.

**Чаго, на Ваш погляд, не хапае беларускім дэмакратычным палітыкам?**

Я стаўлюся да беларускіх дэмакратычных палітыкаў зь вялікай павагай. Працуюць яны ў вельмі цяжкіх умовах. Праз інфармацыйную блякаду ня маюць магчымасьці расказаць насельніцтву пра свае праграмы і свае дасягненьні. А ўрадавыя апаратчыкі карыстаюць зь любой нагоды, каб іх абліць брудам. Уважаю, што адзінае, чаго ім не хапае, — гэта вольных сродкаў масавай інфармацыі. І свабоды слова.

## Пра сьвет і пра людзей

**Як Вы ўспрымалі Савецкі Саюз у гады яго існаваньня?**

СССР мы ўспрымалі як турму народаў.

**А БССР?**

БССР была адным з гэтых паняволеных народаў. Нашым адзіным жаданьнем было бачыць Беларусь вольнай і незалежнай. Ня верылі, што маскоўскі рэжым да тае ступені здолеў перамыць мазгі народу.

**Вы жылі ў Даніі, Францыі, Гішпаніі і Канадзе. Назавіце па адной адметнай якасьці кожнай нацыі.**

У Даніі мяне найбольш уразіла павага людзей адны да другіх. У Францыі — крытычны погляд на сьвет. У Гішпаніі — гонар. У Канадзе — узаемадапамога ў бядзе.

**Вашыя самыя любімыя месцы ў Парыжы, у Мадрыдзе і ў Атаве.**

Цяжка абмежавацца адным месцам... У Парыжы заўсёды хочацца пасядзець каля Fontaine de Medicis, у Мадрыдзе — прайсьціся па парку Retiro, у Атаве — праехацца ўздоўж каналу Rideau. Заўсёды вельмі добра сябе адчуваю ўва ўсіх мастацкіх музэях: у Люўры і ўва ўсіх іншых галерэях і музэях у Парыжы, у музэях Прада і Каралевы Сафіі ў Мадрыдзе, у Мастацкай галерэі ў Атаве.

**Вам давялося жыць у Гішпаніі на мяжы 1950–60-х, пры Франка. Як адчувалася там ягоная дыктатура?**

У Гішпаніі я жыла ад 1959 да 1969 году. Тады ўжо дыктатура не адчувалася так, як у саракавыя ці пяцідзясятыя гады. Мы пачуваліся вольна. Ніхто за намі не сачыў, ніхто не правяраў пашпартоў. Людзі наракалі, але калі мы ім казалі, што Франка стары і хутка памрэ, дык нават журналісты выказвалі думку, што будзе жыць сто год. Чынавенства паводзіла сябе добра, і беднасьці ў канцы шасьцідзясятых у Гішпаніі не было.

**У Францыі сапраўды найлепшая кухня?**

У маім дзяцінстве і юнацтве ў нас не было сродкаў хадзіць па рэстарацыях. Кухня ў Францыі сапраўды добрая, калі сумленны кухар і ёсьць грошы на прысмакі.

**Што Вам даюць падарожжы?**

Перадусім азнаямленьнне з рэштай чалавецтва. Пакуль што ня бачыла краіны, якая не была б цікавай.

**Ці згодныя Вы з прагнозам, што хрысьціянская Эўропа зьнікне пад экспансіяй ісламскай цывілізацыі?**

Ня зьнікне. Прынамсі ня зьнікне з прычыны экспансіі ісламскай цывілізацыі.

**Як Вы ставіцеся да фэмінізму?**

Паняцьце «фэмінізм» даволі складанае. Калі пытаньне пра тое, ці, на маю думку, жанчыны і мужчыны роўныя, — дык абсалютна.

**Што маглі б зрабіць у палітыцы жанчыны такога, на што ня здатныя мужчыны?**

Жанчыны больш цэняць жыцьцё. Думаю, што знайшлі б спосаб не дапусьціць, каб канфлікты ператвараліся ў войны.

**На Ваш погляд, у лепшы ці ў горшы бок зьмянілі сьвет новыя інфармацыйныя і камунікацыйныя тэхналёгіі (інтэрнэт, сацыяльныя сеткі)?**

Разам з новымі тэхналёгіямі чалавецтва набыло і безьліч новых праблемаў. Магчыма, варта было пачаць з разьвіцьця маральных і людзкіх якасьцяў чалавека... Часам думаецца, што вярнуліся мы да Адама і Евы.

## Пра Беларусь і беларусаў

**Самае прыгожае месца ў Беларусі, на Ваш погляд.**

На маю думку, няма ў Беларусі месца, якое адно можна назваць найпрыгажэйшым. Кожны куточак яе для мяне мілы. Ад Браслаўскіх вазёраў да Палесься, ад Белавескай пушчы да Віленшчыны, ад Полацку і да Воршы.

**Ці спадзеяцеся зноў прыехаць у Беларусь?**

Жылі мы з мужам усё жыцьцё надзеяй, што вернемся ў Беларусь. А тата дык нават адмовіўся эміграваць за акіян, бо, казаў, «з Францыі будзе лягчэй вярнуцца дахаты».

**Калі б у Вас зьявілася магчымасьць наведаць толькі тры месцы ў Беларусі — што б гэта было?**

Вельмі цяжкое пытаньне. З аднаго боку, хацелася б ізноў пабачыць Засульле, Стоўпцы, Баранавічы, наведаць Ішкалдзь, пабываць у вельмі мне мілай малой бацькаўшчыне майго

мужа — на Смаргоншчыне... Але адначасна — яшчэ не была ў Полацку, у Наваградку, на Палесьсі! Хацелася б наведаць кожны горад, кожнае мястэчка, кожную вёсачку Беларусі.

**Якім якасьцям беларусаў могуць пазайздросьціць іншыя нацыі?**

Згаджаюся з Максімам — месцу, якое займае прыгаство ў жыцьці нашага народу.

**А якіх якасьцяў беларускага нацыянальнага характару пажадана было б пазбыцца?**

Не хапае ў нас салідарнасьці.

**Якая краіна, на Ваш погляд, можа быць найбольш надзейнай хаўрусьніцай Беларусі?**

Пакуль Беларусь ня стане на ногі — ніякая. Затое маю вялікія надзеі на эўрапейскую будучыню Беларусі.

**Ці верыце Вы ў тое, што калі-небудзь Расея будзе падтрымліваць сувэрэнітэт Беларусі?**

Не.

**Што дапамагае Вам верыць у будучыню Беларусі?**

Усё жыцьцё верыла, што наш цудоўны край калісьці станецца паўнавартаснай эўрапейскай дзяржавай. Гэта была нейкая глыбокая, магчыма, генэтычная ўпэўненасьць.... Заўсёды верыла: калі беларусы зразумеюць, што ад іх залежыць будучыня свае зямлі, ды перастануць верыць хлусьлівай прапагандзе «братняга народу» — адзінаю мэтаю якога ёсьць адабраць у іх волю ўзяць свой лёс у свае рукі — тады забудуцца, што «іхная хата з краю»!

**Ці верыце вы, што ў Беларусі нейкі асобны, адметны шлях, альбо ёй давядзецца прайсьці тым жа шляхам, што і яе эўрапейскім суседзям?**

Упэўненая, што наш край можа стацца другой Даніяй, Швайцарыяй ці Ісьляндыяй.

**Якой Вы ўяўляеце Беларусь праз 100 гадоў?**

Дзякуючы здольнасьцям і працавітасьці беларускага народу краіна нашая, як Данія, будзе ў 2118 годзе адной з найбольш разьвітых дэмакратыяў Эўропы. Безумоўна, спадзяюся, што да таго часу народ наш зразумее, што ад яго залежыць будучыня краіны.

## І яшчэ пра сябе

**Што б Вы зьмянілі ў сваім жыцьці, калі б можна было пражыць яго зноў?**

Калі б мела магчымасьць пражыць жыцьцё зноў, зьмяніла б сваё дзяцінства. Хацела б пазнаць дзяцінства без вайны. І пражыць жыцьцё ў «ціхай і ветлай» незалежнай дзяржаве Беларусі.

**Ці баіцеся Вы сьмерці?**

Не.

**Як Вы думаеце, што застанецца пасьля Вас?**

Спадзяюся, што толькі добрыя ўспаміны :-) Але пра гэта ня мне казаць.

**Самая галоўная выснова з жыцьця, якую вы хацелі б перадаць беларусам — і сучасьнікам, і тым, хто будзе пасьля?**

За мае больш як восемдзесят гадоў жыцьця давялося мне шмат перажыць, шмат пабачыць, шмат чаго асэнсаваць і часам нават знайсьці адказы на дасюль незразумелыя загадкі жыцьця.

Як і іншыя беларусы замежжа, я ўсё жыцьцё спадзявалася, што дачакаемся волі і дабрабыту любімага краю. У 1991 годзе Беларусь аднавіла незалежнасьць, але бел-чырвона-белы сьцяг лунаў над Бацькаўшчынай нядоўга — дэмакратычныя ператварэньні былі здушаныя. Падазраю нават, што дасюль шмат маіх суродзічаў не разумеюць, што такое сапраўдная свабода, свабода слова, чаму іншыя народы так цэняць людзкія правы, чаму кара сьмерцю непрымальная для цывілізаванага чалавека, чаму грамадзтву для сужыцьця патрэбная салідарнасьць.

Падняўшыся яшчэ на адну прыступку лесьвіцы, людзі зразумелі б, што чалавеку ня так патрэбныя грошы, як любоў і павага сваіх і чужых, што аддаваць — большае задавальненьне, чым атрымоўваць. І што прысьвяціць сваё жыцьцё будоўлі ўласнага беларускага дому — важней, як пакласьці колькі рублёў на рахунак у банку.

Дык гэта можа і ёсьць галоўнай высновай майго жыцьця. Толькі зьяднанымі і салідарнымі мы збудуем наш беларускі дом. Толькі калі шчодрасьць, шляхотнасьць пачуцьцяў і ўзаемапавага стануць для нас большымі каштоўнасьцямі, чым асабістыя амбіцыі ды матэрыяльныя здабыткі, мы зоймем пачэснае месца ў сям'і разьвітых народаў сьвету.

Пытаньні склаў Сяргей Навумчык

*Прага—Атава, 2018*

# Паказьнік асобаў

# Summary

*The Road from Stoupcy to Copenhagen to Paris to Madrid to Ottawa to Miensk. 2nd edition.*

The Memoirs of Ivonka Survilla, President-in-Exile of the Council (Rada) of the Belarusian Democratic Republic (BNR).

On March 25, 1918, a new independent country came into existence — the Belarusian Democratic Republic (BNR). Although the BNR had its own ministers and ambassadors, and its sovereignty was recognized by several European countries, it survived for a mere nine months: on orders from Moscow, Bolshevik forces brutally crushed the aspirations of theBelarusian people to develop their own sovereign, democratic state. BNR leaders were forced into exile. Today, the BNR Council has the dubious distinction of being Europe's last government-in-exile.

In this memoir, Ivonka Survilla recalls her childhood in Belarus and the difficult years of emigration in Denmark and France, where she and her parents were initially forced to flee. Survilla later graduated from Paris' Sorbonne and worked for a Belarusian radio station in Spain. After immigrating to Canada, she became active in the world of arts and philanthropy — organizing exhibits of her paintings, lecturing on Belarusian history and culture, and creating a charitable fund for young victims of the Chernobyl nuclear disaster.

Survilla attempts to answer the question — what might unite the Belarusian people in their quest towarddemocracy for their native land.

"Liberty Library" is a repository of selected programs produced by Radio Liberty/Radio Free Europe's Belarus Service.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03–25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.




**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.* **Імёны Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.* **Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.* **Мой шыбалет.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў.**
**Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька.**
**Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня.**
**Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.** Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.* **Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.* **Справа Бяляцкага.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.* **Турма і здароўе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.* **Хто ўзарваў менскае мэтро?** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.* **Жывая мова.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.










*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.

*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.

*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015.
668 с.: іл.

